# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



**BELARUSIAN DIGEST**

**ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 3(86) | Сакавік 2001 March | Год. выд. 9.




*25-га САКАВІКА*












**Спадар Алесь РАЖАНЕЦ — ведамы беларускі працаўнік на ніве беларускага адраджэньня ў Лёндане, Англіі, вялікі патрыёт свайго народу родам са Случчыны, дзейны прыхільнік беларускае дзяржаўнасьці.**

**Паважаны Алесь! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**



**Уладзімер Ляхоўскі**

# Галоўны закон беларускага жыцьця

*Абвяшчэньне Беларускай Народнай Рэспублікі й справа змаганьня за Незалежную Беларусь*

Пасьля кастрычніцкага перавароту 1917 г. прававая расейская сыстэма разбурылася, на яе месца насоўваўся бальшавізм. Край маўчаў ды мадзеў. Здавалася, што няма тае згуртаванае сілы ў народзе, якая здолее ўзяць на сябе адказнасьць за лёс бацькаўшчыны. Але такая сіла была – Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, абраная на Ўсебеларускім зьезьдзе ў сьнежні 1917 г. Насамрэч, ні Ўсебеларускі зьезд, ні Рада БНР з сучаснага прававога гледзішча не зьяўляліся паўнавартаснымі прадстаўнікамі беларускага народу, выбранымі на падставе ўсеагульнага, тайнага народнага галасаваньня. Гэткае волевыяўленьне было немагчымым ва ўмовах пэрманэнтных акупацыяў Беларусі. Але Рада БНР на той час была адзіным дэмакратычным прадстаўнічым органам у Беларусі, які мог выступаць у абарону правоў свайго народу, прэзэнтаваць яголыя інтарэсы ў сьвеце. Усьведамляючы сваю адказнасьць за лёс Бацькаўшчыны, за яе будучыню, 25 сакавіка 1918 г. Рада прыняла гістарычны акт пра незалежнасьць. Аляксандар Цьвікевіч ёміста ды проста сфармуляваў сутнасьць і значэньне гэтай падзеі: "Права на незалежнасьць разумеецца само сабой… акт 25 Сакавіка не шукае для сябе апраўданьня… ён сваім зьместам зацьверджае правечнае права народаў Беларусі на волю… Праўда, дзякуючы акту 25 Сакавіка Беларусь ня стала незалежнаю дзяржавай. Але гэта ня зьменшае надзвычайнай, гістарычнай вартасьці гэтага акту як галоўнейшага закону беларускага вызваленчага руху, усяго беларускага адраджэньня. Ён стаў не законам, праведзеным у жыцьцё, але стаў <u>законам беларускага жыцьця</u> (падкрэсьлена мной. — У. Л.)."

Гісторыя БНР зноўку сталася актуальнай напрыканцы 1980-х, калі беларускія нацыяналісты на чале зь Зянонам Пазьняком стварылі БНФ і ўзьнялі пытаньне дзяржаўнай незалежнасьці. Тады на ўвесь голас было сказана, што ўтвораная ў 1918 г. БНР была рэальнай спробай стварыць сваю нацыянальную дзяржаву. Прыход да ўлады ў 1994 г. рэваншысцкага прарасейскага рэжыму і рэсаветызацыя краіны замарудзіла працэс нацыянальнага самаўсьведамленьня грамадзтва і аб'ектыўнага асэнсаваньня нацыянальнай гісторыі. Наш абываталь у сваёй большасьці дагэтуль блытае БНР з БНФ. Задамося пытаньнем: чым жа насамрэч была Беларуская Народная Рэспубліка?

Савецкія падручнікі тлумачылі: БНР — "правакацыя беларускага народу" з боку нацыяналістаў (зладжаная нямецкімі і польскімі акупантамі, а таксама краінамі Антанты), якія імкнуліся адарваць Беларусь ад "братняй" Расеі. На пачатку 1990-х, за кароткі час дэмакратызацыі й беларусізацыі атрымала права на жыцьцё іншая трактоўка: БНР — "беларуская дзяржава, утвораная ў 1918 г." ("Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі", 1993).

Пачнем з вызначэньня тэрыторыі БНР. Другая Ўстаўная Грамата дэкляруе: "Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай". Тым самым сьцьвярджалася, што Беларусь непадзельная і ніхто, акрамя народу Беларусі, ня мае права вяршыць ягоны лёс і валадарыць на ягонай зямлі.

Аднак панаваньне чужынцаў на беларускай зямлі працягвалася, таму гэты канстытуцыйны пастулят так і не пераўтварыўся ў закон і застаўся дэклярацыяй пра намеры.

Часавыя абсягі існаваньня БНР выклікаюць шматлікія спрэчкі. Асобныя дасьледнікі абмяжоўваюць ейную чыннасьць 1918-м годам (студзень—сьнежань), калі Рада ды Ўрад БНР дзейнічалі ў Менску. У гэтым ёсьць пэўная лёгіка. Пасьля звароту ў Менск бальшавікоў Рада Рэспублікі фактычна перастала існаваць (апошні раз у поўным складзе яна зьбярэцца на пару дзён у акупаваным палякамі Менску

**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

толькі ў сьнежні 1919 г.), а ейны Урад стаў урадам у выгнаньні. Іншыя лічаць, што хранагёгію чыннасьці БНР трэба пашырыць да 1921 г., г.зн. да заканчэньня польска-савецкае вайны ды падпісаньня Рыскае дамовы, калі Беларусь падзялілі Польшча і бальшавіцкая Расея. Трэція, якія сяньня складаюць бальшыню, дацягваюць ейную дзейнасьць да 1925 г., калі на 2-й Бэрлінскай агульнанацыянальнай палітычнай нарадзе група А.Цьвікевіча ліквідавала ўрад БНР. А можна лічыць годам зьнікненьня БНР 1943-і, калі памёр Васіль Захарка, тагачасны ейны прэзыдэнт. А чым тады лічыць сяньняшнюю Раду БНР на эміграцыі – легітымным прадстаўніцтвам беларускага народу ў выгнаньні ва ўмовах акупацыі краіны (гэта пры 10-гадовым існаваньні Рэспублікі Беларусі) ці ідэалягічнай асамблеяй, што прэзэнтуе "праўную пераемнасьць дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі"?

Адкажам проста: Беларуская Народная Рэспубліка як рэальная дзяржава з усімі клясычнымі атрыбутамі дзяржаўнасьці ў 1918 г. да канца ня зьдзейсьнілася. Найбольшыя ейныя посьпехі бачныя на ніве разьвіцьця нацыянальнай культуры й асьветы, выдавецкай дзейнасьці. Вельмі сьціпла выглядаюць здабыткі БНР у справе арганізацыі нацыянальнага войска, рэалізацыі фінансава-эканамічных праектаў. Пэўных вынікаў дасягнулі беларускія дзеячы ў дыпляматычнай чыннасьці. Былі ўтвораныя дыпляматычныя прадстаўніцтвы й консуляты БНР ў Бэрліне, Коўне, Рызе, Капэнгагене, Празе, Парыжы, Стамбуле ды іншых эўрапейскіх сталіцах. Дзякуючы намаганьням Клаўдзія Дуж-Душэўскага, Кастуся Езавітава, Кузьмы Цярэшчанкі, Аляксандра Цьвікевіча Беларуская Рэспубліка дэ-юрэ была прызнаная ўрадамі Украіны, краінаў Балтыі (Літвы, Латвіі. Эстоніі) ды Фінляндыі. Рэальных наступстваў у справе прызнаньня Беларусі як суб'екта міжнароднага права гэта не прынесла. Заходняя Эўропа тады, на жаль, засталася абыякавай да голасу прадстаўнікоў беларускага народу. Падчас працы Парыскай мірнай канфэрэнцыі ў 1919—1920 г. палякі і прадстаўнікі белай расейскай эміграцыі перашкодзілі дэлегацыі БНР узяць удзел у паседжаньні.

БНР можна характарызаваць як палітычную інстытуцыю, утвораную ў 1918 г. з арганізацыйных структураў першага агульнанацыянальнага форуму — Усебеларускага зьезду 1917 г., якая мела на мэце дасягненьне рэальнай незалежнасьці Беларусі. І хранালягічная цягласьць БНР будзе доўжыцца, покуль задачы па будаваньні сувэрэннае Беларусі застаюцца актуальнымі.

Аб'ектыўныя ды суб'ектыўныя прычыны перашкодзілі беларускай нацыянальнай эліце ў 1918 г. дамагчыся дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі. Аднак у той час была сфармаваная яе ідэалёгія. Паводле Ўстаўных Граматаў фундамэнт дзяржаўнасьці будаваўся на прынцыпах парлямэнтарызму, дэмакратычнага выбарчага права й падзелу ўладаў, на аснове свабодаў і роўнасьці для ўсіх грамадзянаў краіны, не зважаючы на іхную нацыянальную ды канфэсійную прыналежнасьць. Для прадстаўнікоў іншых этнічных групаў абвяшчалася "права на нацыянальную-пэрсанальную аўтаномію …роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі". Прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў бралі чынны ўдзел у стварэньні Беларускага агульнага Дому. Гэбраі Мойша Гутман, Самуіл Жытлоўскі, Ісак Лур'е, Давід Анэкштэйн, Бруна Мілер актыўна працавалі ў структурах ураду БНР, а татары Гасан Канапацкі ды Якуб Якубоўскі спрычыніліся да стварэньня беларускага войска. Ёсьць і цалкам адваротныя прыкрыя прыклады, калі самі беларусы варожа ставіліся да ідэі незалежнасьці. (Ідэоляг правых расейскіх шавіністаў, аўтар "Народной монархии" Іван Саланевіч калісь пісаў, што ён "стопроцентный белорус", але выхаваны не на нейкім там Янку Купалу, а на Пушкіну й Дастаеўскім ды выступаў заўсёды за "единую Россию", а не за нейкі там сойм у Вільні або Менску.)

Штопраўда, лявіца ў Радзе ды Ўрадзе БНР (перадусім эсэры) не адракаліся ідэі будаваньня нацыянальнай дзяржаўнасьці на савецкай аснове (так, у канстытуцыйных актах БНР праводзіцца ідэя скасаваньня прыватнае ўласнасьці на зямлю). Іхная апантанасьць ідэямі ўсталяваньня ў Беларусі "дыктатуры працоўных масаў" ды сусьветнае сацыялістычнае рэвалюцыі адштурхнула ад іх значную частку патрыятычна настроенага грамадзтва, найперш зь ліку заможнікаў. Аднабокасьць палітычнага спэктру беларускага вызвольнага руху першае паловы XX ст., дзе пераважалі сацыялісты й левыя радыкалы, ідэалягічныя памкненьні якіх ня мелі сур'ёзнае альтэрнатывы з боку правацэнтрысцкіх ды лібэральных партыяў, доўгі час шкодзіла справе згуртаваньня адзінага незалежніцкага лягеру. А ці разумелі левыя радыкалы, чаго насамрэч хацелі беларускія сяляне, інтарэсы якіх яны імкнуліся бараніць? "Наагул, – пісаў адзін з ідэолягаў маладое плыні беларускага нацыянальнага руху Рыгор Злоцкі, — трэба адзначыць, што на Беларусі сярод беларускіх сялянаў не было камуністаў. Ідэя камунізму чужда для беларуса, часткаю праўда да гэтага прычасна наша інтэлігенцыя, апынуўшаяся ў трагічным становішчы. Большасьцю жа насіцеляў камуны зьяўляецца брадзячы беларускі элемэнт, выхаваны на расейскіх фабрыках".

Менавіта пад уплывам ідэалёгіі БНР быў ідэйна разгромлены беларускім нацыянальным адраджэньнем "западноруссизм". Нямала ідэйных "западноруссов" перайшлі на беларускія адраджэнскія пазыцыі (Тодар Вернікоўскі, Васіль Рагуля, Аляксандар Карабач). Галоўнай пагрозай беларускаму руху зрабілася ідэалёгія бальшавізму – новае формы маскоўскага імпэрыялізму, які нярэдка хаваўся пад маскаю нацыянал-камунізму.

Апагеем чыннасьці БНР стала прыняцьце 25 сакавіка 1918 г. Трэцяй Устаўной Граматы, якая абвяшчала сувэрэнітэт Беларусі й дзяржаўны разрыў з Расеяй. Важнаю тут уяўляецца праблема прававога ды маральнага вызначэньня Акту 25 Сакавіка. Прыняцьце Сакавіцкага Акту – галоўная падзея ў гісторыі Беларусі XX ст. Ейныя ворагі, учорашнія ды сёньняшнія, лямантуюць пра тое, што прыняцьце акту пра незалежнасьць Радаю Рэспублікі зь юрыдычнага боку было нелегітымным. Аднак веліч гэтай падзеі не патрабуе ідэалягічных замоўчваньняў і стварэньня мітаў. Калі аналізаваць гісторыю з пункту гледжаньня "легітымнасьці" гэткага кшталту, нават укрыжаваньне Ісуса Хрыста можа падацца законным, бо таго пажадаў натоўп.

Што ўяўляла зь сябе Беларусь напярэдадні абвяшчэньня Незалежнасьці? Разбураная вайною гаспадарка, больш за мільён уцекачоў на абшарах Расейскай імпэрыі, адсутнасьць грамадзянскае супольнасьці, трывалых дэмакратычных традыцыяў, дэнацыяналізаваная большасьць тутэйшае інтэлігенцыі ды сярэдняе клясы грамадзтва, чужародная небеларуская буржуазія і прадпрымальніцтва. (Адзін красамоўны факт: паводле зьвестак з 500 анкетаў настаўнікаў сярэдніх і пачатковых школаў Віцебшчыны, пададзеных у 1918/19 навучальным годзе ў тамтэйшы губэрнскі аддзел народнай адукацыі, толькі 3 чалавекі з апытаных пазначылі сваёю роднаю мовай беларускую(!). У Менску, які стаў у той час фарпостам беларускага вызвольнага руху, з 200 пэдагагічных працаўнікоў беларускай мовай пры выкладаньні ў навучальнай установе карысталіся ад сілы 30—40.)

У сытуацыі, калі незалежніцкі рух не набыў яшчэ "крытычнае" вагі, калі людзкі рэсурс беларускага адраджэньня быў нешматлікім, беларускія нацыянальныя дзеячы нярэдка ў палітычнай барацьбе паміж сабой за асабістыя ды групавыя інтарэсы забываліся пра мэту сваёй чыннасьці. Нямногія разумелі згубнасьць міжпартыйных звадак. Адзін зь лідэраў Найвышэйшай Рады БНР Кузьма Цярэшчанка пісаў свайму нядаўняму апанэнту Вацлаву Ластоўскаму 15 ліпеня 1920 г.: "Павінен быць скрыты ядзіны нацыянальны фронт… Ня час тапер дзяліць сьведамых беларусаў на правых і левых. Усех нас аб'едзіняе агульная мэта — незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны". Калі цэнтрысты (сацыял-дэмакраты, народныя сацыялісты, хадэкі) усё больш схіляліся ў сваёй палітычнай дзейнасьці да шляху эвалюцыі, дык прыхільнікі левае радыкальнае плыні (эсэры і большасьць сацыял-фэдэралістаў) ратавалі за "чыстую лінію" нацыянальнае рэвалюцыі. У выніку, пры канцы 1920 г. разьядналая палітычная нацыянальная эліта не была гатовая ні маральна, ні арганізацыйна да масавага ўздыму беларускага сялянства супраць "польскага пана ды маскоўскага камісара"."Сяляне ўбачылі…, — пісаў у той час Злоцкі, — усё тое, што нясуць камуністы — чужое для іх, а ў камуне самой бачылі для сябе кабалу. Вось тут яны і ўхапіліся за прынцып самаазначэньня. Утварылася такім чынам рэальная апазыцыя кампартыі. Расейцы-камуністы спалохаліся гэтай думкі сярод селян аб "буржуазнай" незалежнасьці і пайшлі на ўступкі, прыпадносячы эрзац-незалежнасьць з погляду кампартыі і аб'явіўшы барацьбу правадырам "буржуазнай" (народна-дэмакратычнай) незалежнасьці". Чаго так дамагаліся беларускія рэвалюцыянэры, адбылося насамрэч, але бязь іх. Хто ў гэты час сядзеў у Варшаве, хто ў Коўне і Рызе. Трагізм Слуцкага збройнага чыну і дзясяткаў іншых антыбальшавіцкіх паўстаньняў вядомы.

Усё ж, колькі словаў пра "айцоў" БНР. Іван ды Антон Луцкевічы, узгаданыя раней Ластоўскі, Цярэшчанка, Дуж-Душэўскі, Езавітаў і Цьвікевіч, а таксама Тамаш Грыб, Янка Чарапук, Васіль Захарка, Пётра Крэчэўскі, Янка Станкевіч, Язэп Варонка, Лявон Вітан-Дубейкаўскі... Яны паўстаюць перад намі жывымі людзьмі, кожны са сваім уласным "ego", са сваімі схільнасьцямі, сымпатыямі ды антыпатыямі. Часам рабілі памылкі, часам былі не на вышыні. Але іх цяжка папракнуць у адсутнасьці любові да Бацькаўшчыны, адказнасьці за яе будучыню. Яны хварэлі сэрцам за Беларусь, аддавалі ёй свой талент і

энэргію. Сучасны расейскі гісторык-"дэмакрат" Уладзімер Булдакоў пры ўсёй сваёй "пранікнёнасьці" так і не зразумеў сутнасьці нацыянальнага ўздыму "недзяржаўных" народаў былой Расейскай імпэрыі. За г.зв. "сэпаратызм" ён цынічна назваў нацыянальных дзеячоў — беларусаў, украінцаў, грузінаў, прадстаўнікоў іншых народаў — "этнамаргіналамі". Выхаванаму на імпэрскіх традыцыях, яму, відаць, цяжка ўцяміць, што галоўнае крэда лідэраў нацыянальна-вызвольнага руху былых паняволеных нацыяў Расеі было й ёсьць не "русафобія", а ідэалы свабоды: для кожнага народу, грамады, асобы, задачы не разбуральныя, але стваральныя — будаваньне свайго ўласнага дому. Некаторых зь іх па-сапраўднаму можна назваць рыцарамі высокага духу й свабоды. У 1925 г., у час расчараваньняў, духоўнага і фізычнага зьнясільля ў лягеры беларускіх незалежнікаў, тагачасны прэзыдэнт БНР Пётра Крэчэўскі зьвяртаўся да сваіх сяброў ды аднадумцаў, паказваючы прыклад дзяржаўнай мужнасьці й веры ў ідэалы Вольнай Беларусі: "Пытаюцца, калі ж настане гэты час. Усім надзвычайна цяжка насіць гэтыя пачэсныя тытулы, ня маючы пашаны нават ад палітычна думаючых у Краі калег. Так, цяжка... Аб гэтым кожны павінен быў падумаць у час, як яго выбіралі на пэўнае становішча. Цяпер аб гэтым думаць позна. Трэба ведаць, што ўлада — ня радасьць і асабісты дабрабыт, а крыж, які народ ускладае на плечы лепшых сыноў, каб яны зрабілі тое, чаго ня можа зрабіць народ сам. Ня трэба пэсымізму і безнадзейнасьці — трэба цьвёрда ісьці да сваёй мэты, тады хутчэй можа наступіць і канец нашаму крыжу, які мы з гордасьцю і задавальненьнем паложым у ног выбраўшага нас народу і скажам, што мы з чэсьцю выпаўнілі свой абавязак". "Наша Ніва"

***************************************

# "Бацькаўшчына" кліча

**Галіна Жарко – "Радыё Рацыя"**

### АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНЫ ФОРУМ ТРЭЙЦІ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ "БЕЛАРУСЬ І БЕЛАРУСЫ НА МЯЖЫ ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЯЎ"

"Беларусь і беларусы на мяжы тысячагодьдзя" -- тэма, якой будзе прысьвечаны **ІІІ-ці Зьезд беларусаў сьвету.** На зьезьдзе мяркуецца вырашыць мноства практычных і тэарэтычных пытаньняў. Ёсьць і прававы аспэкт. Менавіта зьезд абірае кіраўнічыя органы Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Ад папярэдняга зьезду мінула якраз 4 гады, таму зьезд павінен пераабраць Раду арганізацыі. Якія яшчэ пытаньні будуць унесеныя ў праграму сёлетняга зьезду, ці будзе ён адрозьнівацца ад двох папярэдніх?

Варта адразу ўнесьці яснасьць: Зьезд Беларусаў Сьвету - гэта ня тое самае, што зьезд беларусістаў.

**Алена Макоўская:** - Зьезд беларусаў сьвету ставіць перад сабою ня толькі навуковыя мэты. Галоўная мэта зьезду -- гэта кансалідацыя беларускае нацыі. Умацаваньне беларускае грамадзянскае супольнасьці.

Нагадаем, што зьезд беларусаў сьвету -- гэта форум, які праводзіцца згуртаваньнем "Бацькаўшчына", створаным у 1990 г. Гэта чарговы -- ужо трэці -- зьезд. Першы быў у 1993, другі -- у 1997 г.

**А.М.:** -- Мы зараз рассылаем не запрашэньні, а паведамленьні нашым суполкам, сябрам арганізацыі пра тое, **што 5-6 ліпеня 2001 г. будзе мець месца III Зьезд беларусаў сьвету.** І прошу выказаць іх меркаваньні, думкі і прапановы.

**Г.Ж.:** -- А якая прыкладна колькасьць запрашэньняў рассылаецца, якая колькасьць суполак?

**А.М.:** -- Іх вельмі шмат. Гэта суполкі ў дальнім замежжы й таксама ў Расеі, Украіне, Малдове, Польшчы. Што тычыцца колькасьці, дык гэта каля сотні суполак.

Лягчэй пералічыць краіны, у якіх няма суполак. Пакуль што яны ня ўтвораныя ў Нямеччыне, у Італіі, хоць, вядома, беларусы ў гэтых краінах жывуць.

Пытаньне пра мэты III Зьезду беларусаў сьвету адрасую аднаму з сустаршыняў "Бацькаўшчыны" Івану Саверчанку. Ці адрозьніваюцца мэты III Зьезду ад мэтаў двох папярэдніх?

**І.С.:** -- Мэта застаецца той жа, дзеля якой стваралася арганізацыя. Гэта кансалідацыя беларускае нацыі -- мэтраполіі ды нашае дыяспары. Гэта магчымасьць выяўленьня ідэалаў і чаканьняў беларусаў сьвету. Так мы фармулюем мэту. Ёсьць, канечне, і спэцыфічныя задачы. Таму што ўзьніклі новыя праблемы беларускай эміграцыі. І таму ўзьнікае неабходнасьць іх вырашэньня.

**Г.Ж.:** -- Можа быць, гэтая праблема зьвязаная з тым, што беларусы -- найлепшыя беларусы -- шукаюць прытулку за мяжою?

**І.С.:** - Гэтая праблема існуе. Але я б не сказаў, што яна зьяўляецца дамінантнай. Гаворка ідзе пра тое, каб спрыяць нашай дыяспары. Але на практыцы адбываецца ўзаемазацікаўленае супрацоўніцтва. Неабходнасьць у гэтай арганізацыі й адчуваюць і ў дыяспары, і ў людзей, якія жывуць тут. Хоць праблема, натуральна, ёсьць. Шмат людзей зьвяртаецца, якія едуць у Амэрыку, у Нямеччыну, у Англію. Яны пытаюцца, калі ў іх мала кантактаў, ці ёсьць там беларускія суполкі. І гэта вельмі добра, што нашы людзі цягнуцца да сваіх людзей. Я бачу ў гэтым сэнс існаваньня нашай арганізацыі, нашай структуры. Ідзе жывы працэс беларускага жыцьця. І існуе неабходнасьць хоць раз у чатыры гады сабраць зьезд. Каб людзі пагдядзелі адзін аднаму ў вочы, пакантактавалі, навязалі больш шчыльныя кантакты чалавечыя, прафэсійныя. І ў гэтым таксама задача зьезду. Думаю, цягам зьезду мы не абмінем дыскусіі аб шляхах разьвіцьця Беларусі. Будуць абмеркаваныя працэсы дэмакратычнае трансфармацыі беларускага грамадзтва.

**Г.Ж.:** -- Скажэце, калі ласка, як, на вашую думку, улады паставяцца да гэтага мерапрыемства? Яны ня будуць чыніць перашкодаў?

**І.С.:** - Ад нашых уладаў... Я б не ўжываў прыналежны займеньнік "нашыя" ўлады. Я б сказаў: ад гэтае ўлады, асабіста ад Лукашэнкі можна чакаць ўсяго, што заўгодна. У гэтым пераканалася й нашае грамадзтва, і і ўлады. Я абсалютна ўпэўнены, што зьезд пройдзе й ніякія фокусьнікі не перашкодзяць правядзеньню гэтага зьезду. Мы не чакаем спрыяньня ні ад каго. Я маю на ўвазе ўзурпатара ўлады. Я не чакаю ніякае падтрымкі, але што тычыцца дыктату, мы не дазволім дыктаваць нашай грамадзкай арганізацыі нейкія ўмовы. Існуюць чуткі, што ўлады маюць сустрэчныя ініцыятывы правесьці зьезд беларусаў сьвету ці нейкі іншы форум у піку таму, што мы заплянавалі, і канцэпцыю якога мы шырока на працягу некалькіх месяцаў абмяркоўваем па сваіх суполках. Праўда, да нас у Бацькаўшчыну не зьвярталіся.

**Г.Ж.:** -- Беларусы сьвету, якія зьбіраюцца на свой трэці зьезд, не падтрымліваюць той палітыкі, якую праводзіць Беларусь. І таму ўлады ня будуць вітаць факту правядзеньня зьезду.

**І.С.:** -- Ніхто зь людзей, у якіх усё нармальна з мазгамі, не падзяляе паводзінаў Лукашэнкі - гэтага дзікага чалавека. Мы ня будзем, на жаль, на зьездзе ставіць пытаньне аб перавыбарах прэзыдэнта ці парлямэнту. Такая мэта ня ставіцца, бо прыедуць грамадзяны іншых краінаў. Яны жывуць нашымі клопатамі, будуць выказваць сваё разуменьне, паказваць шляхі выйсьця, пераконваць нас у сваім досьведзе, але, падкрэсьліваю, зьезд ня будзе выбіраць ні прэзыдэнта, ні парлямэнт. Гэта ўнутраная праблема нашае грамадзянскае супольнасьці. Мы самі павінны гэта вырашыць, а не беларусы, якія зьяўляюцца грамадзянамі іншых краін.



# Алег Трусаў: "Рускамоўныя кандыдаты нам не патрэбныя"

**Севярын Квяткоўскі**

Савет Рэспублікі плянуе займацца заканатворчасьцю на дзьвёх дзяржаўных мовах: ня толькі на расейскай, але й на беларускай. У інтэрвію для Радыё Рацыя старшыня Таварыства беларускае мовы Алег Трусаў (на здымку) заявіў, што крок заканадаўцаў найперш зьвязаны з высілкамі ТБМ.

"Прэзыдэнт Беларусі падтрымаў прапанову галавы Савету Рэспублікі пра мэтазгоднасьць прыняцьця законапраектаў на дзьвёх дзяржаўных мовах" -- гэтак гучыць інфармацыя, якую распаўсюдзіла дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва БелТА 7 лютага.

Як паведаміў для РР Алег Трусаў, адразу пасьля парлямэнцкіх выбараў Таварыства беларускае мовы скіравала лісты на імёны старшыняў камісіяў з запытам, ці ведаюць парлямэнтары беларускую мову й ці зьбіраюцца карыстацца ёю ў заканатворчасьці? ТБМ прапанавала арганізаваць бясплатныя курсы для тых дэпутатаў, хто не валодае беларускай мовай. Адказ стаўся сэнсацыйным. Распавядае Алег Трусаў.

**А.Т.:** - Мы атрымалі адказы ад сакратарыяту Палаты, дзе яны ласкава адмаўляюцца ад ТБМаўскіх курсаў для дэпутатаў: маўляў, усе дэпутаты ведаюць абедзьве мовы - усё нармальна. Але неўзабаве ТБМ пачаў атрымліваць лісты ад старшыняў розных парлямэнцкіх камісіяў. Лісты напісаны някепскаю беларускаю моваю й утрым-



ліваюць інфармацыю пра найлепшае стаўленьне ўсіх дэпутатаў да нацыянальнае мовы.

**А.Т.:** -- Пасьля таго, як мы пачалі пісаць, Камісія па адукацыі й культуры пачала ўжываць беларускую мову для сваёй унутранай перапіскі. Мы ўжо атрымлівалі копіі гэткіх лістоў. Калі на іх ніхто ўвагі не зьвяртаў, дык яны ўсё па-расейску рабілі й былі цалкам задаволеныя. Такім чынам, мы бачым, што ў выніку нашае дзейнасьці, Папоў мусіў папрасіць у прэзыдэнта дазволу выконваць законы Канстытуцыі.

Посьпех ТБМ на полі Парлямэнту спадар Трусаў зьвязвае найперш з імём старшыні Палаты Прадстаўнікоў Вадзімам Паповым. Зрэшты, колішні дэпутат Вярхоўнага Савету БССР Алег Трусаў далёкі ад ілюзіяў.

**А.Т.:** -- Я думаю, што усё гэта зроблена напярэдадні выбараў. Таму што зараз пытаньне мовы сталася адным з прынцыповых казыроў у руках тых, хто сьведчыць пра парушэньні правоў чалавека: у першую чаргу, права на ўжываньне дзяржаўнае беларускае мовы.

Алег Трусаў мяркуе, што ўлады маюць шанец разыграць беларускамоўную карту, паколькі, паводле апошняга перапісу насельніцтва, тры чвэрці дарослых жыхароў Беларусі назвалі сваёй роднай мовай менавіта беларускую. Справа ня ў тым, ці карыстаюцца беларусы роднаю моваю. Справа ў тым, як яны да яе ставяцца. ТБМ падрыхтаваў зварот да кандыдатаў у прэзыдэнты з заклікам не цурацца беларускае мовы ў перадвыбарчай агітацыі.

**А.Т.:** -- Цяпер мы бярэмся за рускамоўных дэмакратаў - усіх гэтых таквзаных кандыдатаў у прэзыдэнты, якія ў дзьвёхмоўнае "Народнае Волі" толькі па-расейску друкуюць свае агіткі. Ні Казлоўскі, ні Домаш, ні Ганчар, ні Чыгір па-беларуску яшчэ не надрукавалі ў "Народнай Волі" аніводнага матар'ялу. Будзем і на іх ціск чыніць, бо нам рускамоўныя кандыдаты не патрэбныя.

Зварот Таварыства беларускае мовы да кандыдатаў у прэзыдэнты будзе апублікаваны найбліжэйшым часам. Паводле - "РР"

# ЧАС ПРАЦУЕ НА НАС

Мне ня выходзіць з памяці 1991 год. Колькі надзеяў ён нам абяцаў і дарыў! Нечувана абудзілася Беларусь, адчувалася ўзьнёсласьць думак і спраў...

Добра памятую сваю радасьць за перамогу дэмакратыі ў Расеі, за абвяшчэньне незалежнасьці беларускай дзяржавы. Здавалася, сам Бог за шматгадовыя пакуты й незьлічоныя ахвяры дараваў Беларусі незалежнасьць. Без вайны й крыві. Бярыце, людзі добрыя, адбудоўвайце сваю Беларусь такой, якой продкі хацелі бачыць яе ў будучыні. Але ня ўсе былі задаволеныя, адчувалася глухая сьцяна непаразуменьня з боку вясковых людзей, сяброў па працы, многіх суайчыньнікаў. Вельмі яшчэ шмат засталося натхняльнікаў старой камуністычнай сыстэмы, якія ня грэбуюць недазволенымі мэтадамі барацьбы. Дзеля канчатковай мэты - аднаўленьня камуністычнага рэжыму, дзе кіравалі-б, як некалі, "ум, честь и совесть", і ў таталітарнай сыстэме зьнікла быццам і няма на сьвеце: культура, выхаванасьць, чалавечая годнасьць, сумленьне. Ізноў рэанімуецца старая імпэрская трыяда: "православие", "самодержавие и народность"

Цяпер пачынаю разумець, чаму Аляксандр Лукашэнка атрымаў упэўненую перамогу на выбарах у 1994 годзе. Іншага выніку й чакаць тады нельга было. Асноўная маса насельніцтва імкнулася назад, у СССР, вельмі няўтульна адчувалі сябе, атрымаўшы волю й незалежнасьць. Я мяркую, што здарылася гэта таму, што людзей адвучылі думаць за сябе, пра свой лёс, лёс сваіх дзяцей, ды й сваёй Беларусі. У людзей засталася страшная спадчына сацыялізму - непрымальнае права чалавека добра жыць. Людзі напэўна забыліся, ды й ня ведалі, што нічога важнейшага за волю й незалежнасьць быць ня можа.

Прайшло амаль шэсьць гадоў уладных памкненьняў павярнуць краіну назад, ісьці не за цывілізаваным сьветам, а да гібельнай цясьніны. Назіраючы за падзеямі ў Беларусі, я ўсё больш пераконваюся, што дзеяньні сёньняшніх уладаў накіраваныя на вынішчэньне ўсяго разумнага й добрага, што даў Бог нашай пакутнай зямлі й яе людзям, на ўсталяваньне паўсюднага страху ды ператтварэньне людзей у бяздумны статак. Цяпер, на парозе XXI ст., за жаданьне свабоды й незалежнасьці - сама менеј - за краты, а то могуць, як у Чачні, усё зруйнаваць ушчэнт, усё жывое й нерухомае, а пасьля, для поўнай упэўненасьці, зрабіць "зачыстку", як любяць выхваляцца расейскія ваенныя.

Сёньня многім цяжка жыць, атрымліваючы мізэрныя грошы за працу. Цяжка бачыць, як вымірае, як сьпіваецца гаротны люд. Вельмі балюча ўспрымаюцца ўсе цяперашнія нэгатыўныя зьявы ў паводзінах сучаснай моладзі й міжволі становіцца страшна за нашае будучае. Зь кім, і да чаго мы можам прыйсці пры насталай бездухоўнасьці й безідэйнасьці цяперашніх юнакоў, дзяўчат і падлеткаў, адсутнасьці ў іх веры ў штосьці ўзвышанае, страчанага гонару за сваіх бацькоў, за свой народ, за слаўную гісторыю й спадчыннасьць сваёй Беларусі? Вось такое непрыглядное становішча ў нашай рэспубліцы склалася без вайны ці стыхійных бедстваў. Нясьцерпны боль іраве душу, калі бачыш, як тыя, хто пры ўладзе, зьдзекваюцца зь беларускай мовы, выціраюць ногі аб нацыянальныя сьвятыні. Беларусь - унікальная краіна ў сьвеце, дзе няма ніводнай нацыянальнай вышэйшай навучальнай установы. Сумна глядзець, як бязглуздасьцю й безгаспадарнасьцю зьнішчаецца нашая зямля.

Разважаючы пра Беларусь і Польшчу ў XXI стагодзьдзі з пункту гледжаньня эколягаў, трэба памятаць, што наступіць час абмежаваньня прыродных рэсурсаў, але, гледзячы вокам эканамістаў - чалавек разумны зможа знайсьці выхад з складўшыхся абставін.

Сёньня ў Беларусі вельмі дрэнныя пэрспэктывы. Пасьля падпісаньня саюзнай дамовы, само існаваньне Беларусаў, як нацыі, пад вялікім пытаньнем. Таму лічу, што шлях Беларусі ў адзіную Эўропу будзе больш доўгім і цяжкім. Але, веру, што Беларусь стане нармальнай эўрапэйскай краінай. Для Беларусі я адвёўбы ролю сэрвіснага й інфармацыйнага маста паміж Захадам і Расеяй, Азіяй і Эўропай. Беларусь у будучыні - гэта краіна з паўсюдным уплывам беларускай культуры, мовы, беларускага стылю. Беларусь павінна стаць духоўным сэрцам Усходняй Эўропы.

Я шчасьлівы, што мне лёс даў магчымасьць жыць у прыгожым і маляўнічым краі, у самым цэнтры Эўропы, сярод гістарычных руінаў Вялікага Княства, сярод цярплівых і працавітых людзей, у краіне зь вялікай будучыняй.

На мой погляд, толькі высокаадукаваныя людзі, аб'яднаўшыся ў шэрагах змагароў у Польшчы, паказалі свайму народу шлях рэфармаваньня, шлях да дэмакратыі й рынку, да гарантаванага дабрабыту. Калі з Польшчай усё зразумела: стала чальцом НАТА, цяпер імкнецца ўвайсьці ў Эўразьвяз, вядома, у якім накірунку рухаецца, то ў Беларусі - наадварот. Беларускі кіраўнік заявіў, што "свой народ за цывілізаваным сьветам не павядзе". Народ павінны весьці за сабой людзі, якія гэты народ пасапраўднаму любяць і паважаюць. Бяда яшчэ ў тым, што цяперашнія кіраўнікі Беларусі ня здольныя кіраваць, паважаючы правы й свабоды чалавека. Усялякая размова пра тое, што Беларусь абрала свой шлях, добра пацьвярджаецца словамі М. Тэтчар: "Трэці шлях - шлях у трэці сьвет", прасцей - да беднасьці. (...)

Трэба заўважыць, што Расейцы й Беларусы ніколі не лічыліся адзіным народам, і выпадкаў дабравольнага й раўнапраўнага зьліцьця народаў у гісторыі пакуль яшчэ не назіралася. Калі паслухаць А. Лукашэнку, то аб'яднаньне праводзіцца галоўным чынам па эканамічных прычынах, прычым, у выйгрышы ад гэтага будуць усе. У Беларусі затратную эканоміку стварыла саўгасна-калгасная сыстэма й прадпрыемствы дзяржаўнага сэктара. Каб падняць узровень жыцьця, трэба неадкладна ліквідаваць гэтую сыстэму. Усе нас пужаюць: "Без Расеі нам не пражыць". Дык што, трэба станавіцца на калені й паўзьці ў Расею? Кожная краіна багатая пасвойму: Фінляндыя ў пяць разоў бяднейшая за Беларусь прыроднымі рэсурсамі, а справы ў іх ідуць няблага. А Данія, Японія... Справа толькі за эфэктыўнымі формамі гаспадараваньня.

Галоўнае наша багацьце - зямельныя рэсурсы, лесам таксама ня бедныя. Беларусь - краіна высокага ўзроўню адукаванасьці, асабліва ў галіне прыродазнаўчых і тэхнічных навук. У Беларусаў адметная рыса - працавітасьць і камунікабельнасьць, кемлівасьць і руплівасьць, дысцыплінаванасьць і добразычлівасьць, сьціпласьць і не прыніжаючая ўласнай чалавечай годнасьці - талерантнасьць. Але эканамічны аспэкт заняцьця беларускай тэрыторыі заключаецца ў тым, каб максымальна прывязаць гаспадарчае жыцьцё Беларусі да расейскай фінансавай, сыравіннай і энэргетычнай базы. (...)

Краіны бліжняга й дальняга замежжа будуць разглядаць новае аб'яднаньне (саюз) ня йначай, як паглынаньне Беларусі Расеяй, з мэтай выхаду бліжэй да межаў Польшчы й Летувы. Па ўсім відаць, што Расея зацікаўленая ва ўзмацненьні свайго стратэгічнага становішча на заходнім накірунку, каб аслабіць пагрозу пашырэньня НАТА. На мой погляд, расейскае вялікадзяржаўнае ўсьведамленьне заўсёды мела патрэбу падабрацца бліжэй да заходняй цывілізацыі. Разьвіцьцё палітычных падзеяў такое, што зьнешняя палітыка прэзыдэнта Лукашэнкі на ўсходнім накірунку можа вельмі дорага каштаваць Беларусь. У выніку лягічнага завяршэньня памкненьняў Лукашэнкі, беларуская дзяржава будзе анэксаваная расейскай імпэрыяй. Трэба сказаць, што прэзыдэнт Расеі - Уладзімір Пуцін, карыстаецца даверам і павагай у многіх грамадзянаў Беларусі, што яшчэ мацней будзіць імкненьне да аб'яднаньня. У. Пуцін мае намер вясной 2001 году правесьці рэфэрэндум па аб'яднаньні дзьвюх дзяржаваў у адну. Як вядома, вынікі рэфэрэндуму павінны зацьвердзіць парлямэнты, а "кішэнны парлямэнт" Лукашэнкі зацьвердзіць усё аднагалосна Такім чынам, сусьветная супольнасьць будзе вымушана канстатаваць, што Беларусь, як дзяржава, зьнікла з мапы Эўропы. Сапраўды, сёньня дзяржаўны статус Беларусі падвергнуты цяжкаму выпрабаваньню. Беларуская нацыянальная прысутнасьць у сьвеце знаходзіцца пад вялікай пагрозай, што можа прывесьці да жахлівай нацыянальнай катастрофы, да непапраўнай трагедыі.

На мой погляд, ні адзін палітычны й нацыянальна сьвядомы сумленны чалавек ня можа падтрымліваць аб'яднаўчых імкненьняў. Прапагандысты гэтых памкненьняў хочуць даказаць, што Эўропа таксама аб'ядноўваецца. Але, эўрапэйская інтэграцыя аб'ядноўвае дэмакратычныя дзяржавы з рынкавай эканомікай, якія дасягнулі вызначанага ўзроўню эканамічнага й сацыяльнага разьвіцьця. Ніколі ў якасьці абгрунтаваньня не выстаўляліся лёзунгі яднаньня па нацыянальнай прыкмеце, што, наогул, немагчыма ў аб'яднанай Эўропе. У Эўразьвязе існуюць і разьвіваюцца эфэктыўныя мэханізмы, якія гарантуюць інтарэсы ўсіх яго ўдзельнікаў. Гэта, можна назваць, аб'яднаньне моцных, каб стаць яшчэ мацнейшымі. Яшчэ трэба заўважыць, што ў Эўразьвязе адсутнічае пагроза паглынаньня "малых" краінаў "вялікімі". Так, Польшча імкнецца ўвайсьці ў Эўразьвяз, калі выканае патрабаваньні для краіны-кандыдаткі. Будучыня Польшчы вызначаная ў тым сэнсе, што нязьменнымі застануцца прынцыпы, на якіх будуецца Эўразьвяз: свабода, дэмакратыя, павага правоў чалавека й асноўных свабодаў, вяршынства закону.

Я крытычна стаўлюся да выказваньня У. Пуціна, што Расея таксама ў будучыні можа стаць чальцом НАТА. Каб гэта стала магчыма, Расеі, у любым выпадку, трэба прайсьці вельмі доўгі шлях. Калі цяпер Расея стане чальцом НАТА, то Паўночна-Атлянтычны Саюз развалiцца. Нейк ня вяжацца гэтая тэарэтычная заява з дзеяньнямі Расеі ў міжнароднай палітыцы. Напрыклад, зусім нядаўна дэлегацыі Расеі й Кітая спаткаліся ў Бэльградзе зь Мілошэвічам, - з ваенным злачынцам -, а дачыненьні Расеі зь Іракам, а вайна ў Чачні супраць свайго народу? На парозе новага тысячагодзьдзя эпіцэнтрам разбуральных сілаў эўрапэйскай цывілізацыі зьяўляецца Расея й ейная палітычная эліта. Гэта маё асабістае меркаваньне, але хачу сказаць, што ў будучыні Расея будзе імкнуцца стаць чальцом НАТА, калі зразумее, што ёсьць схаваная пагроза для Расеі не ад краін НАТА, а з боку Ўсходняй Азіі й мусульманскага сьвету. Лёгка падзеяў падказвае, што ў бліжэйшыя дзесяцігодзьдзі Расея будзе прадаўжаць развальвацца. Яна мусіць скарачацца да сваіх этнічных памераў, узору 1533г. Кожную імпэрыю сьвету напаткаў адзін лёс, адзін канец. Не пазьбегнуць гэтага й расейскай, якую камуністы, перафарбаваўшы ў чырвоны колер, меркавалі зрабіць сусьветнай.

Для Беларусі цяпер галоўнае - нэйтралізаваць пагрозу з боку Расеі, але дзеля гэтага трэба вярнуць канстытуцыйную законнасьць і ліквідаваць дыктатуру ў краіне. Захоўваючы нацыянальныя й эканамічныя інтарэсы, Беларусі неабходна пераарыентаваць свае эканамічныя адносіны й гандаль на краіны Эўропы й Скандынавіі. Трэба перагледзець дачыненьні з суседзямі (Украінай, Польшчай, Латвіяй, Летувай), бо яны маюць заўсёды першачарговае значэньне, ды пачаць супрацоўнічаць з НАТА й падрыхтавацца да як найхутчэйшага ўступленьня Беларусі ў гэты пакт. Бясьпека Беларусі будзе залежаць ад моцнага й сучаснага беларускага войска ды чальцоўства ў НАТА. Адносіны з Расеяй трэба будаваць на аснове двухбаковых умоваў і пагадненьняў, нацыянальных законаў і нормаў міжнароднага права. Пашырэньне Паўночна-Атлянтычнага Саюзу на дзяржавы Цэнтральнай Эўропы гарантуе бясьпеку для гэтых дзяржаваў ад імпэрскіх і рэваншысцкіх памкненьняў расейскага імпэрыялізму. Што перашкаджае Расеі адмовіцца ад пасягненьняў на незалежнасьць Беларусі? (...)

Мяркую, што ў бліжэйшай будучыні будзе заставацца супрацьстаяньне краінаў Эўропы й Расеі, а Беларусь застанецца ў "закладніках" пры дачыненьнях Захаду й Расеі. Такое становішча будзе ствараць небясьпеку й трывогу ў Эўропе й сьвеце. Сытуацыя на Беларусі вельмі патрабуе дапамогі Божае, бо самі людзі, ня маючы аўтаматаў, шчытоў, гумовых палак, нічога зрабіць ня змогуць. Толькі застаецца вера ў цуд Божы, што калісьці з нашага добрага народу спадуць кайданы.

Я веру, што воляй народу будзе зьменены сёньняшні аўтарытарны рэжым у Беларусі ды гісторыя вынясе свой прысуд гандлярам незалежнасьцю Бацькаўшчыны. Час працуе на нас. Імпэрыя абавязкова рухне. Але цяпер важна ўтрымацца на ўласных нагах, каб не папасьці ў сьмяротныя абдымкі, каб ня рухнуць разам зь ёй. Ніхто ня вырашыць лёсу Беларусі, калі гэтага ня зробяць самі Беларусы. Толькі самім прыйдзецца церабіць цярністы шлях да свабоды, бо вельмі доўга былі ў абдымках Расеі.

Бярнард ПАКУЛЬНІЦКІ

"Камунікат"

# Без нацыянальнай ідэі ў дзяржавы няма будучыні...

*Сямён Домаш – адзін з кандыдатаў на прэзыдэнта Беларусі.*

Без нацыянальнай ідэі ў дзяржавы няма будучыні, без нацыянальнай мовы не існуе нацыянальнай ідэі. Беларусь — клясычная нацыянальная дзяржава, якая ўзьнікла пасьля распаду савецкай імпэрыі. Дзяржава з усімі "радзімымі плямамі" калёніі, такімі, як дэнацыяналізаванае кіраўніцтва, у якім асноўную ролю граюць парэшткі каляніяльнай адмінмстрацыі, рыжкаўска-разанскі дыялект мовы чынавецтва, пастаянная лісьлівасьць да гаспадара й г. д. Ад гэтых "плямаў" ня так лёгка пазбавіцца. І тым ня менш, Беларусь — унітарная нацыянальная дзяржава, дзе асноўная частка насельніцтва ёсьць беларусы, а астатнія ў значнай большасьці толькі пішуцца да іншых нацыя- нальнасьцяў, а самі — тыя самыя беларусы.

Распады імпэрыяў і стварэньне нацыянальных дзяржаваў, як вядома з гістарычнага досьведу, ідуць паводле розных сцэнараў: ад унутраных крызысаў да зьнешняга ўзьдзеяньня. У нашым выпадку развал СССР адбыўся ў выніку крызысу камуністычнай ідэалёгіі, які ў свой чарод быў выкліканы поўнай паразай у халоднай вайне ў цэлым і, як гэта ня дзіўна, у інфармацыйным спаборніцтве. СССР трымаўся датуль, дакуль рэжыму ўдавалася трымаць "жалезную заслону" перад інфармацыяй з Захаду.

Усе каштоўнасьці, якія спавядала камуністычная партыя, пасьля распаду СССР аказаліся неістотнымі, негрунтоўнымі. Маладыя дзяржавы СНД і Прыбалтыкі імкліва пачалі шукаць тую кропку, да якой можна было-б прывязаць большасьць разнародных сілаў гэтых краінаў. Практычна ні адна з гэтых дзяржаваў не змагла знайсьці нічога іншага акрамя старых і добра вядомых ісьцінаў: рэлігіі й нацыянальнай ідэі. А ўлічваючы тое, што рэлігія ў шмат якіх выпадках набывае нацыянальныя формы, фактычна зьяўляецца часткай нацыянальнай ідэі, — дык большасьць маладых дзяржаваў за "кропку апірышча" ўзяла менавіта нацыянальную ідэю.

Не абмінулі гэтыя працэсы й Беларусь. З 1988 г., а асабліва ў 1991-94 гг. пачалі фармавацца галоўныя пастуляты беларускай нацыянальнай ідэі на груньце гістарычнае спадчыны, гістарычных традыцыяў. Распачалася карпатлівая праца ў справе вяртаньня народу гістарычнай памяці, нацыянальных сымбаляў і нацыянальнай годнасьці. І асноўная барацьба разгарнулася не вакол бел-чырвона-белага сьцягу й "Пагоні", а вакол мовы, як асноўнага паказчыка адметнасьці, самабытнасьці й нацыянальнай існасьці кожнага народу.

Складанасьць барацьбы за мову заключаецца ня ў тым, дасканальная яна ці не, прыгожая ці не, мілагучная ці не. Складанасьць палягае ў тым, што мова патрабавала й патрабуе вялікай працы. Увядзеньне ці адмена сьцягу, гербу, гімну тычалася абсалютна невялікай колькасьці людзей, і тое толькі ў парадку выкананьня службовых абавязкаў. Сёньня павесілі, заўтра зьнялі – дэнацыяналізаванаму абывацелю ўсё гэта збольшага было абыякавае. Іншая справа мова. Супраць мовы паўстаў дзяржаўны апарат, кляса чыноўнікаў, вайскоўцы, большая частка інтэлігенцыі, асабліва тэхнічнай, вялікі пласт простых грамадзянаў. Мова закранула ўсіх і прынесла дадатковую нагрузку, дадатковую працу за тыя самыя грошы. І не антаганізм да мовы рухаў імі, а звычайная лянота, звычайнае гультайства. Навошта бухгальтару "каштарыс" і "рахунак", калі больш звыкла "смета" и "счёт"? Навошта інжынеру "шпуля", "помпа", "рухавік", калі больш звыкла "катушка", "насос", "двигатель"?

Але ці можна такую сытуацыю тлумачыць толькі лянотай і гультайствам? Напэўна, не зусім. Гэтая тэрміналёгія зь невялікімі перапынкамі ўкаранялася 200 гадоў, амаль сем пакаленьняў, і дасягнуць таго, каб яна за год ці два зьнікла, саступіла месца новай беларускай тэрміналёгіі, ня так проста. І гэтаму найперш замінаюць адсутнасьць у нашай краіне нацыянальнай сыстэмы дзяржаўнага будаўніцтва й нацыянальнай сыстэмы адукацыі.

Тут мне могуць запярэчыць, што ў нас пануе няруская мова, а расейская сыстэма дзяржаўнай улады. Аднак у Беларусі яна карэнным чынам адрозьніваецца ад дзяржаўнай улады ў Расеі. Але ці адрозьніваюцца яна ад сыстэмы ўлады былой савецкай імпэрыі? Так, адрозьніваюцца, але толькі шыльдамі. Замест шыльды «Цэнтральны камітэт КПБ» вісіць «Адміністрацыя Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь». А ў астатнім усё на месцы. Усе кіраўнікі рэгіёнаў прызначаюцца ў Менску. Урад – хлопчыкі для біцьця, якія адказваюць нават за дрэннае надвор'е. Нацыянальны Сход – дэкарацыя, , якая сама зь сябе нішто, пакуль не выйдзе галоўны «артыст». Адміністрацыя-ж ні за што не адказвае, дакладней, адказвае толькі за моц свайго палітычнага й эканамічнага ста-



новішча, для захаваньня патрэбнага ўзроўню якіх мае й свае спэцслужбы, і свой бюджэт, і сваё заканадаўства, якое дзейнічае праз сумнавядомыя «ўказы прэзыдэнта».

Такім чынам у Беларусі захаваная таталітарная сыстэма ўлады. Складнікам гэтай сыстэмы зьяўляецца стары дзяржаўны апарат, які ў большасьці сваёй не беларускі нават этнічна. Таму чакаць ад гэтага апарату нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва не выпадае. Разам з тым, і ў гэтым апараце разумеюць марнасьць спадзяваньняў на вечнасьць рэжыму, асабліва рэжыму, не падмацаванага ідэалёгіяй. Хрысьціянская ідэалёгія йснуе 2000 гадоў, камуністычная пратрымалася каля 1,5 ст., фашысцкая – гадоў 25. Гэта ўсё міжнародныя ідэалёгіі. Большасьць-жа народаў мае сваю нацыянальную ідэю ці ідэалёгію: «Масква — трэці Рым», «Deutschland uber alles", "Polska od morza do morza", "Didzioji Lietuva" і г. д... Беларускі таталітарны рэжым таксама шукае сваю нацыянальную ідэю. Але якую нацыянальную ідэю могуць знайсьці Латыпаў, Замяталін, Посахаў ды іншыя былыя савецкія палкоўнікі, што зьяўляюцца ідэалягічным апірышчам Лукашэнкі? Ідэя сяброўства зь вялікім усходнім суседам, "старэйшым братам", напачатку давала плён. Але з году ў год прывабнасьць гэтай ідэі нават сярод прыхільнікаў Лукашэнкі няўхільна падае. Катаклізмы ў Расеі, бесперапынныя войны, то ў Прыднястроўі, то ў Таджыкістане, то ў Дагестане, то зноў у Чачні. Падрывы дамоў, бясконцыя забойствы бізнэсмэнаў, банкіраў, развал арміі й флоту. Перадзел уласнасьці, барацьба за ўладу "па-расейску" пужаюць беларуса. Ен, нават не чытаючы апазыцыйных газэтаў, разумее — далучымся і ў нас будзе тое самае.

Тады рэжым кінуўся да ня менш старой ідэі панслявянізму, якая заўсёды служыла інтарэсам усё той самай Расеі. Ніхто, акрамя Сэрбіі, пра гэта й чуць не хацеў, а такія славянскія краіны, як Польшча й Чэхія, узялі ды ўступілі ў НАТА. Туды-ж імкнуцца Славенія й Славакія, ласа паглядае Ўкраіна. Панславянізм не атрымоўваецца. Тады палкоўнікі з атачэньня Лукашэнкі вярнуліся да звыклай армейскай мадэлі. Гэтая мадэль выглядае так: на першым этапе вызначаецца праціўнік (вораг), дасьледуюцца ягоныя сілы й сродкі, кірункі магчымых удараў, - усё гэтае наносіцца на мапы. А затым пачынае будавацца абарона альбо групавацца сілы для наступу — усё залежыць ад задачы. Калі ў свойчас Гарбачоў абвесьціў, што ў нас ворагаў няма, уся савецкая вайсковая навука паляцела ў тартарары. У адрозьненьні ад савецкай, амэрыканская вайсковая навука за адпраўны пункт бярэ ня ворага, а нацыянальныя інтарэсы, і, ужо зыходзячы зь іх, будуе сваю ваенную дактрыну. Былыя савецкія палкоўнікі з атачэньня Лукашэнкі ў "вэст-поінтах" не вучыліся, таму дзейнічаюць па-савецку й пачынаюць з вызначэньня ворага. Рэшткі камуністычнага дурману не даюць ім адыйсьціся далёка ад "лініі партыі", і "ворагі" ўсё тыя самыя: ЗША і НАТА. А далей паводле формулі вялікага аль-Бедры: "Скажы, хто твой вораг, і я скажу, хто твой сябар". Сябры ў нас зараз Ірак, Куба, Паўночная Карэя, Кітай, хутка будзе Лівія. Але з такімі сябрамі ня толькі пра нацыянальную ідэю, а нават і пра нейкую мэркантыльную ідэю гаварыць не выпадае.

Такім чынам, усе спробы рэжыму зьяднаць беларускае грамадзтва вакол хоць якой ідэі церпяць і будуць цярпець крах. Таму што антынацыянальны рэжым можа выпрацаваць толькі антынацыянальную ідэю, якімі пасутнасьці й зьяўляюцца і лукашэнкаўскі погляд на саюз з Расеяй, і панславянізм, і цяўканьне на НАТА.

Што тычыцца нацыянальна-сьведамай і дэмакратычнай часткі беларускага грамадзтва, дык тут асноўныя азначэньні нацыянальнай ідэі выпрацаваныя ўжо даўно. Беларусь — гэта нацыянальна арыентаваная, незалежная, дэмакратычная, эўрапэйская дзяржава. Беларусы — самабытны й пэрспэктыўны этнас.

Эўрапэйскасьць Беларусі вызначаецца ейным месцазнаходжаньнем, гісторыяй, архітэктурай, колішнім самабытным дзяржаўным укладам, канстытуцыйнымі традыцыямі, палітычнымі й эканамічнымі інтарэсамі, а таксама пэрспэктывамі ўсебаковай узаемнай беларуска-эўрапэйскай і эўрапэйска-беларускай інтэграцыі.

Дэмакратычнасьць Беларусі — неабходная ўмова на шляху да Эўропы. Дэмакратыя з усімі ейнымі атрыбутамі — свабодай слова і веравызнаньня, незалежнасьцю СМІ, правамі чалавека, падзелам улады й г. д. — гэта тая самая каляіна, зь якой ніякі самадур-фурман ня зможа вывернуць беларускі воз, каторы будзе рухацца ў зразумелым кірунку й будзе прытрымлівацца ўсіх эўрапэйскіх дарожных правілаў і знакаў.

Незалежнасьць Беларусі — гэта передумова выбару стратэгічных кірункаў і прыярытэтаў на карысьць менавіта беларускаму народу, а ня нейкаму там эфэмернаму "славянскаму адзінству". Незалежнасьць перадусім — рэальная магчымасьць рэалізаваць інтэлектуальны, эканамічны, прыродны ды іншы патэнцыял беларускае дзяржавы зноў-жа на карысьць беларускаму народу.

І, нарэшце, нацыянальная арыентаванасьць Беларусі — гэта ўмова для паўнавартаснага йснаваньня ў сусьветнай сям'і краінаў. Нацыянальная арыентаванасьць — гэта падкрэсьленьне нацыянальнай адметнасьці краіны, каб Беларусь ня блыталі зь Белай Расеяй і на алімпіядах перад нашай камандай несьлі шыльду з надпісам "Belarus", а не "Whiterussia". Нацыянальная накіраванасьць гэта своеасаблівы каэфіцыент сур'ёзнасьці нашай краіны. Сур'ёзная краіна мае сваю мову, свае межы, свае грошы. Сваё войска, свае — герб, сьцяг, гімн. Сваё радыё, тэлебачаньне, кіно, цырк, спорт. Сваю гісторыю, архітэктуру, сваю культуру, сваю адукацыю, сваю ахову здароўя, свае імёны і ўсё астатняе таксама сваё. Кожная нацыя ўносіць у здабыткі цывілізацыі свой унёсак. І ён тады толькі прыкметны й значны, калі мае нацыянальныя рысы. Чэскае й баварскае піва, бразільскі футбол, цэйлонская гарбата, рускі балет, канадзкі хакей, японская электроніка й беларуская бульба, якая, праўда, і вядомая больш у Беларусі. Яшчэ нам дазваляецца мець беларускія лапці. А мы павінныя мець вядомыя ва ўсім сьвеце беларускія аўтамабілі, беларускі лён, тэлевізары й шмат што іншае. Адметнасьцю Беларусі павінныя быць высокая беларуская якасьць і прыгожая беларуская мова.

Стагодзьдзямі абкрадалася беларуская гістарычная памяць. З нас рабілі то недаробленых палякаў, то пераробленых рускіх. Сёньняшнія беларускія ўлады панічна баяцца гістарычнай праўды. Яны разумеюць, што калі беларусы "уцямяць" сваю тысячагадовую гісторыю, дык каляніяльная

адміністрацыя доўга не пратрымаецца. Улады ўсімі спосабамі імкнуцца даказаць нікчэмнасьць беларусаў ды іхную беспэрспэктыўнасьць без Расеі. Асобныя, найбольш адыёзныя, палітычныя дзеячы ў самой Расеі садзейнічаюць гэтаму. Той самы Жырыноўскі адкрыта па тэлебачаньні называе беларускага прэзыдэнта "конюхам".

Пасьля ўсяго сказанага робіцца зразумелым, чаму галоўная лінія падзелу праходзіць па мове, а рэжым асноўную ўвагу аддаў і аддае разбурэньню нацыянальнай сыстэмы адукацыі. Не сакрэт, што абсалютная большасьць людзей вучыцца ў веку ад 6 да 30 гадоў. Фактычна, адначасова вучыцца цэлае пакаленьне. І калі-б гэтае пакаленьне засвоіла ўвесь аб'ём нацыянальных каштоўнасьцяў, дык бадзёрая песенька былых савецкіх палкоўнікаў плаўна перайшла-б у пахавальны марш.

Таму атака на беларускую мову пайшла разам з атакай на беларускую школу. Узровень беларускамоўнай адукацыі хацелі адкінуць ніжэй планкі 80-ых гг. Нацыянальна сьведамая інтэлігенцыя адказала традыцыйна: у дадатак да створанага яшчэ пры СССР Таварыства беларускай мовы (ТБМ) было створанае Таварыства беларускай школы (ТБШ). Гэтыя дзьве грамадзкія арганізацыі дэ-факта выйшлі на пярэдні край у разьвіцьці й правядзеньні ў жыцьцё нацыянальнай ідэі, фактычна пераняўшы гэтую галіну дзейнасьці ў палітычных партыяў ды іншых грамадзкіх аб'яднаньняў. Пасьля рэфармаваньня БНФ "Адраджэньне", ТБМ засталося самай масавай нацыянальнай грамадзкай арганізацыяй і налічвае зараз каля 8 тыс. сяброў. Улічваючы, што сябрамі ТБМ зьяўляюцца прадстаўнікі практычна ўсіх нацыянальных дэмакратычных партыяў, Таварыства, фактычна, сталася кансалідаваным рухам ня толькі за беларускую мову, але й цалкам за незалежную Беларусь.

Характэрнай рысай дзейнасьці ТБМ апошнімі гадамі стаўся пераход ад дзейнасьці, каторая складалася з шэрагу кампаніяў, да бесперапыннай працы адпаведна стратэгічнай скіраванасьці, у выніку якой беларускай мове будзе нададзены статус сапраўднай дзяржаўнай мовы. Адным зь інструмэнтаў дасягненьня гэтае мэты зьяўляецца стварэньне бесперапыннага беларускамоўнага адукацыйнага канвееру — ад дзіцячага садка да ўнівэрсытэту. І заключны этап – Беларускі нацыянальны ўнівэрсытэт (БНУ) — зьяўляецца найважнейшым зьвяном у гэтым канвееры. Таму ў 2000 г. ТБМ рэзка актывізавала збор подпісаў за адкрыцьцё БНУ . За паўгады было сабрана больш за 30 тыс. подпісаў. Стотысячная Ліда дала 9 тыс. (!) подпісаў і нават апярэдзіла Менск.

Націск ТБМ прымусіў улады перайсьці да абароны, але да прарыву ў гэтым пытаньні яшчэ далёка. Таму націск ні ў якім разе нельга паслабляць. Сёньня вынік супрацьстаяньня на лініі БНУ ёсьць ня проста адкрыцьцё або неадкрыцьцё цалкам нацыянальнай беларускамоўнай навучальнай установы, гэта адказ на пытаньне: ёсьць будучыня ў беларускай адукацыі ці няма? Можна запярэчыць, што калісьці вучыліся на лаціне, заканчвалі ўнівэрсытэты ў Нямеччыне, Кракаве, Пецярбурзе, а выходзілі патрыётамі Беларусі. Так, выходзілі. Выходзяць і цяпер. Але колькі іх? А гаворка йдзе пра мільёны сьвядомых беларусаў. З той прычыны, не зьмяншаючы значэньня іншых кірункаў дзейнасьці, трэба пагадзіцца з тым, што нацыянальная адукацыя — глябальны чыньнік, разьвіцьцё якога вядзе да назапашваньня крытычнай масы нацыянальнай сьвядомасьці, якая праз пэўны час выбухне цалкавітым адраджэньнем нацыі. І выбух гэты зьмяце рэшткі каляніялізму.

Таму, працягваючы назву гэтага артыкулу, можна сьцьвярджаць: *моцнай дзяржавы няма без нацыянальнай ідэі, нацыянальнай ідэі няма без нацыянальнай мовы, а нацыянальнай мовы няма без нацыянальнай адукацыі.* Калі мы забясьпечым нацыянальна адукаванае пакаленьне беларусаў, мы забясьпечым усё астатняе. Гэтая мэта павінная стацца адной з самых галоўных кірункаў дзейнасьці палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, якія імкнуцца зрабіць Беларусь незалежнай, цывілізаванай дзяржавай. Рэалізацыю-ж гэтае мэты павінна забясьпечыць будучая дэмакратычная ўлада Беларусі, якая прыйдзе на зьмену цяперашняму рэжыму.

# Крыж Ефрасіньні Полацкай

***840 гадоў таму мастак-ювелір Лазар Богша стварыў крыж, які замовіла ігуменне полацкага Спасаўскага манастыра Ефрасіньня. Ужо шмат стагоддзяў яна шануецца як святая Ефрасіньня Полацкая, нябесная заступніца беларускай зямлі, а шэдэўру майстра Богшы наканавана было стаць нашай агульнанацыянальнай рэліквіяй – сімвалам хрысьціянскай святасці і старажытнай дзяржаўнасці Беларусі.***

Шасцівугольная форма крыжа, які зроблены з іерусалімскага кіпарысу і мае вышыню каля 52 сантыметраў, сімвалізуе створаны Богам за шэсць дзён Сусвет. Зверху і знізу святыню закрывалі залатыя пласцінкі, аздобленыя каштоўнымі камянямі і эмалевымі абразкамі з выявамі сьвятых. У пяці "гнёздах" знаходзіліся прысланыя ў Полацк з Царгорада (Канстантынопаля) і Ерусаліма хрысціянскія рэліквіі, сярод якіх – кавалачкі Крыжа Гасподняга з кроплямі Ісусавай крыві і драбок каменю ад дамавіны Багародзіцы. Паводле задумы ігуменні, святыня павінна была "жыватварыць" душы палачанаў і усіх жыхароў роднай зямлі.

Тым жа, хто меўся ўкрасці або прадаць сьвятыню, былі адрасаваны словы грознага праклёну, выбітыя на крыжы поруч з надпісам, дзе паведамлялася дата і гісторыя яго стварэння, імя майстра і заказчыцы. У перакладзе на сучасную мову яны гучаць так: *"... І хай не выносяць крыж з манастыра ніколі, і не прадаюць, не аддаюць. Калі ж не паслухаецца хто і вынесе з манастыра, хай не дапаможа яму сьвяты крыж ні ў жыцьці гэтым, ні ў будучым, хай пракляты будзе ён сьвятой жыватворнаю Тройцаю ды сьвятымі айцамі... і хай напаткае яго доля Юды, які прадаў Хрыста".*

Страх перад Божаю карай, якую абяцаў змешчаны на крыжы праклён, быў не ўсемагутны. Неўзабаве пасля сьмерці Ефрасіньні Полацкай сьвятыню вывезьлі ў Смаленск, адкуль яна трапіла ў Маскву. У 1563 г., замольваючы ўчыненыя ў Полацку крывавыя злачынствы, Іван IV Жахлівы вярнуў крыж у Спасаўскі манастыр.

Пра драматычны лёс нашай нацыянальнай святыні напісаны добры тузін цікавых кніг і артыкулаў. З іх чытач можа даведацца пра тое, напрыклад, як за крыж сьвятой Ефрасіньні судзіліся езуіты, а прайграўшы – спрабавалі яго падмяніць; пра тое, як у 1812 г., калі Полацк на некалькі месяцаў трапіў у рукі французаў, манахі-базыляне ўратавалі рэліквію, замураваўшы яе ў нішы Сафійскага сабору; або пра тое, як святыня трапіла ў Пецярбург, і як напужаны старажытным праклёнам імператар Мікалай І загадаў неадкладна везьці яе назад, у Полацк.

Найцяжэйшыя пакуты прынесла крыжу мінулае, XX стагоддзе. У 1921-м яго рэквізавалі бальшавікі. Яны выламалі з беларускай святыні тры эмалевыя выявы святых, трынаццаць – папсавалі, а каштоўныя камяні замянілі фарбаваным шклом. У 1929 г. крыж Ефрасіньні Полацкай трапіў у Магілёў, дзе спачатку знаходзіўся ў музейнай экспазіцыі (тут сьвятыня не затрымалася, бо многія наведвальнікі пачыналі перад ёю маліцца), а потым ў пакоі-сейфе ў будынку абкама партыі, адкуль знік у 1941 г. У складзеным пасля вызвалення горада акце кошт крыжа ацэньваўся ў 6 мільёнаў рублёў.

Версія, паводле якой крыж вывезлі нямецкія захопнікі, гучыць не пераканаўча: Магілёў знаходзіцца далёка ад дзяржаўнай мяжы, і час дазваляў правесці эвакуацыю скарбаў. Хутчэй за ўсё рэліквія трапіла на ўсход, у Расію. Гэтай версіі прытрымліваюцца, у прыватнасці, журналіст Аляксандр Лукашук, які шукаў крыж за акіянам, нават у ФБР, аўтарытэтны гісторык з Полацка Уладзімір Арлоў, супрацоўнік упраўлення КДБ па Магілёўскай вобласьці Сяргей Багдановіч. Апошні шмат зрабіў у расследаванні загадкавай гісторыі знікнення рэліквіі і лічыць, што крыж Ефрасінні Полацкай разам з іншымі беларускімі каштоўнасцямі сёння можа знаходзіцца ў Эрмітажы або ў музейных сховішчах Уфы і Самары, куды ў час вайны трапілі архівы Магілёўскага абкама партыі. З думкай калегі з большага пагадзіўся, даючы інтэрв'ю газеце "Звязда" (19 чэрвеня 1997 г.), кіраўнік цэнтру інфармацыі і грамадзкіх сувязяў КДБ Беларусі Генадзь Сенюкоў: *"... можна меркаваць, што ўсе рэчы з Магілёва аселі дзе-небудзь у правінцыйным расійскім музеі ці архіве".*

Такім чынам, спецыялісты сведчаць, што крыж Ефрасіньні Полацкай – наша бясцэнная нацыянальная святыня, якая так патрэбна нам сёння, бо, без сумніву, паспрыяла б кансалідацыі грамадства і азарыла б яркім жыватворным святлом тысячагадовы Адвечны Беларускі Шлях, з якога мы збочылі ў цемру, — апошнія шэсцьдзесят гадоў пыліцца недзе ў расійскіх сховішчах. Усходні сусед трымае ў цянётах часціну нашай беларускай Душы. Мо таму гэтак дрэнна зараз там, у Расіі, што над ёю здзейсніўся жахлівы праклён нябеснай заступніцы беларусаў, уладальніцы крыжа Ефрасіньні Полацкай?

Падрыхтаваў Павел АБРАМОВІЧ, "Рабочы"

# Усе любяць родную мову, але не гавораць на ёй

**Віктар Мухін**

У нашай краіне склалася на першы погляд парадаксальная, але даволі паказальная сытуацыя: бальшыня з тых, чые правы ўціскае дзяржава, - беларускамоўныя. І гэта нядзіўна, бо беларускамоўныя вось ужо не адзін дзясятак гадоў знаходзяцца пад пільнаю ўвагаю небеларускае дзяржавы.

Апошнім часам на старонках як урадавых, гэтак і незалежных газэт пэрыядычна зьяўляюцца публікацыі, найчасьцей пад рубрыкаю "Погляд", пра парушэньне артыкулаў Канстытуцыі й "Закону аб мовах" нават самымі зацятымі прыхільнікамі дзьвюхмоўя. Цяпер немагчыма сказаць - ці будзе які плён з гэтых публікацый. Але кожнае слова на падтрыманьне роднае мовы - гэта лепш, чымся маўчаньне.

Надоечы на абарону беларускае мовы й культуры выступіў колішні чыноўнік Адміністрацыі кіраўніка дзяржавы, а цяпер дэпутат Палаты Прадстаўнікоў Іван Пашкевіч. Ён накіраваў на імя старшыні палаты Вадзіма Папова заяву з патрабаваньнем забясьпечыць раўналежнае функцыяваньне ў сьценах палаты дзьвюх дзяржаўных моў. Аб прыняцьці законаў у дзьвюх дзяржаўных мовах гаварыў і старшыня Савету Рэспублікі Аляксандар Вайтовіч у аднэй з сваіх размоў з Аляксандрам Лукашэнкам.

Праблема беларуска-расейскага дзьвюхмоўя не абмяжоўваецца толькі ўрадавымі ўстановамі. Але менавіта кіраўнікі дзяржавы, на думку людзей, мусяць даць узор карыстаньня нацыянальнаю моваю ўсім іншым жыхаром краіны.

*- Если страна называется Беларусь, то и приоритет должен быть отдан беларуской мове. Возможно, если бы вокруг меня говорили на беларуской мове, я бы сделала все, чтобы получить знания по языку. Было время, когда объявили беларускую мову национальной, и даже прошел такой клич, что вся деловая переписка тоже будет на беларуской мове. И я тогда, зная, что мне придется как-то перестраиваться и переписку вести на белорусском языке, - первым делом купила словари.*

**В. М.:** -- А як Вы думаеце, трэба пераходзіць на беларускую мову?

*-- Я считаю, что надо, хотя я сама не говорю по-белорусски. Просто меня жизнь не заставила говорить.*

*-- Мы очень плохо знаем беларускую мову, она нам не прививалась с детства. Это только сейчас где-то, что-то, как-то начали об этом думать и говорить.*

Тым часам, як беларуская мова амаль цалкам выціснута з паўсядзённага жыцьця краіны, гаварыць пра яе будучыню можна толькі ў абстрактных катэгорыях. Таму нават пры зьмене афіцыйнай пазыцыі ўладаў у нацыянальным пытаньні -- на імгненную беларусізацыю, зважаючы на практыку мінулых гадоў, спадзявацца ня варта. Усё мае адбывацца паволі, пачынаючы з выхаваньня й навучаньня ў роднай мове ў садках, школах ды ўнівэрсытэтах.

*-- В школе прежде всего надо начинать*

*обучение на беларуской мове, потому что в семье это намного сложнее.*

*-- Все школы были белорусские, все учебники были на чистом белорусском языке. А вот почему сейчас няма?*

*-- Я, например, когда училась, у нас в городе были единичные русские школы. Все остальные были белорусские, а почему потом закрыли?..*

*-- Сами белорусы и виноваты!*

*-- Были белорусские школы и при Сталине.*

Цяпер у Менску засталося толькі пяць беларускіх школ, або 4% ад усіх школ сталіцы. Ці ж варта дзівіцца, што шмат хто ня ведае й -- а гэта яшчэ горш -- ня будзе ведаць беларускае мовы. Няведаньне спрые фармаваньню стэрэатыпаў пра беларускую мову: маўляў, ня ведаю, але асуджаю.

У часе апытаньня менчукоў пра іхны погляд на становішча беларускае мовы ў Беларусі, я выйшаў на менскі пляц Волі. Гэтая мясьціна добра вядомая ўсім чытачом Купалавых "Тутэйшых" як "брахалка". Гэтая характарыстыка колішняга цэнтральнага пляцу сталіцы неўзабаве пацьвердзілася. Нейкая кабета сярэдняга веку стала выказваць сваё нездавальненьне з існаваньня беларускае мовы.

**В. М.:** -- Чаму Вы не разумееце беларускае мовы?

*-- Потому что я его не люблю.*

**В. М.:** - А за што ня любіце?

*-- А за что его любить?!*

**В. М.:** - Як Вы думаеце, чаму гэтая жанчына ня любіць беларускае мовы?

*-- Яна проста саромееццa свае нацыі, свайго народу...*

*-- Чаго ж яна ў Беларусі жыве, як ня любіць беларускае мовы?! Должны быть белорусские школы, свой язык должен быть - мы же белорусы! Раньше была одна школа белорусская в Барановичах и тую закрыли. Белорусские песни послушайте какие красивые! Все любят беларускую мову, только меньше пользуются ей.*

"Усе любяць мову"... Хацелася б у гэта верыць. Але паказваць сваю "любоў" на словах - гэтага мала. Трэба выяўляць яе ў словах.

Паводле "Р. Р".

# ПАМЁР БЫЛЫ СЯБРА СБМ З ДОКШЫЦАЎ ІВАН ФУРСЕВІЧ

Жалобная вестка прыйшла з Докшыцаў. Там пахавалі ўдзельніка моладзевага незалежніцкага беларускага падпольнага руху Івана Фурсевіча.

Ягонае імя доўгі час было вядомае толькі вельмі блізкім сябрам і паплечнікам па Саюзе Беларускае Моладзі. Нават складальнікі выдадзенага залетась "Архівам найноўшае гісторыі" даведніка "Антысавецкія рухі ў Беларусі" ня маюць ніякіх пэўных зьвестак пра гэтага надзвычайнага чалавека.

Іван Фурсевіч нарадзіўся 26 кастрычніка 1927 году ў вёсцы Галавеньчыцы на Стаўпеччыне. Скончыў польскую базавую школу і марыў стаць лекарам. Таму, калі ў вайну ў Баранавічах адчынілася мэдычная школа, ён паехаў туды вучыцца. Там і далучыўся да патрыятычнага руху, стаў сябрам Саюзу Беларускае Моладзі.

У нас ёсьць зьвесткі, што пасьля вайны, калі Іван Фурсевіч працаваў аптэкарам у мястэчку Гародзей, то меў там сувязь з "Саюзам змаганьня за незалежнасьць Беларусі" — гэтая арганізацыя дзейнічала ў Нясьвіскім, Клецкім і Стаўпецкім раёнах.

Але гэта цягнулася нядоўга, бо быў прызваны на тэрміновую службу ў савецкае войска. Служыў у Маскве, там яго й арыштавалі ў 1949-м. Асудзілі на 25 гадоў лягероў, але каля году трымалі ў сумнавядомай Бутырцы. Ейныя насельнікі й вязьні "Берлагу" і "Экібастузу" сталі потым галоўнымі героямі дакумэнтальнае прозы Івана Фурсевіча.

Пісаў Фурсевіч без надзеі. што надрукуюць. Справядліва прадчуваў, што творы ягоныя прынясуць яму ня толькі вядомасьць. Вось што нам распавёў Алесь Аркуш — выдавец часопіса "Калосьсе", які надрукаваў некалькі апавяданьняў Івана Фурсевіча.

(Аркуш:) "Амаль што ня ведалі пра ягонае жыцьцё ў Докшыцах. Калі "ЛіМ" надрукаваў той ягоны аповед і біяграфію ягоную, а пасьля раённая газэта яшчэ падрыхтавала пра яго публікацыю, дык ён напісаў мне ліст — пачаліся плёткі, бруд розны, казалі "зэк былы" на яго. Нават сам тады перажываў, што надрукаваўся ў "ЛіМе".

Алесь Аркуш згадаў рэакцыю землякоў на першую публікацыю Івана Фурсевіча ў газэце "ЛіМ" залетась. А сёлета на зладжаныя ім сустрэчы зь іншымі беларускімі пісьменьнікамі завуч аднае з докшыцкіх школаў не пусьціла вучняў, заявіўшы, што лепей ім, маўляў, пайсьці ў зьвярынец ды паглядзець на малпаў. Усё гэта ня проста раніла чуйную душу пісьменьніка, а даводзіла часам да бязьвер'я ў посьпех беларушчыны.

У Докшыцах Іван Фурсевіч пасяліўся, як вызваліўся зь лягероў ды спраўдзіў сваю мару стаць лекарам, закончыўшы сяміпалацінскі мэдінстытут. Свайго лекара докшынцы надта любілі. За дзень да сьмерці ён яшчэ хадзіў кансультаваць хворых.

А пісьменьніка докшынцы ў ім не хацелі бачыць. Як, зрэшты, і рэдакцыі дзяржаўных выданьняў. Абсалютная бальшыня напісанага Іванам Фурсевічам існуе ў рукапісах. Адно апавяданьне плянуе надрукаваць у наступным нумары газэта "Наша Ніва" і адно — часопіс "Крыніца".

Астатняя турэмна-лягерная дакумэнтальная проза Івана Фурсевіча чакае свайго выдаўца й свайго чытача. І прызнаньня. Ужо, на жаль, пасьмяротна.

"Радыё Свабода"

Рэзалюцыя канферэнцыі "Нацыянальная ідэя, шляхі кансалідацыі грамадства"

## Беларуская, мова – грунт нацыянальнай ідэі

Мы, удзельнікі канферэнцыі "Нацыянальная ідэя, шляхі кансалідацыі грамадства", зыходзячы з артыкула 50 дзеючай Канстытуцыі Беларусі лічым, што адным з галоўных фактараў развіцьця і пашырэння беларускай ідэі ў XXI стагоддзі зьяўляецца беларуская мова, як мова тытульнай нацыі.

Цягам апошніх сямі гадоў назіраецца наступ на беларускую мову. Сёння задушэнне мовы дасягнула свайго апагею. Робіцца ўсё дзеля таго, каб цалкам выцесніць яе з ужытку, асабліва ў структурах улады (судах, пракуратуры, фінансавых органах) і зрабіць непатрэбнай. Хваля адраджэньня і беларусізацыі імкліва пакацілася назад.

Заклікаем усіх грамадзян краіны ды беларусаў у замежжы, а таксама ўсе арганізацыі, установы, сродкі масавай інфармацыі падтрымаць ініцыятыву Таварыства беларускай мовы па выпрацоўцы Стратэгіі абароны і развіцьця беларускай мовы ў XXI стагоддзі.

Патрабуем наданьня беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай, забеспячэньня ўмоў бесперашкоднага пашырэньня яе ва ўсіх сферах грамадскага і палітычнага жыцьця, а найперш – стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта.

Мы звяртаемся да ўсіх творчых саюзаў з прапановай падтрымаць Саюз беларускіх пісьменьнікаў – духоўны цэнтр захаваньня нацыянальнай мовы і культуры – і іх законнае права на Дом літаратара – адзін з цэнтраў беларускага адраджэньня.

Калі будзе жыць беларуская мова, то пераможа і беларуская ідэя, а гэта значыць – беларуская дзяржаўнасць.

* * *

Канфэрэнцыю супольна ладзілі Цэнтар правоў чалавека ды Таварыства беларускае мовы імя Францішка Скарыны.

Пераважная бальшыня выступоўцаў засяроджвала ўвагу на непарыўнай сувязі паміж праблемаю жыцьця нацыянальнае мовы ды захаваньнем незалежнасьці краіны. Адна з выніковых рэзалюцыяў канфэрэнцыі называецца "Беларуская мова — грунт нацыянальнай ідэі". Я запыталася ў Мечыслава Грыба — былога сьпікера Вярхоўнага Савету, які падпісаўся пад Канстытуцыяй 1994 году, наколькі яму падаецца слушнаю менавіта такая ўзаемасувязь.

(Грыб:) "Я згодны, што ў нас мусіць быць адзіная дзяржаўная мова — беларуская. Я гэтак і раней лічыў, і зараз. Тая Канстытуцыя, што мне давялося падпісаць, мову падавала адзіную — беларускую.

Я сам ня так даўно пачаў размаўляць пабеларуску, я яшчэ ня надта добра ведаю мову. Але калі мяне прызначылі старшынём Вярхоўнага Савету, я вырашыў, што мушу гаварыць пабеларуску. Я пастараўся яе вывучыць, таму мне блізкія тыя пытаньні, што сёньня абмяркоўваюць".

(Карэспандэнт:) "Ці можа сёньня мова аб'яднаць грамадзтва?"

(Грыб: ) "Разьлічваць адно на мову й казаць, што ад яе ўсё залежыць, — гэта не зусім слушна. Трэба глядзець праўдзе ў вочы. Ці не палова нашага насельніцтва карыстаецца той мовай, якая зручная ім.

Таму мусяць быць іншыя дзеяньні таксама, супольны плян дзеля дэмакратызацыі грамадзтва й стварэньня грамадзянскае супольнасьці, якой пакуль што ня маем. А мова будзе добра ўпісвацца ў гэтыя намеры", — сказаў былы старшыня Вярхоўнага Савету, а цяпер старшыня Каардынацыйнае рады назіраньня за выбарамі Мечыслаў Грыб.

Яшчэ адной праблемай, па выніках абмеркаваньня якой прынялі рэзалюцыю, ёсьць спроба ўладаў краіны надаць праваслаўнай канфэсіі статус дзяржаўнае. Удзельнікі канфэрэнцыі асудзілі такую спробу.

У працы канфэрэнцыі, апрача грамадзкіх ды палітычных дзеячаў з усіх рэгіёнаў краіны, браў удзел прадстаўнік міжнароднае праваабарончае арганізацыі "Amnesty International" Мэцью Прынгл. У сваім выступе ён падкрэсьліў, што занепакоены парушэньнямі ў Беларусі палітычных і нацыянальных правоў ды адсутнасьцю сапраўднае свабоды веравызнаньня.

"Радыё Свабода".

## «Канцэнтрацыя хамства...»

Класічнай дыктатурай лічаць заходныя інтэлектуалы цяперашнюю сістэму ўлады ў Беларусі. Пра гэта заявіў паэт, старшыня праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Някляеў.

Паводле яго словаў, Беларусь уяўляецца творчым людзям на Захадзе не інакш як краінай-канцлагерам, што абнесены калючым дротам, за якім утрымліваецца ўвесь народ. У такой сітуацыі прадстаўнікі заходняй дэмакратыі лічаць сваім высакародным абавязкам аказаць беларускаму народу ўсялякую дапамогу для яго вызвалення ад дыктатарскіх путаў, заўважыў паэт. Аднак, паводле яго словаў, большага, чым дэкларацыі, нельга чакаць ад Захаду, які «не будзе рэальна рваць калючы дрот дыктатарскіх путаў». Па словах Някляева, цяперашняя палітычная сытуацыя ў краіне выклікае пэўныя апасенні з-за таго, што апазіцыя дагэтуль не вылучыла адзінага кандыдата ў прэзідэнты.

Разам з тым, паводле яго словаў, на гэтых выбарах павінна адбыцца штосьці такое, што, быць можа, не заўсёды можна патлумачыць чалавечым фактарам. «Неабходна сур'ёзна задумацца не аб тым, як змагацца з Лукашэнкам на прэзідэнцкіх выбарах, а як не дапусціць да выбарчай кампаніі чалавека, што парушыў канстытуцыю і захапіў уладу», — зазначыў паэт. Паводле словаў Някляева, канцэнтрацыя хамства ў краіне дайшла да межаў, немагчымых для прыстойнага чалавека. «Ці ж можна лічыць нармальнай сітуацыю, калі на нядаўняй сустрэчы з інтэлігенцыяй Лукашэнка дазваляе сабе істэрычна крычаць на паэтэсу Вольгу Іпатаву, а зала дазваляе яму гэта рабіць і захоўвае поўнае маўчанне?» — спытаў Някляеў.

Закрануўшы праблему вяртання на радзіму, ён заявіў, што не можа пакуль вярнуцца, бо ў краіне пытанні культуры па-ранейшаму курыруе чалавек, які нічога агульнага з ёю не мае (размова ідзе пра цяперашняга першага намесніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна).

БелаПАН

# ГЭТАЕ НЕБЯСЬПЕЧНАЕ СЛОВА — "СВАБОДА"

## ВАБІЦЬ БЕЛАРУСКІХ СТАРШАКЛАСЬНІКАЎ І ВЯДЗЕ ІХ У ШЭРАГІ АПАЗІЦЫІ

З дзіцячай злачыннасьцю трэба змагацца. Самымі рознымі сродкамі. З дапамогай сям'і, школы і камісіяў па справах непаўнагадовых. Мэтазгоднасьць гэтае барацьбы не выклікае сумневу. Выпадкі п'янства, крадзяжоў і разбою ў асяродку маладых, на жаль, — справа ледзь не звычайная. Час, як кажуць,біць ва ўсе званы. Але, даруйце, гаворка пойдзе зусім пра іншае. Не пра крымінал (барані Божа!), а пра дзіцячае вальнадумства. Дакладней, пра права на свабоду перакананьняў і на вольнае іх выказваньне, замацаванае артыкулам 19 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Маецца на ўвазе свабода бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананьняў, свабода шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ўпадабаныя ідэі любымі сродкамі...

Некалькі гадоў таму ўбачыў на адным з паверхаў Маскоўскага райвыканкаму сталіцы вялізны натоўп ля аднаго з кабінетаў. "Па што чарга?" "Паседжаньне камісіі па справах непаўнагадовых!" — абурылася адна з жанчын на мой пасьпешлівы жарт. Спыніўся, бо раптам дзьверы расчыніліся, і ў натоўп бацькоў ды настаўнікаў выскачыў расчырванелы хлопчык. "Ну, што табе?" — спытала адна з жанчын, відаць, маці. "Ды нічога — папярэдзілі. Я ж толькі ў бойцы замешаны ды ўрокі прапускаў. Ці ж гэта грэх! А там яны цяпер, — ківок у бок адчыненых дзьвярэй, — за палітычнага ўзяліся. Вось яму зараз будзе дык будзе!"

Што там за "палітычны" такі, доўга гадаць не давялося. Усё растлумачыў суровы жаночы вокрык з чыноўніцкага кабінету: -- Нягоднік! Хто табе гэты сьцяг у рукі даў?! Колькі заплацілі?! Ды мы цябе за непавагу да ўлады са школы выкінем!

І ня ўзяўся б я за пяро, калі б ня ўпэўненасьць, што гэтая праблема — адна з балючых сёньня для нашага грамадзтва. Будучая беларуская эліта пачынае жыцьцё з барацьбы і прыніжэння. Цудоўна разумее чынавенства, што ў сям'і апазіцыянераў заўжды вырастаюць дзеці апазіцыянеры — такая дыялектыка беларускага зацяжнога супрацьстаяньня таталітарызму. Абыякавая да ўсяго нацыянальнага дзяржава, прыніжаючы і перасьледуючы першых, не забывае прыціскаць і другіх. У выніку нашыя дзеці рана сталеюць. Ва ўсіх на памяці пікеты, якія праводзілі некалькі гадоў таму навучэнцы Дзяржаўнага нацыянальнага гуманітарнага ліцэю, пратэстуючы супраць нахабнага чынавенскага ўмяшальніцтва ў іх унутраныя навучальныя справы. І дамагліся свайго. Ліцэй гэтымі днямі сьвяткуе дзесяцігодзьдзе, жыве і працуе! І яшчэ прыклад: са 112 затрыманых на маладзёвай лістападаўскай акцыі «Пераменаў!" большасьць — непаўнагадовыя, школьнікі.

Куды ж глядзіць школа?!

Школа ў нас у большасьці паранейшаму савецкая, абыякавааморфная, глядзіць па загадзе райана, туды ж, куды і Лукашэнка: у бясхмарную беларускую будучыню, дзе няма месца апазіцыянерам і адшчапенцам — ненавісным бэнэфаўцам. І дзеяньне разварочваецца па старым і добра праверaным сталінскім сцэнары. Таму ў чарзе па пакараньне (штраф, пастаноўка на ўлік, перавод у сьпецшколу, выключэньне на тых самых камісіях па справах непаўнагадовых сярод маладых выпівох ды юных раскрадальнікаў заўжды стаяць і тыя, хто нязгодны з рэжымам. Як ні стараецца адміністрацыя школаў выконваць пагрозьлівыя інструкцыі зьверху, колькасьць школьнікаў-апазіцыянераў з кожным годам няўхільна расьце. Не сакрэт, што ў час любой буйной апазіцыйнай акцыі, якія звычайна адбываюцца ў выходныя дні, усе школы Беларусі на паўваенным становішчы: працуюць да позьняй ночы, ледзь не пад прымусам школьнікі ідуць на дыскатэкі, вечарыны. Мэта зразумелая — усімі сродкамі адцягнуць увагу дзяцей ад шкоднага ўплыву "ворагаў народу", ад удзелу ў маршах, страйках і пікетах. Вельмі цікава, як гэта ўсё сумяшчаецца з абавязковым выкладаньнем правоў чалавека ў межах школьнай навучальнай праграмы? Па прызнаньні настаўнікаў, вывучэньне Дэкларацыі — справа амаль фармальная. А гадзіны, адведзеныя праграмай на гэтыя ўрокі, фіксуюцца ў класных журналах без фактычнага правядзеньня!..

Мне скажуць: супрацьстаяньне ўладам — справа не дзіцячая, лепей бы гэтыя школьнікі не пра правы, а пра свае абавязкі падумалі. Натуральна, кожны чалавек, у тым ліку і непаўнагадовы, мае абавязкі перад грамадзтвам. Але і грамадзтва ў сваю чаргу павінна гарантаваць вольнае і поўнае разьвіцьцё асобы. Ды і Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека сьцьвярджае амаль пра тое ж: "Пры ажыцьцяўленьні сваіх правоў і свабодаў чалавек падвяргаецца толькі тым абмежаваньням, якія ўстаноўленыя законам выключна з мэтай забесьпячэньня прызнаньня і павагі правоў і свабодаў іншых і задавальненьня справядлівых патрабаваньняў маралі, парадку і агульнага дабрабыту ў дэмакратычным грамадзтве" (арт.29). Чуеце, гаворка пра дэмакратычнае грамадзтва? А значыць — не пра нас з вамі...

Камусьці ўсё роўна. Хтосьці прызвычаіўся да рабскага ярма, да маўклівага доўгацярпеньня. А чыесьці разьняволенае, несапсаванае савецкай, а тым больш лукашэнкаўскай ідэалогіяй сумленьне прагне справядлівасьці (нармалёвая рыса нармалёвага чалавека!) і пратэстуе. Вось і пераўтвараюцца беларускія школьнікі ў палітычных вязьняў рэжыму. Абвінавачаньне ў контрлукашэнкаўскай дзейнасьці ладзіцца ўвобмірг. У стылі лепшых сталінскіх традыцыяў, па старым сцэнары і пад сучасным дэвізам: "Калі дзіцё не ў бэпэсэме, дык яно супраць... нас"

...Дзевяцікласьнік адной з мінскіх школаў Б. (14 гадоў) напярэдадні аднаго з "Маршаў Свабоды" ўвечары расклейваў на слупах улёткіаб'явы з запрашэньнем да ўдзелу ў мірным сходзе, дазволеным Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека і забароненым Лукашэнкам. Быў затрыманы і зьбіты міліцыянтамі. У пастарунку адмовіўся падпісваць пратакол без прысутнасьці бацькоў. Атрымаў бы дубінкай яшчэ, калі б не прыгразіў сяржанту, што адразу ж, ноччу, здыме пабоі ў паліклініцы.

— Выйсьце ў цябе ўсё роўна адзінае, — езуіцтваваў міліцыянт. — Альбо скажаш, што за грошы гэта рабіў, маляў, бедны і на марозіва пастаянна не хапае, альбо школу ня скончыш... Сапраўды, іншага выйсьця ні ў вольнадумнага падлетка, ні ў ягоных бацькоў не было.Так і растлумачыў Б. свае "антызаконныя" дзеяньні на славутай камісіі па справах непаўнагадовых. Бацькам — штраф. А чынавенству — яшчэ адзін "красамоўны доказ" таго, што зноў не абыйшлося без валютнай падачкі з Захаду...

Дарэчы, ва ўправе БНФ гэты самы Б., паранейшаму непаўнагадовы, самы часты госьць, актыўны ўдзельнік усіх апазіцыйных мерапрыемстваў. Тлумачыць:

— Ніякіх грошай ніколі мне ніхто не плаціў. Вымусілі міліцыянты на "кампраміс" пайсьці і пайшоў. Здрадай гэта не лічу — школу трэба скончыць... А за свабоду, сваю і бацькоў, змагаўся і буду змагацца!

Адкуль у старшакласьніка такая трывалая ды сьвядомая жыцьцёвая пазіцыя? Бо яму, у адрозьненьне ад некаторых старэйшых і наскрозь савецкіх, хочацца жыць у нармальнай краіне. Дай яму Бог цярплівасьці, волі ды настойлівасьці!

Алесь ГАРКУН.

# МЫ ПРАГНЕМ ЗЬМЕНАЎ!

Вось і скончыўся, адыйшоў, адляцеў у мінулае год этапны, пераменны — дзьвюхтысячны. Але — этапны, пераменны для ўсяго чалавецтва, для планеты Зямля, ды не для Беларусі. Пад словам "перамены" звычайна разумеюцца зрухі да лепшага, а ў нас, калі і былі зьмены, дык толькі да горшага. Рэжым Лукашэнкі ўмацаваўся, абраўшы ў 2000-ым годзе "пад сябе" парламент, які не валодае ніякімі правамі і магчымасьцямі, які не прызнаны ў дэмакратычным сьвеце, нелегітымны, як і сам Лукашэнка. Краіна працягнула свой шлях да эканамічнае прорвы — крызіс ахапіў усе галіны эканомікі. Жыцьцё людзей яшчэ больш пагоршылася, хоць ужо летась и пазалетась здавалася, што далей няма куды. Узмацнілася палітычная ізаляцыя Беларусі — фактычна, з дыктатурай падтрымліваюць стасункі Расія, некаторыя краіны СНД ды такія ж самыя таталітарныя рэжымы — кубінскі, іракскі, паўднёва-карэйскі, лівійскі...

Пагоршылася ў Беларусі і сітуацыя з захаваньнем правоў чалавека. Улады не дазволілі грамадзянам краіны адзначыць нават чарговую гадавіну з дня прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Мітынгі ж, дэманстрацыі, пікеты, іншыя акцыі апазіцыі па створанай Лукашэнкам традыцыі нязьменна заканчваліся арыштамі іх удзельнікаў. 25 Сакавіка ў Мінску ўлады наладзілі сапраўднае паляваньне на ўдзельнікаў сьвяткаваньня Дня Волі. Было арыштавана больш за 500 чалавек! У тым ліку замежныя грамадзяне, асобы, якія валодаюць дыпламатычнай недатыкальнасьцю, праваабаронцы і 36 журналістаў акрэдытаваных у Беларусі сродкаў масавай інфармацыі. Цэнтр Мінску ў гэты дзень нагадваў акупаваны горад: міліцыянты стаялі праз кожныя 10-12 метраў уздоўж праспекту Скарыны, а ў дварах стаялі бэтээры... 12-га лістапада падчас маладзёжнай акцыі "Пераменаў!" было арыштавана 112 чалавек, большасьць з якіх непаўнагадовыя. Адзіным крытэрам дзеля арышту ў той вечар быў малады ўзрост, і таму ў загадзя падрыхтаваныя сьпецназаўцамі аўтобусы, а потым у прыёмнікі-разьмеркавальнікі патрапіла шмат выпадковых людзей.

Парламенцкія выбары ўа Беларусі прайшлі па Выбарчым кодэксе, які міжнародная супольнасьцю быў прызнаны недэмакратычным. Апазіцыйныя партыі прынялі рашэньне байкатаваць фарс, наладжаны Лукашэнкам. Пад перасьлед за ўдзел ў кампаніі байкоту патрапілі больш за 200 чалавек. Выбарчы кодэкс не забараняў заклікаць выбаршчыкаў да байкоту. Але ўлады, кіруючыся арт. 167.3 КаАП РБ, затрымлівалі людзей, якія агітавалі за байкот. Арышты і суды ішлі па ўсёй Беларусі да самага дня выбараў – 15 кастрычніка і пасьля... Пагоршылася становішча незалежных выданьняў: умовы перарэгістрацыі іх сталі яшчэ больш жорсткімі. Напрыканцы году ўлады фактычна пазбавілі большасьць незалежных выданьняў Мінску выдавецтва, у якім яны друкаваліся: абсталяваньне друкарні "Мэджык" было арыштаванае. Такім чынам, паводле сьведчаньняў назіральнікаў і журналістаў, улады ўжо цяпер пачалі падрыхтоўку да маючых адбыцца сёлета прэзідэнцкіх выбараў.

Так, 2001 год можа стаць вырашальным для будучыні Беларусі на бліжэйшы час. Аб'яднаная апазіцыя пакуль не вызначылася, хто з палітыкаў стане адзіным кандыдатам у прэзідэнты дзяржавы ад дэмакратычных сілаў. Пытаньня пра ўдзел альбо няўдзел у выбарах цяпер няма, бо на карту пастаўлены лёс краіны. Беларускаму народу абрыдла дыктатура, беларускі народ прагне зьменаў. Як і іншыя еўрапейскія народы, мы хочам жыць у вольнай, дэмакратычнай і незалежнай дзяржаве. І сёлета гісторыя дае нам яшчэ адзін шанц сьцьвердзіць гэта.

Андрэй НАЛІВА.



**Вельмі ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

Моцна просім Вас не забывацца пераслаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты.

**Сакрат ЯНОВІЧ**, Польшча

# Дастаеўскі Беларусі

***Vasil Bykaŭ: „Ściana", tłum. Czesław Seniuch, Jan Maksymiuk, wyd. SETPro, Białystok 1999.***

У беластоцкім выдавецтве „SETPro" выйшла кніга „Ściana", у якую ўвайшлі некалькі дзясяткаў новых апавяданьняў і навэляў, выдатна перакладзеных Чэславам Сэнюхам і Янам Максімюком.

Быкаў ужо ў гадох, але дагэтуль прадукцыйна працуе на ніве літаратуры, дарма што адчуў патрэбу пакінуць бацькаўшчыну, якая знаходзіцца пад уладай д'ябальскага рэжыму Лукашэнкі. Сьпярша ён разам з жонкай знайшоў прытулак у Фінляндыі, а пасьля ў Нямеччыне. Гэты былы лейтэнант дывізіённай артылерыі часоў апошняй вялікай вайны, які цудам ўратаваўся ад цяжкіх ранаў на палёх бітваў у Вугоршчыне і Аўстрыі, дэбютаваў толькі на пачатку 60-ых, маючы амаль сорак гадоў. Гэтаму, безумоўна, паспрыяла славутая адліга. Каб не яна, то, магчыма, ён бы і ня ўзяўся за пяро.

Чаму? Бо пачаўшы пісаць раней, Быкаў ня меў бы ніякіх шанцаў апублікаваць свае творы. Больш за тое, гэта б пагражала высылкай у сібірскія лягеры. Быкаў проста арганічна ня зносіць брахні, ідэалягічнага зглумленьня чалавечай асобы, адыходу ад маральнасьці. У сваіх творах ён выяўляе праўду аб вайне, вядомай яму з уласнага досьведу. Адзіны пазытыўны герой у яго — жаўнер, ублытаны не па ўласнай волі ў экстрэмальныя сытуацыі і па сутнасьці гамлетаўскія дылемы.

Так пра вайну ў Савецкім Саюзе да яго ніхто не пісаў. У модзе былі творы з панарамным ахопам, з паказам штабаў, геройчных камандзіраў і палітрукоў з жаўнерамі ў якасьці фону. Зь цягам часу ўтварылася плынь пад назвай „літаратура акопнай праўды", якая вызначалася тым, што дзеяньне твораў перастала абмяжоўвацца штабнымі памяшканьнямі і апісаньнямі ваенных баталіяў, а аўтарская ўвага стала сягаць да „засраных акопаў і завашыўленых зямлянкаў".

Быкаў пайшоў далей. Ён засяродзіўся на „атаме вайны", гэта значыць на долі асобнага жаўнера; часам таксама на яго беспасярэдніх начальніках, на сэржантах і лейтэнантах, якіх спасьцігла тая ж самая бяда. Штабныя ж работнікі — гэта іншы сьвет, для якога вайсковыя нізы — нішто.

У сваіх мастацка-літаратурных аналізах Быкаў дасягае ўнівэрсальнага вымярэньня — якое грамадзтва, такая і армія.

Калі чытаеш аповесьці Васіля Быкава, узьнікае ўражаньне, што пэрыпэтыі вайны ў іх — гэта нешта другараднае, матэрыял, які аўтар найлепш ведае і якім можа найлепш пакарыстацца пры ўзьвядзеньні архітэктуры твору. Хай гэта „Здрада", „Праклятая вышыня" або „Пастка", „Дажыць да сьвітаньня" або "Мёртвым не баліць"...

Ня толькі цэнтральныя ўлады абвінавачвалі пісьменьніка ў ачарненьні рэчаіснасьці. У Беларусі Быкаў таксама ня меў апірышча, бо, ня лічачы адзінкавых выпадкаў, тут так і не сфармаваўся дысыдэнцкі рух. Пісьменьніка падтрымлівалі маскоўскія лібэралы, пераважна з асяродзьдзя слыннага некалі літаратурнага часопіса *„Новый Мир"*, рэдагаванага



Аляксандрам Твардоўскім, які публікаваў забароненыя ў Менску тэксты вялікага беларуса. Трэба пры гэтым адначасна сказаць, што тады Быкава амаль імгненна перакладалі і выдавалі таксама і ў Польшчы, дзякуючы захадам і аўтарытэту такіх пісьменьнікаў, як Віктар Варашыльскі, Анджэй Дравіч або Ян Гушча. Нягледзячы на сапраўды сусьветную вядомасьць, стаўленьне да Васіля Быкава ў дапераабудоўныя часы з боку ўладаў вагалася ад непрыязнасьціда падлабуньваньня, бо ўлады стараліся аблашчыць пісьменьніка і выкарыстаць для сваіх патрэбаў. Але неўзабаве зьявіўся Гарбачоў са сваёй утопіяй рэфармаваньня нерэфармавальнага камунізму, наданьня нялюдзкаму ладу людзкага аблічча; тады Быкаў пачаў уголас прамаўляць як пісьменьнік і чалавек. Ён стаў сумленьнем беларускай нацыі, знакавай постацьцю — як той, хто ніколі не выракаўся праўды ні словам, ні справай.

На жаль, БССР, перайменаваная ў незалежную Рэспубліку Беларусь пасьля распаду СССР, стала не дэмакратычнай дзяржавай, а нечым накшталт аскепка імпэрыі. Савецкая намэнклятура, пераўжыўшы часовыя паразы, поўніцай утрымала тут уладу і спрыяла ўзьнікненьню аўтарытарнага рэжыму. Яго ўзмацненьне адбылося пяць гадоў таму і дасягнула кульмінацыі ў сэрыі палітычных забойстваў, мэтай якіх было аслабленьне апазыцыі. У дадзены момант шмат яе лідэраў апынуліся на эміграцыі, у тым ліку і ў Польшчы. Быкаў знайшоў прытулак сьпярша ў Скандынавіі.

У гэтым кантэксьце знамянальнае значэньне мае выезд зь Беларусі старшыні Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Уладзімера Някляева сьпярша ў Варшаву, а потым у Гельсынкі. Някляеў ня быў у апазыцыі, аднак ня змог вынесьці антыбеларускага курсу Лукашэнкі, накіраванага на поўнае зьнішчэньне беларускай мовы і грунтаванай на ёй нацыянальнай культуры. Гэты парадокс, што беларуская дзяржава імкнецца да падрыву беларушчыны, то бок да самаадмаўленьня, з гледзішча нармальнага розуму цяжка вытлумачыць. Дзяржава, якая намагаецца стаць калёніяй іншай дзяржавы? Стала марыць аб тым, каб перастаць быць самой сабой?! Незалежнасьць, за якую іншыя народы пралівалі крой пакаленьнямі, для Беларусі стаецца каменем на шыі? Як жа гэта растлумачыць? Хваробай?

Быкаў у нядаўным інтэрвію, апублікаваным у *„Gazecie Wyborczej"*, поўніцца нядобрымі перажываньнямі і інтуіцыямі. Памятаючы свае шматлікія размовы з Васілём, — і трыццаць гадоў назад, і ўсяго пару, я ведаю, што ён ніколі ня меў ілюзіяў наконт *homo sovieticus*'а, бо, нягледзячы на ўсе спробы ідэалізацыі, дасканала ведаў яго. Быкаў паводзіў сябе быццам Міцкевіч у Расіі, не даючы сябе маральна зьнішчыць.

Быкаў дасьледуе прычыны гэткага лёсу Беларусі і беларусаў, дзякуючы чаму ўсё часьцей у яго творчасьці зьяўляецца партызанская тэматыка, менш знаёмая яму з уласнага досьведу. Зьяўляецца таксама гістарычная, паўстанцкая тэматыка, зьвязаная зь няўдалай спробай пабудовы беларускай незалежнасьці пасьля першай сусьветнай вайны. Пісьменьнік мае тую перавагу над любым палітыкам і любым прэзыдэнтам, што не палітыка вызначае яго месца ў гісторыі. Калі сярэдні паляк пазірае цяпер на мінуўшчыну вачыма Генрыка Сянкевіча, то звычайны беларус, безумоўна, ня будзе на яе глядзець вачыма прэзыдэнта (ня той талент і ня тая магія слова).

Згаданая *„Ściana"* — збор напісаных апошнім часам твораў, выданьню якога ў Менску паспрыяла патрыятычнае асяродзьдзе, — зьмяшчае ў сабе атляс беларускіх нягодаў. Мэтафарай гэтых нягодаў служыць фінал аднайменнага твору, у якім вязень заўзята бурыць каменную сьцяну, каб нарэшце вырвацца на волю, але аказваецца, што ён апынуўся на турэмным дворыку, паблізу ад шыбеніцы. „Жыцьцё ў турме, як і сьмерць, ня мела сэнсу", — канстатуе аўтар. Чалавек завіс у касьмічным вакууме, у якім яго проста няма, дарма што ў зямных умовах ён жыве, есьць і дыхае, і нешта там бачыць.

Гістарычная драма Беларусі і беларусаў, стала прысутная ў прозе Быкава, не прыводзіць да таго, што яго творчасьць стаецца малазразумелай для іншых. У рэчаіснасьці ўсё наадварот. Пісьменьнік выяўляе гэтую драму ня столькі праз палітычныя рэаліі, колькі праз асэнсаваньне чалавека як такога. Кранальную сцэну калектыўнага самагубства беларускіх паўстанцаў са слуцкай брыгады дваццатага году, пасьля прайгранай бальшавікам кампаніі, пісьменьнік прадстаўляе без гістэрыі („На чорных лядах"). Трагедыя адбываецца спакойна, можна сказаць — разважліва і лягічна. Без узьнёслых жэстаў, пасялянску, прадметна. У мяне гэта выклікала асацыяцыю са сьмерцю маёй бабулі — днём раней яна дала сям'і апошнія распараджэньні і, спраўдзіўшы, што іх зразумелі правільна, неўзабаве ціхенька памерла. Гэткая сьмерць не была канцом сьвету.

Быкаў не выносіць ілюзіяў, і дзеля гэтага ён зусім непрыдатны да прапагандысцкага выкарыстаньня. Дарма што яго тэксты ня маюць займаючага дыханьне дзеяньня, яны чытаюцца запоем. Бо яны — захапляльнае падарожжа ў глыб чалавечай душы, выяўленьне яе штораз іншых краявідаў. Яго можна назваць „Дастаеўскім беларускай літаратуры", але настолькі своеасаблівым, што яго цікавіць не псыхалёгія літаратурнага героя наагул, не барацьба дабра са злом, а выяўленьне велічы і ўвагі да маленькага чалавеку, уцягнутым у колы гісторыі. Усё пачынаецца неўспадзеўкі. Жыў-быў сабе маленькі чалавек, які збольшага трымаўся дзесяцёх запаведзяў, хутчэй інстынктыўна, дзякуючы натуральнаму маральнаму закону. І зьнячэўку яго ўпіхнулі ў вір часу і эпохі, якую ён, як правіла, не да канца разумее. Увогуле ён збіты з панталыку, а калі і паддаецца злу, то зусім не з разьліку: ён проста не вытрымлівае. І што выходзіць? Пры сутыкненьні індывіда са злом часьцей прайграе першы. У індывідуальным вымярэньні пераадоленьне зла дабром канчаецца на крыжы. Таму дабро вымагае ахвярнасьці, адданасьці. І ў гэтым палягае ўнівэрсальная драма Беларусі — у яе сумленнай бясьсільнасьці перад д'ябальскай сілай. Аднак так не павінна быць у будучыні. Вось мая рэфлексія.

Учытваючыся ў *„Ścianę"* Васіля Быкава, з кожным наступным тэкстам трапляеш не ў дэпрэсію, а наадварот: узрастае прага ачышчэньня. Акурат у гэтым месьціцца незапатрабаваная прыцягальнасьць, сіла самога дабра як антыпода антычалавечых паводзінаў літургіі Зла. Мы ля сьцяны, бы сыны Ізраілю.

*Паводле Gazety Wyborczej з ласкавай згоды аўтара.*

# АДКЛАСЬЦІ ЎЛАСНЫЯ МЕРКАВАНЬНІ, КАБ СПРАВА РУХАЛАСЯ НАПЕРАД

**Аб'яднаная грамадзянская партыя вызначылася з тым, каго падтрымліваць на прэзідэнцкіх выбарах. Рашэнне яе Палітсавета — палітычная падтрымка будзе забяспечвацца двум магчымым кандыдатам (Уладзіміру Ганчарыку як вылучэнцу прафсаюзаў і Сямёну Домашу, за якім Каардынацыйная рада палітычных сіл), рэсурсная — маюцца на ўвазе кадры, структуры — Сямёну Домашу. Пра гэта паведаміў журналістам на сваёй прэс-канферэнцыі старшыня АГП Анатоль Лябедзька.**

**Рашэнне гэтае Палітсавету, відаць, далося нялёгка, бо мы памятаем, што яшчэ некалькі тыдняў таму частка актывістаў АГП актыўна выступала за кандыдатуру Міхаіла Чыгіра. Анатоль Лябедзька пракаменціраваў сітуацыю так: "Я і зараз лічу, што па сваіх маральных якасцях, па таму, чым чалавек ахвяраваў, Міхаіл Чыгір — тая асоба, якой трэба было б аддаць перавагу. Але зыходзіць трэба з агульнай сітуацыі, з таго, хто з палітыкаў па чыста фармальных паказчыках мае больш шанцаў прайсці рэгістрацыю. І тут у Міхаіла Мікалаевіча, на жаль, вялікія праблемы. Неабходна таксама ўлічваць і пазыцыю КРДС. Рэгіёны, большасць грамадскіх арганізацый і шэраг палітычных структур зараз выступаюць у падтрымку Сямёна Домаша... Часам трэба адкласці свае, уласныя меркаванні, каб справа рухалася наперад".**

**Увогуле ж пазіцыя АГП, у прыватнасці, ў тым, што найлепшым варыянтам для дэмакратычных сіл было б злучэнне высілкаў розных знакавых для сучаснай Беларусі людзей. У камандзе будучага адзінага кандыдата знойдзецца месца і Міхаілу Чыгіру, і Паўлу Казлоўскаму, і мноству іншых сур'ёзных, сумленных прафесіяналаў. Гэта, між іншым, таксама адна з прапаноў, прынятых Палітсаветам — пачаць фарміраваць выбарчы "блок падтрымкі", у які ўвайшлі б не толькі палітыкі, але і слынныя пісьменнікі, спартсмены, вучоныя, людзі, здольныя сваім маральным аўтарытэтам падтрымаць таго, хто мае намер на выбарах выступіць супраць Лукашэнкі.**



# Навошта нам інтэграцыя?

**Апошнім часам пачасьціліся размовы пра інтэграцыю Беларусі з Расеяй. То «саюзны рубель» абмяркоўваюць, то "саюзны тэлевізар». Болей сталі пісаць і пра пасяджэньні «саюзнага ўраду» і "саюзнага парлямэнту". Відавочна, што падштурхнуў размовы пра інтэграцыю нядаўні арышт у Амэрыцы дзяржсакратара новага «саюзу» Паўла Барадзіна. Больш сур'ёзная падстава для прапаганды «саюзу» — сёлетнія прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі. Размовы размовамі, але за імі важна не згубіць сутнасьці і сапраўднай мэту інтэграцыі. Што гэта? Дзеля чаго? Каму выгадна?**

Аб'ектыўна інтэграцыя Беларусі і Расеі як колішніх фактычных калёніі і мэтраполіі ня мае іншага тлумачэньня, апроч нядатнасьці кіраўніцтва РБ ажыцьцяўляць самастойную палітыку незалежнай дзяржавы. Прэцэдэнтаў у сусьветнай практыцы хапае. Апошні прыклад: просьба адной з Каморскіх выспаў, Анжуану, былой францускай калёніі, якая атрымала незалежнасьць, «забраць іх назад». Маўляў, «нічыво не палучаецца». Французы адказалі: «Не-не, вырашайце самі». Ня так выразна, але тое самае кажуць Лукашэнку і расейцы, усяляк гамуючы і «саюзны рубель», і «саюзны тэлевізар». Верагодна, разумеюць, што незалежнасьці — як найвышэйшай фазе дзяржаўнага разьвіцьця нацыі — альтэрнатывы пакуль нідзе ў сьвеце не прыдумалі. Вазьмі зараз тую Беларусь з Лукашэнкам, а прыйдзе які больш «прадзьвінуты» кіраўнік, з шырэйшым кругаглядам — і непазьбежна прыйдзецца мець клопаты з новым разьдзяленьнем.

Прапарцыйна дачыненьні Анжуану і Францыі такія самыя, як беларуска-расейскія. Толькі там ніхто не будуе папулісцкіх схемаў накшталт Каморска-Францускага саюзу, ніхто не займаецца самападманам. Урад адкрыта прызнае сваю слабасьць. Сутнасна наша сытуацыя адрозьніваецца толькі ў гэтым пункце. У нас кіраўнік сваёй слабасьці не прызнае і таму хоча, каб вяртаньне да каляніяльнага стану разглядалася як інтэграцыя, збліжэньне роўных. А ўлічваючы жорсткую канцэнтрацыю ўлады ў руках Лукашэнкі, трэба бачыць за тымі «інтэграцыйнымі ініцыятывамі» не палітыку ўраду ці парлямэнту, г.зн. дзяржавы, а палітыку пэрсанальна Аляксандра Лукашэнкі. Алягізм сытуацыі ў тым, што ў іншага, больш спрактыкаванага і мудрага кіраўніка, на ягоным месцы нават і думкі ня ўзьнікла б пра вяртаньне ў чысты каляніяльны стан. Менавіта незалежнасьць краіны зрабілася б падставай ейнага разьвіцьця, як гэта адбываецца ва ўсім сьвеце.

Паводзіны Расеі ў дачыненьні да «інтэграцыйных працэсаў» — падкрэсьлена стрыманыя і кабінэтныя. Бюджэт «саюзнай дзяржавы» — гэта фактычна заробкі чынавенства «саюзных структураў», аплата будынкаў гэтых структураў і саюзных мерапрыемстваў. Пра рэальныя аб'яднаўчыя акцыі расейцы гавораць неахвотна. Пуцін адной з галоўных задачаў Расеі назваў пазбаўленьне імпэрскіх амбіцыяў. Ужо ў гэтай фразе — і ацэнка сутнасьці Савецкага Саюзу, і ацэнка захадаў дзеля яго аднаўленьня. Маўляў, імпэрыі ня будзе.

Ацэнка Савецкага Саюзу як імпэрыі — пераемніцы імпэрыі расейскай — цалкам слушная. Давайце ўспомнім, якое месца займала Беларусь у гэтай савецка-расейскай імпэрыі. Марыянэткавыя ўрад, сымболіка, плянамернае скарачэньне беларускага школьніцтва, дыскрэдытацыя "недаразьвітага языка". У найгоршыя часы — фізычнае вынішчэньне беларускай інтэлігенцыі, у "найлепшыя" — забарона называць Беларусь краінай (а толькі рэспублікай).

Ідэалёгія братэрства не вытрымлівае крытыкі, хоць і эксплюатуецца ўжо 200 гадоў. Браты найлепей дачыняюцца, калі жывуць паасобку. Ідэалёгія праваслаўя ўсё больш дыскрэдытуе сябе то антысэмітызмам, то нічым не апраўданым цкаваньнем пратэстантаў, то імкненьнем стаць дзяржаўнай рэлігіяй у краіне, дзе суіснуюць розныя веравызнаньні і толькі тры працэнты дэклараваных праваслаўных сапраўды наведваюць царкву.

Не вытрымлівае крытыкі і прапаганда эканамічных выгодаў «інтэграцыі»: спробы прывязаць беларускі рубель да нестабільнага расейскага, выпрошваньне ў Расеі крэдытаў, якія тая, у сваю чаргу, бярэ на Захадзе. Усё гэта нават не стратэгія, у якой абавязкова мусіла б быць мэта: калі ж перастанем прасіць – праз год ці праз сто? Усё гэта выглядае на тактычныя крокі, абы заляпіць дзіркі. Хаця б на які месяц, а там пабачым.

Не вытрымлівае, нарэшце, крытыкі і міт пра беднасьць Беларусі на свае рэсурсы – самаабразьлівая казачка, якой таксама ўжо 200 гадоў. Хоць у сьвеце існуе мноства прыкладаў, што ня нафта і золата галоўны скарб краіны. Некаторыя ў нафце купаюцца, а жывуць дзіка. А некаторыя і на голым камені разводзяць райскія сады, дзякуючы ўмеламу выкарыстаньню працоўнага рэсурсу ўласнага народу. Гэта значыць – дзякуючы ўмеламу кіраваньню. Такая дзяржава ніколі ня вернецца ў каляніяльны стан, і яе людзі заўсёды будуць ганарыцца і ўласнымі грашыма, і ўласным пашпартам, і ўласнай сымболікай.

Вось чаму ўсе гаворкі пра інтэграцыю ў цяперашняй Беларусі нельга вытлумачыць нічым, апроч нядатнасьці кіраўніцтва самастойна наладзіць жыцьцё ў краіне.

Алесь Кебік, -- "Наша Ніва"



# СТАНІСЛАЎ БАНДАНКЕВІЧ: РАСЕЯ ГАТОВАЯ ЗАПЛАЦІЦЬ, КАБ ПАГЛЫНУЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ЭКАНОМІКУ Й МЕЦЬ ВЫХАД НА ЭЎРОПУ

ГазэтаСНГ.Ru

*Ратыфікацыя Расейскай Дзярждумаю пагадненьня паміж Расейскай Федэрацыяй і Беларусьсю аб увядзеньні адзінай грашовай валюты й фарміраваньні адзінага эмісійнага цэнтру "саюзнай дзяржавы" выклікала вайну камэнтараў у беларускіх дзяржаўных і апазыцыйных сродках масавай інфармацыі. Як паведамлялася пагадненьне пляную зь першага студзеня 2005 года адзінай грашовай адзінкі "саюзу". Яе ролю будзе выконваць расейскі рубель.*

Станіслаў Банданкевіч, былы старшыня Нацыянальнага банку Беларусі ў інтэрв'ю адной з апазыцыйных радыёстанцыяў заявіў, што не бачыць у гэтым акце нічога добрага для Беларусі:

- *Перш за ўсё таму, што гэта йдзе ў парушэньне Канстытуцыі, гарантам якой зьяўляецца глава дзяржавы. У Асноўным законе рэспублікі запісана, што на тэрыторыі Беларусі ёсьць Нацыянальны банк, і толькі тое, што ён выпускае, можа быць плацёжным сродкам. Таму адбываецца грубае парушэньне Асноўнага закону.*

На думку былога галоўнага банкіра краіны, ратыфікацыя Дзярждумай пагадненьня -- гэта палітычная гульня, якая будзе мець сур'ёзныя эканамічныя наступствы для Беларусі:

-- *Пры агульнай тэрыторыі, агульным рублі, значна лягчэй набыць усе нашыя прадпрыемствы, нашыя заводы і, магчыма, і зямлю, улічваючы, што ўРасеі зараз як раз рыхтуецца зямельнае заканадаўства. А мы ж абавязаліся ўніфікаваць сваё заканадаўства ў рамках "саюзу"...Я толькі спадзяюся, што да 2005 года яшчэ далёка, і ў "палаце прадстаўнікоў" зьявіліся сумневы ў часткі ратыфікацыі, нават Міністэрства юстыцыі паперу падрыхтавала, што груба парушаецца Канстытуцыя з пераходам на валюту суседняй дзяржавы.*

"Чаму так сьпяшаюцца расейцы?" - пацікавіўся карэспандэнт радыёстанцыі "Рацыя" ў Станіслава Багданкевіча й пачуў адказ: "Яны гатовыя штосьці і заплаціць на гэтым этапе, каб паглынуць нашу эканоміку, нашыя банкі й мець выхады на Эўропу".

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**Моцна просім Вас не забывацца перасылаць АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты!..**

# КУДЗІНАЎ АБВІНАВАЧВАЕ ЎЛАДЫ Ў ЗАБОЙСТВЕ І ВЫКРАДАНЬНІ АПАЗЫЦЫЯНЭРАЎ

**Уладзімер Кудзінаў мяркуе, што Генадзь Карпенка памёр не сваёй сьмерцю, а быў забіты. Таксама Кудзінаў лічыць, што беларускія ўлады спрычыніліся да зьнікненьняў Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара.**

Дэпутат Вярхоўнага Савету Уладзімер Кудзінаў на сёньняшняй прэсавай канфэрэнцыі ў праваабарончым цэнтры "Вясна" заявіў, што ўпэўнены ў датычнасьці беларусіх уладаў да зьнікненьняў Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара. Ён таксама мяркуе, што і да раптоўнай сьмерці Генадзя Карпенкі ў 1999 годзе таксама маюць дачыненьне беларускія спэцслужбы. Дэпутат спасылаўся на меркаваньне былых супрацоўнікаў сілавых структураў, якія знаходзіліся разам зь ім у калёніі.

(Кудзінаў:) "Калі толькі памёр Карпенка, адразу тыя, хто можа прафэсійна ацаніць сытуацыю, сказалі, што Рада Бясьпекі мае ўсе магчымасьці, каб любы чалавек памёр ад інфаркту. Таму я лічу, што Карпенка памёр не сваёй сьмерцю, што гэта заказное забойства чалавека, які на той момант быў лідэрам апазыцыі," – заявіў Уладзімер Кудзінаў.

Прычына зьнікненьня Юрыя Захаранкі, паводле Кудзінава, у тым, што ўлады ўбачылі небясьпеку ў ягоных спробах аб'яднаць вакол сябе былых сілавікоў. Што тычыцца Віктара Ганчара, зь якім Кудзінаў асабіста сябраваў, ён зьнік па волі тых самых людзей, якія аддавалі загады адносна Карпенкі і Захаранкі, мяркуе дэпутат.

(Кудзінаў:) "Восеньню 1999 году Ганчар, фактычна, ўзначаліў апазыцыю, вакол яго магло аб'яднацца ўсё грамадства, а гэтага нашыя ўлады баяцца больш за ўсё".

Кудзінаў, аднак, ўпэўнены, што праўда стане вядомая, а вінаватыя будуць пакараныя.

Ці адчувае дэпутат ўвагу з боку спэцслужбаў цяпер, пасьля выхаду з турмы? Уладзімер Кудзінаў адказаў на гэтае пытаньне станоўча. Яго ўжо паставілі на ўлік ў івацэвіцкай міліцыі. Акрамя гэтага, за ім пачало сачыць мясцовае КГБ. І ад яго, хутчэй за ўсё, ужо не адчэпяцца, – пераканаы Кудзінаў.

(Кудзінаў:) "За мной ўвесь час будуць сачыць, тэлефон будуць праслухоўваць, лісты прачытваць, ўсе мае выступы будуць аналізавацца. Пасьля таго, як тры гады таму я ўпершыню трапіў у карцар, на мяне была заведзеная спэцыяльная справа, і такая ўвага будзе ўвесь час, калі ў нас нічога ня зьменіцца. У іх такія парадкі. Я раней пра іх ня ведаў, а калі пабываў у турме, на многае расплюшчыў вочы," – заявіў Уладзімер Кудзінаў.

Ён падрабязна распавёў, як яго затрымлівалі і потым складалі справу аб хабары. У сьледчых не было доказаў ягонай віны, і яны пайшлі на яўную фальсыфікацыю, якую суд палічыў магчымым не заўважаць. У выніку з абвінаваўчага заключэньня ў прысуд трапілі проста сьмешныя недарэчнасьці.

(Кудзінаў:) "У прысудзе запісана, што міліцыянт Чарнуха, якому я падараваў сваю візытоўку, можа ў Маскве ці Санкт-Пецярбургу атрымаць па гэтай візытоўцы 200 даляраў. Вось які быў узровень у сьледчых і судзяў," – зазначае Кудзінаў.

Прагучала таксама прозьвішча былога намесьніка дзяржсакратара Рады бясьпекі Юркіна, які, паводле Кудзінава, адмыслова прыехаў ў Барысаў, дзе затрымалі Кудзінава, каб кіраваць сьледчымі ў ягонай справе. Уладзімер Кудзінаў заявіў, што не выключае новых правакацыяў, але саступаць не зьбіраецца. Ён быў вельмі ўзрушаны маральнай падтрымкай, якую атрымліваў у турме і атрымлівае цяпер. У якасці прыкладу была ўзгаданая нядаўняя сустрэча ў Івацэвічах зь невядомай жанчынай сталага ўзросту, якая адмыслова прыйшла да яго, каб выказаць свае думкі. "Яна прасіла не за сябе, а за ўсю краіну," – заўважае Кудзінаў і распавядае:

(Кудзінаў:) "Са сьлязьмі на вачох сказала: "Сьнок, зрабіце вы што-небудзь, вы ж маладыя, каб я ў апошні момант хоць убачыла, што нашае грамадзтва ідзе да паляпшэньня жыцьця".

Алег Грузьдзіловіч, Менск (RL)

# БЕЛОРУССКАЯ ГАЗЕТА" ГАВОРЫЦЬ ПРА КРАХ У АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗЫДЭНТА



*Скандальнае інтэрв'ю чыноўніка Івана Пашкевіча недзяржаўнай прэсе, у якім ён падверг рэзкай крытыцы працу сёньняшняй каманды Лукашэнкі і напрарочыў яму паразу на восеньскіх выбарах, атрымала працяг у "Белорусской газете". Гэтае выданьне праінтэрв'юравала Пашкевіча, а таксама зрабіла свой аналіз сытуацыі ўлады. Вынікі працягваюцца - навідавоку ўсе прыкметы краху.*

Вось што Пашкевіч сказаў пра працу сёньняшняга галоўнага дзяржаўнага ідэёляга Замяталіна:

*- Усё што я сказаў у нядаўнім інтэрв'ю "БДГ", ні ў якім разе не варта разглядаць як нейкі эмацыянальны экспромт. Гэта цалкам усьвядомлены аналіз занадта відавочных негатыўных тэндэнцыяў, якія праяўляюцца ў апошні час. Паколькі я зьяўляюся гарачым прыхільнікам палітыкі прэзыдэнта, я не магу бязьдзейсна глядзець на тое, як пры дапамозе некаторых людзей ва ўладзе разбураецца жыцьцяздольная дзяржаўная сыстэма.*

*Ужо пачалі прамалёўвацца небясьпечныя накірункі далейшага развіцьця Беларусі, а асаблівую актыўнасьць праяўляюць людзі, якія піхаюць Аляксандра Рыгоравіча ў не зусім патрэбны бок. І гэта можа скончыцца трагічна... Тое, што сёньня адбываецца, у тым ліку і на беларускім тэлебачаньні, ня проста пужае многіх. Проста жахлівыя ініцыятывы шэрагу асобаў з адміністрацыі прэзыдэнта настройваюць пераважную большасьць на вельмі песымістычны лад. А ўсё благое толькі пачынаецца...*

*Сёньня падвойна актуальнае пытаньне, хто й што зь ліку асобаў, блізкіх да ўлады. Бо невыпраўленьне відавочных памылак, як і нежаданьне мінімізіраваць негатыўныя наступствы ад дзеяньняў некаторых чыноўнікаў, непазьбежна прывядзе да трагедыі. Але калі й далей працягнецца істэрыя, ініцыянаваная Уладзімерам Пятровічам Замяталінам, то ўсё большая колькасьць людзей, што працуе на Аляксандра Рыгоравіча, апынецца ў разгубленасьці...*

*Уладзімер Пятровіч вакол бачыць выключна ворагаў, зь якімі патрэбна змагацца. Але так не мусіць быць!*

- Ці бачыце вы "цень" Замяталіна і ў сёньняшніх абразьлівых нападках шэрагу дзяржаўных СМІ на прадстаўнікоў пратэстантызму?

*- Хочаце маё меркаваньне? Уладзімеру Пятровічу, мягка кажучы, няма ніякай справы да таго, што менавіта адбываецца з пратэстантамі. Больш таго, яму наогул няма ніякай справы да беларускага грамадзтва, да беларускага народу. Мне падаецца, што для яго такой дзяржавы як Рэспубліка Беларусь зусім не існуе. Я ніколі не забуду канфлікт, які ў свой час разьвярнуўся вакол беларускага ліцэя. Зацікаўленыя бакі зьвярнуліся за дазволам канфлікту менавіта да Уладзімера Пятровіча, бо ў той час ён курыраваў пытаньні нацыянальнай адукацыі. І ведаеце, што адказаў Замяталін? Ён заявіў прыкладна наступнае: "Дэмакраты, павінны паважаць прынцып дэмакратычнага цэнтралізму, а паколькі на Беларусі большасьць размаўляе парасейску, значыць, беларускаму ліцэю тут ня месца".*

*Мне здаецца, што пры яго пэўным удзеле сьвет пабачыла вядомая антасеміцкая кніга "Война по законам подлости".*

*У рамках усёй рэспублікі сфарміравана група ў главе з Уладзімерам Пятровічам Замяталіным. Вакол Замяталіна і насамрэч сабраліся артадоксы, няздольныя да канструктыўных, пазытыўных дзеяньняў.*

*Я амаль упэўнены ў тым, што вельмі адыёзная й правакацыйная палітыка, якую праводзіць Уладзімер Пятровіч, прывядзе толькі да найбуйнога расколу грамадзтва. А гэта толькі пачатак.*

На падставе гэтага інтэрв'ю і ўласнага аналізу, БГ робіць несуцяшальныя для чыноўнікаў вынікі. Усё ідзе да таго, што выбарчую кампанію Лукашэнка ўзначаліць першы намесьнік главы ягонай адміністрацыі Уладзімер Замяталін -- чалавек, мякка кажучы, малапапулярны ў наменклятурных колах. Асноўныя выбарчыя дактрыны й клішэ Замяталіна добра вядомыя: вакол адны ворагі як унутры Беларусі, так і ў Расеі, і тым болей на Захадзе; праваслаўе -- дамінуючая рэлігія (і гэта ў поліканфесіянальнай краіне), а ўсё астатняе - варожыя сэкты і г.д. Акрамя таго, варта нагадаць, што і ў маскоўскай палітычнай эліце Замяталін не набыў якіх-небудзь значных кантактаў.

Вынікам усіх арганізацыйна-ідэялягічных хітрыкаў Замяталіна стане збор вакол Лукашэнкі культавай каманды камуністычных артадоксаў: Касьцян, Катляроў, Чыкін, Школьнікаў, Посахаў і далей.

Адкрытая няўпэўненасьць у заўтрашнім дні і, калі можна так сказаць, мясцовай наменклятуры зьяўляюцца, на погляд БГ знакавымі. І Пашкевіч проста падцьвердзіў. Той факт, што група Замяталіна пачала татальна дамінаваць у блізкім акружэньні Лукашэнкі, таксама вельмі сымптаматычны. Сёньня адміністрацыя прэзыдэнта ператварылася ў вельмі спэцыфічны дзяржаўны орган. У ягоных нетрах квітнее калі не антысемітызм, то палітычны, сацыяльны радыкалізм, напэўна. Значыць, нічога канструктыўнага для Лукашэнкі чакаць ня варта.

*******************************************

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДА Ў АЎСТРАЛІІ

Нягледзячы на ўсе незвычайнасьці жыцьця, каля 10.000 асобаў беларускага паходжаньня захавалі ў Аўстраліі мову і культуру сваіх бацькоў. Гісторыя беларускай мовы вельмі складаная. Разам з украінскай і расейскай, беларуская мова належыць да ўсходне-славянскіх моваў і даўней нават была сродкам дыпляматычных дачыненьняў у Эўропе. Гістарычна склалася, што па-беларуску можна пісаць як кірыліцай, так і лацінкай.

За апошнія некалькі дзесяткаў гадоў русыфікацыя беларускай мовы набыла такі памер, што некаторыя ўжо лічаць беларускую мову ня чым іншым, як дыялектам суседняй. Зрусыфікаваная беларуская мова, вядомая як наркомаўка стала адной з дзьвух афіцыйных моваў у сучаснай Беларусі.

Але ў Аўстраліі тутэйшыя беларусы размаўляюць і пішуць на традыцыйнай беларускай мове тарашкевіцы — мове, названай у гонар знакамітага беларускага мовазнаўцы Браніслава Тарашкевіча. Тарашкевіца таксама ўжываецца праграмай Радыё Эс-Бі-Эс на беларускай мове.

Пэрыядам прыезду ў Аўстралію першай арганізаванай хвалі беларускіх імігрантаў — гэта 1947-1951 гады. Сярод гэтай хвалі можна было знайсьці як звычайных сялян, так і высокакваліфікаваных спэцыялістаў у розных галінах прамысловасьці і культуры. Некаторыя былі вымушаныя пакінуць Бацькаўшчыну пасьля савецкай акупацыі Заходняй Беларусі ў 1939 годзе. Іншыя прайшлі праз нямецкія лягеры і прымусовыя працы ў Нямеччыне. За некалькі апошніх гадоў з Беларусі ў Аўстралію іміграvала каля 200 асобаў, якія ўладкаваліся ў Сыднэі, Мэльбурне, Адэляйдзе і Брызбане.

У першай хвалі імігрантаў большасьць складалі халастыя мужчыны і незамужнія жанчыны. Па патрабаваньні тагачаснага ўраду Аўстраліі яны вымушаныя былі падпісаць двухгадовы кантракт на працаўладкаваньне. Некаторых паслалі падымаць сельскую і лясную гаспадарку краіны. Шмат хто атрымаў працу на вядомай будоўлі ў Сьнежных горах, што ў Новай Паўднёвай Валіі. Пасьля заканчэньня контрактаў людзі пацягнуліся ў гарады з надзеяй атрымаць звыклую ім працу, рабіць тое, чым яны займаліся на Бацькаўшчыне. На пачатку 50-х гадоў, калі ў аўстралійскіх беларусаў пачало стабілізавацца прыватнае жыцьцё, калі яны ўладкаваліся на больш сталую працу, — пачалі ствараць свае задзіночаньні і арганізацыі.

Звычайна падобныя арганізацыі ствараліся дзеля згуртаваньня людзей паводле інтарэсаў, або рэлігійнай прыналежнасьці. Напрыклад, у Адэляйдзе беларусы арганізавалі хор, у Сыднэі — драматычную студыю, у Канбэры — гурток мастацкай вышыўкі, якім доўгі час ганарыліся тутэйшыя беларусы. Большасьць аўстралійцаў беларускага паходжаньня належыць да праваслаўнага хрысьціянства, але ёсьць тут і каталікі. Падчас сьвяткаваньняў беларускіх нацыянальных сьвятаў у праваслаўных цэрквах зьбіраюцца ўсе беларусы, нягледзячы на розьніцу веравызнаньня. Сярод аўстралійскіх беларусаў назіраецца вялікі ўзровень мяшаных шлюбаў з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў, што жывуць у Аўстраліі. Верагодна гэта стала вынікам таго, што ў першай хвалі імігрантаў прыбыло шмат халастых мужчынаў і незамужніх жанчынаў.

Беларуская мова і культура захаваліся на зялёным кантынэнце ў першую чаргу праз моцны нацыянальны дух беларускай грамады, загартаваны за першыя гады ўладкаваньня ў новай краіне. У гэтай справе важную ролю адыгралі і сродкі масавай інфармацыі. Першая беларускамоўная газэта была надрукавана ў Аўстраліі ў пяцідзесятыя гады. Першая радыёперадача на беларускай мове ў Аўстраліі выйшла ў эфір у Брызбане ў 1953 годзе. 'Наймаладзейшай' ёсьць беларуская радыёперадача, што выходзіць у Пэрце ад 1984 году.

Паводле "Радыё SBS."

# 40% ВУЧОНЫХ-ЭМІГРАНТАЎ ЗЬ БЕЛАРУСІ З'ЯЗДЖАЮЦЬ У ЗША

БелаПАН

***Згодна са зьвесткамі статыстычнага абсьледаваньня, праведзенага ў лістападзе 2000 года сярод навуковых арганізацыяў і ВНУ рэспублікі Цэнтрам маніторынгу міграцыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў Інстытуту сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, у 1999 годзе агульная колькасьць навуковых работнікаў і выкладчыкаў ВНУ рэспублікі, якія эміграvалі і засталіся за мяжой, узрасла больш чым на 9 адсоткаў.***

Па краінах-рэцыпіентах асноўныя патокі інтэлектуальнай эміграцыі зь Беларусі ў 1999 годзе разьмеркаваліся наступным чынам: ЗША - 39 адсоткаў ад агульнай колькасьці тых, хто выехаў за мяжу на пастаяннае месца жыхарства або застаўся за мяжой; Германія - 21 адсотак; Ізраіль - 9 адсоткаў. Сярод іншых краінаў-рэцыпіентаў прадстаўлены Расея, Канада, Польшча, Вялікабрытанія, Швэцыя, Галяндыя, Францыя, Чэхія.

На працягу 1996-1999 гадоў штогод эміграvалі за мяжу і заставаліся за мяжой у сярэднім па 70 чалавек. Многа гэта ці мала? - задаюць пытаньне вучоныя і зазначаюць, што па колькасьці навуковых работнікаў вышэйшай кваліфікацыі (дактароў і кандыдатаў навук) штогадовая інтэлектуальная эміграцыя зь Беларусі параўнальная з колькасьцю навуковых работнікаў гэтай кваліфікацыі, занятых дасьледаваньнямі і распрацоўкамі ў 1999 годзе ў Віцебскай вобласьці.

# Лукашэнка можа адмовіцца ад выбараў?..

Свабодны прафсаюз Беларускі зрабіў заяву «ў сувязі з прэзідэнцкімі выбарамі». У ёй выказваецца непакой, што Аляксандр Лукашэнка можа пайсці на тое, каб чарговы раз працягнуць тэрмін сваіх паўнамоцтваў праз нейкія нібыта канстытуцыйныя рашэнні.

Згадваюцца заявы Лукашэнкі пра падрыхтоўку адправіць у Беларусь пад выглядам незалежных назіральнікаў за выбарамі звыш 14 тысячаў баевікоў, а таксама пра словы старшыні Цэнтрвыбаркаму Лідзіі Ярмошынай, што ў выбарчыя камісіі не будуць дапушчаныя прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў. У СПБ робяць выснову: «істэрычная рэакцыя існуючай улады зразумелая – пры правядзенні сумленных і адкрытых выбараў шанцы застацца кіраваць краінай малаверагодныя». Таму «прадпрымаюцца спробы з боку людзей, што знаходзяцца ва ўладзе, паклёпнічаць на іншых кандыдатаў, скрасці вынікі выбараў. Грамадзтву ўнушаецца думка, што дзейнічаючаму прэзідэнту, якога не прымаюць у прыстойных колах, няма альтэрнатывы ў дзесяцімільённай Беларусі».

# КАЛГАСНАЕ БЕЗЗАКОНЬНЕ,

## — ТАК ХАРАКТАРЫЗУЕ СЁНЬНЯШНЮЮ СІТУАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ АДЗІН З ЛІДЭРАЎ АПАЗЫЦЫІ ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ

Паводле “Права на волю”.

***— Лявон Пятровіч, якой вам бачыцца сапраўдная прававая дзяржава?***

— Дакладную яе фармулёўку даў у свой час беларускі дзяржаўны дзеяч 16-га стагодзьдзя Леў Сапега (магчыма, першым у сьвеце!): "Ня волю чалавека карыстацца трэба, а пісаным законам".

***— Але законы ў Беларусі, як і канстытуцыі, ніколі не былі кепскімі, антынароднымі...***

— Яны проста не выконваліся. А закон — не палітычны маніфест, а стан грамадзтва. Калі законатворчасьць — ня вынік грамадзкай патрэбы, дзяржава заўжды застаецца паза прававым полем... У 90-ым годзе, калі прымалася Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, нават дэпутаты сумняваліся ў мажлівасьці рэалізацыі намечанага: "Напісаць можна многае, але ці будзе яно выконвацца?!" Дэкларацыя заўжды застаецца дэкларацыяй без адладжанага механізму выкананьня законаў... Ці прымаем сёньня мы з вамі ўдзел у абмеркаваньні законапраектаў? Адназначна, не! Нават адпаведная рубрыка (няхай у пэўнай ступені і фармальная) зьнікла з газетных палосаў. Праекты законаў практычна бяз зьменаў зацьвярджаюцца "парламентам" — Палатамі. У выніку ў дзейнасьці закону ніхто не зацікаўлены.

***— Выходзячы з гэтага, як бы вы ацанілі беларускую прававую сітуацыю?***

— Як калгаснае беззаконьне. У межах сваёй гаспадаркі старшыня калгасу — цар, а таму творыць што пажадае (няхай даруюць сумленныя старшыні, якіх яшчэ нямала). Гэта нават не таталітарызм. Сістэма кіраваньня Лукашэнкі проста не падыходзіць пад нейкія класічныя формы. Калі чалавек трапляе ў "царскую" няміласьць, — ён можа зьнікнуць, як Захаранка, Ганчар. Справа даходзіць нават да фізічнага зьнішчэньня. А закон сарамліва маўчыць...

***— Выходзіць, з часінаў вашага дэпутацтва ў Вярхоўным Савеце 12 скліканьня так нічога і не зьмянілася на Беларусі? Як быў закон «дышлам» ва ўладарных руках, так ім і застаўся?***

— Зьмянілася шмат, але ў горшы бок. Тады было партыйнае беззаконьне. Закон існаваў фармальна. І служыў ён толькі камуністычнай партыі, якая прававыя аспэкты папросту ігнаравала (Лукашэнка зараз вельмі эфектыўна выкарыстоўвае назапашаны партыйны вопыт). Пачаткі сапраўды прававой дзяржавы закладваць у гэтых умовах было вельмі цяжка. Але дзейснасьць дэпутацкіх захадаў усё ж адчувалася. У нас нават доступ быў да выканаўчай улады. Мы маглі патрабаваць, адстойваць сваё. А сёньняшнія дэпутаты?! Прэм'ер-міністра яны бачаць толькі некалькі разоў у год. Аднак сустрэчы гэтыя — аднабаковыя, не канструктыўныя. Словам, кантролю за выкананьнем заканадаўства — ніякага. А ў 9394 гадах гэты механізм пачынаў адладжвацца. Маю на ўвазе і дэпутацкі кантроль, і кантроль сродкаў масавай інфармацыі. Цяпер гэтыя інстытуцыі па волі прэзідэнта адсунутыя ад выкананьня сваіх непасрэдных функцыяў. Менавіта такім станам заканадаўства «праславіліся» ў 5060 гады краіны Афрыкі, Лацінскай Амерыкі. Такім чынам, Лукашэнка ў гэтым плане — лідэр далёка не ўнікальны.

***— І народу нашаму суджана цярпець "калгаснае беззаконьне" бясконца?!***

— Чалавек вельмі добра адчувае беззаконьне, калі яно кранае яго асабіста. Няма разуменьня таго, што дзяржаўная абыякавасьць — заканамерны вынік сёньняшняй сістэмы. Пакрыўджаны чымсьці чалавек цьвёрда перакананы, што ва ўсіх ягоных бедах вінаваты канкрэтны і ня вельмі сумленны чыноўнік. Таму грамадзтва не патрабуе зьменаў. Яно проста ня ведае, ня хоча ведаць, што такое прававая дзяржава. Гэта вынік савецкага выхаваньня, савецкай ідэалогіі. Ці ж вялікім грэхам лічылася за савецкім часам украсьці з калгаснага поля качан капусты ці прынесьці дахаты штонебудзь з працы? Кралі ўсе і ўсе пра гэтага ведалі, але заплюшчвалі вочы. Як жа інакш у жабрацкай краіне? Калі крадзе першы сакратар райкаму, няхай крадзе і даярка. І правілы гульні былі канкрэтнымі: даярка можа сесьці ў турму, партыйны сакратар — ніколі. Нешта падобнае адбываецца ў Беларусі цяпер. Будаваць прававую дзяржаву нявыгадна.

***—Лукашэнка вядзе "нястомную барацьбу з карупцыянерамі", а былыя першыя сакратары — сёньняшнія вертыкальшчыкі паранейшаму набіваюць кішэні. У любым нашым райцэнтры няцяжка здагадацца, дзе і як жыве тутэйшы прэзідэнцкі вылучэнец. Шыкоўныя дом, дача, машына...***

— Пакуль ты ў фаворы,табе дазволена амаль усё. Трапіў у няміласьць — ніхто не дасьць гарантыі, як скончыцца тваё жыцьцё, твая кар'ера. Характэрныя прыкметы калгаснага беззаконьня.

***— Няўжо нашае грамадзтва так безнадзейна хворае?***

— Пра якую хваробу грамадзтва гаворка, калі за ўдзел у антыўрадавых дэманстрацыях выказваецца да 450 тысячаў мінчукоў! Натуральна, выходзяць ня ўсе. Баяцца. Удзельнікаў маршаў сьпецслужбы здымаюць на відэа, потым вылічваюць кожнага з экрану і караюць. Але паўтараю, патэнцыял у нас вялізны. У другім "Маршы Свабоды" ўдзельнічала 50 тысячаў чалавек. У прапорцыі да насельніцтва Расіі — дзесьці 750 тысячаў. Калі б столькі апазіцыянераў выйшла на вуліцы Масквы — была б рэвалюцыя... Вальнадумства ў нас заўжды было. Скажам, у Полацку дысідэнцкі рух нарадзіўся ў 70ых гадах мінулага стагодзьдзя. Ля вытокаў стаялі пісьменнікі Уладзімір Арлоў, Вінцэсь Мудроў. Тады, у 70я, выйшла чатыры нумары часопісу «Блакітны ліхтар». Мы адзначалі Дзень волі 25 сакавіка, на ксераксах множылі забароненыя слоўнік Ластоўскага з яго знакамітай прадмовай, працы гісторыка Ермаловіча. Мы адчувалі нацыянальную несправядлівасьць, спачувалі замежным дысідэнтам... Выхадца з Бабруйску спадара Кукабаку — праваабаронцу ўзроўню Шчаранскага і Сахарава, — калі ён вярнуўся ў 90ых на Беларусь, урачыста сустрэлі, нейкім чынам аддзячылі за ягоную барацьбу... Так што на Беларусі заўжды быў даволі прыстойны дысідэнцкі рух. Але адсутнічала галоўнае — база, традыцыі пераемнасьці. КДБ ведаў, што вялікія масы беларускія вальнадумцы за сабой не павядуць, ведаў, што беларуская інтэлігенцыя, амаль цалкам вынішчаная за гады рэпрэсіяў, толькі нараджаецца. У горшым выпадку незадаволеных парадкам выключалі з ВНУ, звальнялі з працы, як гэта было, да прыкладу, з Алесем Разанавым, з Зянонам Пазьняком. А ўкраінскага праваабаронцу Леўку Лук'яненку, які змагаўся за родную мову, садзілі за краты. Украінскае вальнадумства мела трывалыя карані, базу, традыцыі... Але гэта ня значыць, што нашае дысідэнцтва — "кухоннае", малаэфектыўнае. Урэшце, ня трэба забываць, што дысідэнт ідзе насуперак усталяванай думцы большай часткі грамадзтва. І справу будуць вырашаць не дысідэнты, а апазіцыйна настроеныя людзі.

***— Але пагадзіцеся з тым, што ва ўмовах бяспраўя ды беззаконьня ў нас баль ва ўсім правіць страх. Страх страціць працу, страх зьнікнуць за свае палітычныя перакананьні... Беларускі КДБ — сапраўды ўсемагутная арганізацыя?***

— Уся сіла камітэту — у Расіі.Там беларускія архівы, там усе дасье. На пачатку 90ых нашыя кадэбэшнікі нават праўды пра Курапаты ня ведалі. Як зьмянілася сітуацыя за апошнія пяць гадоў, дакладна ня ведаю (падзеі ацэньваю ўжо не ў якасьці дэпутата), але, мяркуючы па тым, што вядучыя пасады ва ўладзе (у тым ліку і ў органах) займаюць вылучэнцы з Масквы, — нічога не зьмяняецца. Па ўскосных дадзеных, сітуацыя, наадварот, пагаршаецца. Расійскае ўзьдзеяньне відавочнае. Ужо неаспрэчна тое, што сёньняшняя сістэма дзяржаўнага кіраваньня і ўціску вычарпала рэсурс. Кампраматы, запалохваньні зжылі сябе, і крах сьпецслужбаў савецкага тыпу проста непазьбежны. КДБ павінен не абслугоўваць уладу Лукашэнкі, а займацца сапраўды дзяржаўнай бясьпекай... Сьвет робіцца больш адкрытым. У Інтэрнэце нават сьпісы калісь засакрэчанай агентуры зьмешчаныя. Ну, як у такіх умовах з народам змагацца?

***— Лявон Пятровіч, якія з правоў чалавека, на ваш погляд, у Беларусі парушаюцца найчасьцей?***

— У першую чаргу, права на дастойнае ўзнагароджаньне за працу. Міністры атрымліваюць непараўнальна больш, чым заслугоўваюць. Рабацягі — наадварот. А галодны жабрак — неўраўнаважаны псіхічна. Яму, бедаку, не да дэмакратыі. Ахлакратыя (улада натоўпу) — рэч жахлівая ў сваіх праявах... Лурашэнка не зацікаўлены ў тым, каб рос дабрабыт беларусаў, хоць з трыбунаў штодня сьцьвярджае пра адваротнае. Логіка тут зразумелая: на дэманстрацыю пойдзе толькі сыты альбо ідэйны — яму ёсьць што адстойваць, за што змагацца; а галодны пакорліва маўчыць, бо баіцца ўсяго на жывельным узроўні, бо адчувае, што праўда на баку моцнага, а не разумнага...

Натуральна, парушаюцца правы на свабоду слова і галоснасьці. Як, зрэшты, цяпер і ў Расіі. Незалежныя СМІ былі патрэбныя Крамлю да пераразьмеркаваньня ўлады і маёмасьці. Цяпер закручваюцца гайкі. А ў сапраўды дэмакратычнай і незалежнай Чэхіі бастуючыя тэлежурналісты хутка дамагаюцца справядлівасьці і праўды... Грамадзтва павінна адчуць патрэбу ў свабодзе слова. І справа не ў незалежных газетах — якраз іх на Беларусі хапае. Рэжым цудоўна ведае, што не яны будуць вызначаць ход далейшых падзеяў. Яшчэ Гітлер дзеля дасягненьня асабістых мэтаў першы скарыстаў радыё. Таму ўсе электронныя СМІ зараз у руках Лукашэнкі.

***— Але ў Мінску тое малапрафесійнае БТ ніхто асабліва не глядзіць...***

—Так. А ў правінцыі, дзе адзіндва тэлеканалы? Хочаш ці не — а глядзі так званы «нацыянальны». Не кажу ўжо пра радыёкропкі, якія «прамываюць» мазгі вяскоўцам з ранку да ночы... Любы рэферэндум можа выйграць той, хто валодае электроннымі СМІ. Гэта аксіёма на постсавецкай прасторы. Ёю і карыстаецца ледзь не штодня «усенароднаабраны» Лукашэнка. Я перакананы, што ў выніку першага рэферэндуму, калі гаворка ішла пра гістарычную сімволіку і двухмоўе, наш нацыянальны сьцяг і герб "Пагоня" павінны былі застацца дзяржаўнымі. Калі б не паўзьдзейнічаў на падсьвядомасьць людзей фільм «Дзеці маны», своечасова паказаны на БТ, ніякія падтасоўкі не дапамаглі б. Ілжывая, правакацыйная стужка. А прадстаўнікоў апазіцыі да тэлебачаньня тады проста не падпусьцілі. Вось такая дэмакратыя.

***— Вас некалькі разоў арыштоўвалі, пазбаўлялі волі...***

— Затрымлівалі мяне дзесяць разоў. А сядзеў за кратамі па некалькі сутак тройчы. Натуральна, за мае палітычныя перакананьні каралі ня столькі пазбаўленьнем волі, колькі прыніжэньнем чалавечай годнасьці. Беларускія турмы ня сродак пакараньня, а сродак прыніжэньня. Адсутнічаюць элементарныя санітарнагігіенічныя ўмовы. Няма сьвятла ў камерах. Усе яны — перанаселеныя... Нават газеты чытаць не дазвалялася! Памятаю, у чэрвені 97-га праваабаронцы з арганізацыі «Вясна», каб перадаць сьвежы нумар тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» з маімі перакладамі вершаў Булата Акуджавы, загарнулі ў газету... кавалак сала. Ніхто з наглядальнікаў не ўзважыў «правакацыі».

***— Лявон Пятровіч, як вы ставіцеся да будучых прэзідэнцкіх выбараў? Нягледзячы на крамлёўскую падтрымку, улада Лукашэнкі відавочна агоніе?***

— За сёньняшнім рэжымам — Масква, вялізныя грашовыя сродкі, электронныя СМІ. У Лукашэнкавым электараце — адстаўныя энкавэдысты, якіх палохае ня столькі будучыня, колькі ўласная брудная мінуўшчына, састарэлыя дагматычныя сталіністы ды малыя неафашысты... За апазіцыяй — толькі частка незадаволенага жыцьцём насельніцтва. Але любы шанц, які даюць будучыя прэзідэнцкія выбары, апазіцыя проста абавязаная выкарыстаць дзеля зьмены ўлады, дзеля ўмацаваньня сістэмы супрацьстаяньня хлусьні і беззаконьню... Вядома, што толькі некалькі адсоткаў электарату цікавіцца палітыкай у перыяд паміж прэзідэнцкімі выбарамі, але напярэдадні іх гэтая цікаўнасьць

павялічваецца да 80 адсоткаў. Цікаўнасьць да альтэрнатывы, да ўласнай будучыні ў рэшце рэшт... Але нават не ў альтэрнатыўнай кандыдатуры зараз справа. Кандыдат абавязкова зьявіцца, і не адзін. Посьпех будучых выбараў будуць вызначаць сілы, якія згуртуюцца вакол будучага прэзідэнта. Таму выключна важна ў гэты прапагандысцкі час, у час расстаноўкі палітычных акцэнтаў, не кідаць камянямі адзін у аднаго, а сканцэнтравацца на адным генеральным накірунку. Ад сёньняшняй нашай зьядналасьці залежыць лёс нацыі, лёс кожнага з нас... Барацьба з рэжымам — не самамэта. З выходам Лукашэнкі жыцьцё імгненна не палепшыцца. Галоўнае — стварэньне сапраўднага заканавытворчага і заканадаўчага апарату, сапраўднага прававога поля, з чаго і складаецца дэмакратычная дзяржава...

Няма сумневу, што сёньня большасьць грамадзянаў Беларусі зразумела: патрэбна неадкладная зьмена ўлады. Лукашэнка ня можа гэтага не адчуваць, а таму баіцца. «Пераменаў!» — патрабуе ня толькі моладзь, але й пастауленая на калені вёска, змардаваная бязглуздым кіраўніцтвам вытворчасьць, прыніжаная жабрацкімі заробкамі інтэлігенцыя. Усе яны спадзяюцца і вераць, што калгаснаму беззаконьню ўрэшце сёлета прыйдзе канец.

**Гутарыў Алесь Гаркун.**

*******************************************

# БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ У ЭМІГРАЦЫІ -- ВЫГАДНА

*Сярод эмігрантаў, што выязжаюць у краіны Эўропы на сталае месца жыхарства з краінаў былога СССР, становіцца модным і выгадным называцца беларусамі.Справа ў беларускім рэжыме, які лічыцца дыктатарскім і таму атрымальне палітычнага прытулку на Захадзе амаль гарантуецца. Калі ж хто прыехаў з Расіі ці Украіны, то прытулак даецца вельмі цяжка. Таму, па паведамленьні крыніцы прэс-цэнтра Хартыі ў Вялікабрытаніі, хто больш-меньш ведае такую справу, мае з сабой альбо павестку ад "роднай беларускай міліцыі" ці якія іншыя доказы. Кожнаму трэба будзе даказваць, што ён меў канфлікт з рэжымам.*

Разгляд справы можа йсьці нават да некалькі гадоў. На працягу гэтага часу даецца магчымасьць працаваць, вучыць ангельскую мову (калі не атрымалася вывучыць яе у школе ці ў вну), ажаніцца і гэдак далей. Таксама даецца сацыяльная дапамога.

Існуе Жэнеўская Канвенцыя аб палітычных уцекачах, да якой далучылася й Брытанія, згодна з якой краіна,што прымае, не паведамляе нічога ўладам той краіны, зь якой уцек чалавек. Таму не будзе ведаць амбасада Беларусі праўды.

Больш таго, сярод такіх "беларускіх" уцекачоў у Брытаніі існуе легенда, што пад час адной з сваіх "прамоваў" чалавек, які называе сябе прэзыдэнтам, але мае прозьвішча Лукашэнка, выдаў такі перл, што "кожны, хто жадаў атрымаць палітычны прытулак за мяжой, атрымае пяць год турмы калі вернецца на Беларусь".

## Зьвяз палякаў у Беларусі мае новую сядзібу ў Менску.

Будынак, пабудаваны ў 1950 годзе і адрэпараваны 5 гадоў таму, прызначаны для менскіх уладаў Зьвязу палякаў і польскіх арганізацыяў у Беларусі. Новы Дом паляка ў Менску мае больш за 500 кв. мэтраў плошчы і каштаваў 180 тысячаў даляраў. Закуп дому прафінансавала арганізацыя Вспульнота Польска. Паводле плянаў беларускіх палякаў, дом мае служыць разьвіцьці польскай культуры ў рэгіёне. Паўстане там польская школа, нядзельная школа, бібліятэка, а таксама заля са спадарожнікавай тэлевізіяй. Кола Зьвязу палякаў у Менску налічвае 250 чалавек, ва ўсёй менскай вобласьці ў Зьвяз уваходзяць амаль тры тысячы чалавек

# «Настаўнік» роднай мовы — камп'ютэр?

**Алена ЛЯЎКОВІЧ** – "Зьвязда"

**Пакуль што — мара, але не нязбытная**

З гэтай праблемай сутыкаўся, напэўна, кожны пішучы чалавек (маю на ўвазе не толькі ўсялякага маштабу творы, але і дакументы, даведкі, заявы рознага кшталту і г.д). З праблемай уласнай пісьменнасці, канешне. Сорамна, ведаеце, прапаноўваць сваю пісаніну іншым без цвёрдай упэўненасці, што там няма памылак. На вёсцы з гэтым спрадвеку проста — нясуць правяраць напісанае чалавеку «граматнаму», часцей — настаўніку мовы. Але што рабіць, калі ты сам нібыта і «граматны», сядзіш за клавіятурай камп'ютэра, а ў арфаграфічнай бязгрэшнасці напісаных радкоў усё роўна не ўпэўнены?

Тэхнічны прагрэс ужо даўно з гэтым разабраўся: набіраеш тэкст на камп'ютэры, а ён табе тут жа твае ўласныя памылкі і падкрэслівае. Ды яшчэ і правільныя варыянты прапануе. Карацей, пашанцавала нам, нават тым, хто з правапісам не вельмі дружыць. Пашанцавала, ды не ўсім. Напрыклад, радкі, якія вы зараз чытаеце, камп'ютэр, нават самы сучасны, выправіць не можа. Застаецца спадзявацца на ўласную кемлівасць ды на стыліста і карэктараў, якія нашы памылкі пільна высочваюць і выпраўляюць і перад якімі за гэтыя памылкі часам бывае вельмі сорамна. У такой жа сітуацыі і ўсе мае калегі-звяздоўцы і наогул усе, хто працуе на камп'ютэры з беларускамоўнымі тэкстамі. Таму што беларуская мова — бадай адзіная з еўрапейскіх, якая па сённяшні дзень не мае так званага «камп'ютэрнага карэктара» — праграмы, якая б аўтаматычна сачыла за правапісам набіраемага тэксту.

Амаль усе дзяржаўныя мовы рэспублік былога Саюза ўжо маюць падобныя «карэктары», не кажучы пра мовы заходніх краін. Рабіліся спробы ажыццявіць гэты праект і ў нас, але ён не знайшоў дзяржаўнай падтрымкі, і справа пакрысе зацíхла.

Каму ж патрэбны беларускі «карэктар»? Усім, хто працуе з беларускім тэкстам на камп'ютэры. На сённяшні дзень гэта значыць амаль усім, хто наогул працуе з беларускім тэкстам. Нават школьнікам і студэнтам. Для іх наогул камп'ютэр мог бы стаць своеасаблівым «настаўнікам» роднай мовы. Таму што правілы вучаць далёка не ўсе, а вось калі машына некалькі разоў падкрэсліць тваю памылку, міжволі запомніш, як тое слова правільна пішацца. Спатрэбіўся б «карэктар» і для супрацоўнікаў пасольстваў розных краін у Беларусі. Магчыма, тады б сярод плыні рускамоўных і англамоўных дакументаў, якія яны рассылаюць у розныя дзяржаўныя інстанцыі, сустракаліся б і паперы на другой дзяржаўнай мове краіны — беларускай.

Не кажучы ўжо пра тое, што названая праграма значна аблегчыла б працу карэктараў у рэдакцыях і выдавецтвах. Не замяніла, а іменна аблегчыла, бо нават работу самага сучаснага станка з аўтаматычным кіраваннем правярае ў рэшце рэшт усё той жа чалавек. Акрамя таго, пры распрацоўцы гэтай праграмы, цалкам магчыма, удалося б замацаваць некаторыя спрэчныя нормы беларускай мовы. Бо падмуркам для стварэння «карэктара» павінны стаць выверанья, ужо апублікаваныя тэксты з выданняў, якія зроблены ў адпаведнасці з нормамі і правіламі беларускай мовы. Зразумела, што чым больш варыянтаў тэкстаў будзе задзейнічана пры падрыхтоўцы камп'ютэрнай праграмы, тым больш дакладнай яна атрымаецца.

Пасля распрацоўкі самай простай праграмы (яна можа ўмясціцца самае большае на дзвюх дыскетах) можна зрабіць і больш складаную, напрыклад, якая будзе выпраўляць знакі прыпынку і стылістычныя недакладнасці. Зьявіцца магчымасць аўтаматычнага перакладу ў Інтэрнэт — не толькі з нейкай мовы на беларускую, але і з беларускай на іншую. Гэта значыць у розных кутках людзі змогуць пазнаёміцца з нашай краінай з першых вуснаў, чытаючы нашы, беларускія тэксты, а не тое, што ведаюць ці прыдумваюць пра нас тыя, хто ля Беларусі і блізка не быў. (Кажуць, што стваральнікам першага сайта, які расказваў карыстальнікам глабальнай сеткі пра Беларусь, быў нейкі амэрыканскі студэнт.)

Але гэта толькі мары і планы. Пакуль жа маем тое, што маем, а дакладней — не маем. Аб гэтым мы і гутарылі з актыўным ініцыятарам стварэння беларускага камп'ютэрнага «карэктара», загадчыкам рэдакцыі камп'ютэрнай падрыхтоўкі рукапісаў выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» Сяргеем Макаёнкам. Сяргей з веданнем справы адзначае, што работа па стварэнні праграмы не такая ўжо і складаная, і можа быць выканана на матэрыяле аднаго-двух вялікіх выдавецтваў, якія друкуюць разнастайную літаратуру. Але з не меншай упэўненасцю гаварыў мой суразмоўца і пра тое, што без дзяржаўнай падтрымкі гэты праект так і застанецца праектам, бо над ім павінны працаваць спецыялісты ў розных галінах (праграмісты і мовазнаўцы) пад эгідай якой-небудзь дзяржаўнай структуры (камітэту па навуцы, напрыклад).

А мне падаецца, што акрамя прыведзеных важкіх прычын, чаму ж нам ўсё-такі патрэбны беларускі «карэктар», варта задумацца яшчэ вось над чым. «Карэктар» другой дзяржаўнай мовы на Беларусі — рускай, ужо даўно існуе і з кожным годам удасканальваецца. Але, прызнаемся, заслугі беларусаў тут няма аніякай: над праграмай працуюць лепшыя спецыялісты Масквы і Пецярбурга. Можа, варта пастарацца хаця б для другой дзяржаўнай мовы, для якой, акрамя нас саміх, беларусаў, не пастараецца ніхто?

# У ЗША ПАМЁР ВЫДАТНЫ БЕЛАРУСКІ ПАЭТ МАСЕЙ СЯДНЁЎ

*5 лютага ў амэрыканскім горадзе Гленкоу, размешчаным непадалёк ад Нью-Ёрку, на 88-м годзе жыцьця памёр выдатны беларускі паэт Масей Сяднёў, Пакутніцкі шлях паэта падобны на лёс многіх іншых беларускіх літаратараў. Ён быў рэпрэсіраваны ў самым росквіту творчых сілаў, не пасьпеўшы скончыць Мінскі вышэйшы педінстытут.*



Разам з 12-ю іншымі студэнтамі, якія толькі пачалі друкаваць сваю паэзію, Сяднёў быў асуджаны і адпраўлены на Калыму, дзе чатыры гады знаходзіўся ў зняволеньні. Аднак так было наканавана лёсам, што напярэдадні вайны яго прывезьлі на перагляд справы ў Менск і зьмясьцілі ў турэмную камеру на вуліцы Валадарскага.

Паўторны суд, прызначаны на 26 чэрвеня 1941 года, не адбыўся. Усіх зьняволеных - крымінальнікаў і так званых "ворагаў народа" - пагналі па Магілёўскай шашы. У двары чэрвеньскай турмы калону падзялілі на палітычных і крымінальнікаў. Апошніх адпусцілі па дамах, а палітычных расстралялі ва ўрочышчы Цагельня, дзе цяпер стаіць памятны крыж. Толькі дзякуючы таму, што паэт стаў у крымінальную шарэнгу, ён застаўся жывым. Потым былі доўгія гады вайны і блуканьняў па чужыне, пакуль Сяднёў не апынуўся за акіянам. Толькі ў 1992 годзе паэт быў рэабілітаваны па заяве сваёй сястры, якая цяпер жыве ў Касьцюковічах (Магілёўская вобласьць), і тройчы прыязджаў на Бацькаўшчыну.

У ЗША выйшлі яго зборнікі паэзіі -- "Патушаныя зоры" (пра дзяцінства, юнацтва і сталінскія лягеры), "Ачышчэньне агнём" (пра гады выгнаньня, блуканьня па Эўропе і згубленую радзіму), "А часу больш, чым вечнасьць". Сярод прозы Сяднёва – аўтабіяграфічныя раманы "Раман Карзюк", "Той дзень адышоў" і зборнік публіцыстыкі "Масеева кніга".

# Жыццё кампазітара Міколы Равенскага

Дзіяна ЧАРКАСАВА

**Музычная спадчына беларускага кампазітара Міколы Равенскага магла б скласці гонар любому народу, але беларусы пра яго амаль не ведаюць. Аднак у першай палове 90-х гадоў, у кароткі прамежак часу, калі Беларусь была свабоднай і нават набыла свое адметныя дзяржаўныя сімвалы, а народ абмяркоўваў варыянты новага беларускага гімна, Мікола Равенскі згадваўся як магчымы аўтар будучага дзяржаўнага гімна.**

**Жыццё**

«Магутны Божа» на словы паэтэсы Наталлі Арсенневай гучаў тады па радыё, яго выконваў хор пад кіраўніцтвам Віктара Роўды, спяваў мужчынскі хор «Унія».



У лістападзе 1993 года ў горадзе Чэрвені на доме № 16 па вуліцы Луначарскага была адкрытая мемарыяльная дошка. На ёй напісана, што тут з восені 1941 да лета 1944 года жыў Мікола Равенскі. Дошка-твор скульптара Генадзя Матусевіча, які ўвасобіў у ім тое, што, на яго думку, дапамагло кампазітару выжыць у складаных умовах ваеннага часу. Вера ў Бога і музыка. Агеньчыкі свечак, што ў той дзень прынеслі на ўрачыстасць землякі кампазітара, нібы ачышчалі ягоную трагічную постаць ад усяго несправядлівага і недарэчнага.

Мікола Равенскі нарадзіўся ў снежні 1886 года ў вёсцы Капланцы былога Ігуменскага павета, і менавіта ў гэтыя мясціны ён вярнуўся ў пачатку вайны. На руках у яго апынуліся дзве маленькія дачушкі, і яму давялося іх даглядаць. У Чэрвені яшчэ і сёння жывуць людзі, якія памятаюць Міколу Равенскага або чулі пра яго ад старэйшых. Мне было прыемна слухаць тыя апоявады, таму што вобраз, што склаўся ў маім уяўленні, калі я чытала і пісала пра Міколу Равенскага, нічога не страціў, а ад новых звестак здаваўся яшчэ больш прывабным і яшчэ больш трагічным.

Мікола Равенскі быў глыбока веруючым чалавекам. А выражалася гэта і ў яго паводзінах. У яго добразычлівасці, сціпласці, цярплівасці, прыхільнасці да людзей, уменні іх разумець і дараваць. Ён пісаў духоўную музыку, і творы Міколы Равенскага гучалі і гучаць у храмах.

І ў Чэрвені яго жыццё было звязанае з музыкай, царквой, дзе ён выконваў абавязкі псаломшчыка і стаў рэгентам царкоўнага хору. Дадому да яго прыходзілі вучні, і ён вучыў іх музыцы, спевам. Вучаніцай Міколы Якаўлевіча была і Лідзія Задорына. Яна і цяпер жыве ў Чэрвені, як і ўсе, хто яго ведаў, гаворыць пра Равенскага са спагадай і добразычлівасцю.

– Цяпер я разумею, што ў той час Міколу Якаўлевічу было не надта многа гадоў, – гаварыла Лідзія Задорына, – але мне ён запомніўся як пажылы чалавек, да таго ж заўсёды ў клопатах пра малых дачок, якіх сам карміў і даглядаў. Быў ён заўсёды добрым, мяккім, інтэлігентным, толькі вельмі замардаваным жыццём.

Вось такой была «дзейнасць» Міколы Равенскага на Бацькаўшчыне ў часе Другой сусветнай вайны. Калабарантам не быў, у паліцыі не служыў, акупантаў не праслаўляў, ніякім чынам ім не служыў. І ўсё ж паехаў з імі на Захад. Чаму? У Чэрвені зямляк Міколы Равенскага Уладзімір Дарагуш сказаў:

– Паехаў Мікола Равенскі ў Нямеччыну напрыканцы вайны, і добра зрабіў, што паехаў.

Стала неяк балюча ад гэтых словаў, а Дарагуш так патлумачыў сваю думку:

– Каб застаўся ў Чэрвені, пасадзілі б у турму або проста маглі расстраляць, як здарылася з царкоўным старастам, бяскрыўдным, ціхім чалавекам. Калі горад вызвалілі, нейкі партызанскі інтэндант вывеў яго ў двор і застрэліў. Тое ж магло стацца і з Равенскім.

Думаю, што ўсё гэта Мікола Якаўлевіч прадбачыў і сам. Тым больш, што яшчэ перад вайной яго, мусіць, проста не паспелі арыштаваць і адправіць туды, куды трапілі многія сябры і родны брат Антон. Праўда, праз дваццаць гадоў дачцэ Антона Равенскага выдалі паперку, што ён рэабілітаваны, а на пытанне, дзе ён пахаваны, адказалі: «Нясіце кветкі ў Курапаты».

Лагерны лёс напаткаў і блізкага сябра Міколы — паэта Уладзіміра Дубоўку, які абвінавачваўся ў нацдэмаўшчыне, і гэтая «пляма» аўтаматычна клалася і на блізкіх да яго людзей. Яны ж сябравалі яшчэ з маладосці. Дубоўка аказваў на яго ідэйны, інтэлектуальны і творчы ўплыў. Па словах самога кампазітара, ён сфарміраваў яго як творчую асобу, як нацыянальнага кампазітара, яго ўплыў кіраваўся на тое, каб зрабіць з Равенскага «піянера таго беларускага «ўзвышша», якое пабачаць вякі і народы ў музыцы, ініцыятарам і карыфеем якога ў літаратуры быў Дубоўка». На словы паэта М.Равенскім напісаны выдатныя рамансы і песні, у прыватнасці, на хрэстаматыйны верш «О, Беларусь, мая шыпшына». Апагея супрацоўніцтва двух таленавітых творцаў дасягае ў пару, калі яны прыступаюць да працы над операй «Браніслава». Дубоўка піша лібрэта, Мікола Равенскі — музыку. Першая беларуская нацыянальная опера была амаль скончаная, калі Уладзімір Дубоўка быў на многія гады адарваны ад радзімы, блізкіх людзей, творчасці. А «Браніславу» таксама «арыштавалі». Равенскі вымушаны быў здаць яе ў Народны камісарыят асветы, дзе яна, відаць, і загінула. У дачкі кампазітара Вольгі Мікалаеўны Аляксеенка (Равенскай), якая была артысткай у хоры Віктара Роўды, захавалася толькі арыя Браніславы.

Пасля арышту Дубоўкі, брата Антона, сваёй чаргі чакаў і Мікола Якаўлевіч. Знаёмыя перасталі вітацца, яго выключылі з членаў Саюза кампазітараў, у кансерваторыі, дзе ён выкладаў кампазіцыю і гармонію, пакінулі толькі адзін прадмет – гармонію. Яго нават збіраліся выселіць з кватэры. Ці мог не разумець Мікола Равенскі, што да яго даваенных «грахоў» улады абавязкова дабавяць і тое, што ён знаходзіўся на акупаванай ворагам тэрыторыі, невядома, як паглядзяць і на тое, што служыў у царкве. Шанцаў застацца на волі ў яго не было. Да таго ж, падкасілі яго і сямейныя трагедыі. Загінула Лёля, дачка ад першага шлюбу, расстраляная фашыстамі ў двары мінскай турмы. Яна была сяброўкай і сувязной Ісая Казінца, які стварыў у Мінску падпольную групу і быў сакратаром падпольнага камітэта партыі. Не склалася сям'я і з другой жонкай, якая была значна маладзейшая за яго. Яна забрала дзяўчынак, што былі з Міколам Якаўлевічам у Чэрвені, і ехаць з ім за мяжу адмовілася.

**Творчасць**

Столькі часу мінула ад канца Другой сусветнай вайны. Многія зразумелі: не кожны, хто пайшоў з немцамі на Захад, здраднік. Радзіму пакідалі людзі ні ў чым не вінаватыя перад ёй, але апанаваныя страхам за сваю будучыню, за будучыню блізкіх і страхам, на жаль, зусім не беспадстаўным. Апынуўшыся за мяжой, яны часцей за ўсё мелі зусім нялёгкае жыццё, але і там заставаліся сумленнымі людзьмі, і як маглі, служылі сваёй радзіме. Такі ж лёс і ў Міколы Равенскага. Апынуўшыся ў Нямеччыне, ён перамяніў некалькі лагераў для перамешчаных асобаў, працаваў рабочым на лесапільным заводзе, але ў так змрочны час не зрокся музыкі. У лагеры ён напісаў музыку да верша «Магутны Божа». Запісаў і згарманізаваў мноства народных песень (у большасці польскіх), пачутых на чужыне ад такіх жа ўцекачоў, якім быў сам.

У Рэгенсбургу М.Равенскі стварыў хор, які праз два месяцы пачаў заваёўваць першыя месцы на міжнародных конкурсах. За кароткі час з групы вясковых дзяўчат пад кіраўніцтвам вопытнага кіраўніка вырас беларускі жаночы ансамбль, які «сваёй народнасцю захапляў слухачоў незалежна ад іх стану ці нацыянальнасці», – пісалі тыя, хто меў шчасце прысутнічаць на яго канцэртах. Тысячы беларусаў, раскіданых па Нямеччыне, адарваных ад роднай глебы, чакалі сваю нацыянальную песню, бо была яна для іх нібы глыток свежага паветра. Думаю, што і для самога Міколы Равенскага сэнсам жыцця на чужыне стала народная песня, якая запала ў душу з ранняга юнацтва і з якой ён не расстаўся да скону. Збіраць і апрацоўваць народныя песні Мікола Равенскі пачаў, мусіць, у час працы ў Навагрудку школьным настаўнікам спеваў ды рэгентам царкоўнага хору яшчэ перад першай сусветнай вайной. Багаты песенны матэрыял прывозіў з фальклорных экспедыцыяў са Случчыны і Магілёўшчыны. У 1922 годзе выйшаў першы і, бадай, адзіны «Зборнік песень з нотамі» кампазітара Міколы Равенскага, у які былі ўключаныя апрацоўкі народных песень і ўласныя кампазіцыі на вершы вядомых беларускіх паэтаў. Зборнік і да гэтага часу амаль нікому невядомы, як невядома і тое, што многія песні, што лічацца народнымі, маюць аўтара. Так здарылася з шырока вядомай песняй на словы Канстанцыі Буйло «Люблю наш край». І да гэтага часу нідзе не аб'яўлена, што музыку на вершы паэтэсы напісаў кампазітар Мікола Равенскі.

Першымі буйнымі творамі кампазітара была аперэта «Залёты» паводле В.Дуніна-Марцінкевіча і сюіта на словы паэткі К.Буйло «Курган». Ён аўтар «Вялікай сюіты» на беларускія тэмы для фартэпіяна, п'есы «На выгнанні», «Фантазіі» для скрыпкі і фартэпіяна. І ва ўсёй, нават ва ўрачыстай і стрыманай духоўнай музыцы, напісанай М.Равенскім, адчуваецца ўздзеянне беларускага фальклору.

Апошнія тры гады – з 1950 да 1953 года – Мікола Равенскі жыў у Бельгіі, у горадзе Лювене, куды быў запрошаны і кіраваў студэнцкім харавым ансамблем пры Лювенскім універсітэце. З гэтым калектывам ён выступаў у многіх гарадах, і не толькі ў Бельгіі, але і ў Парыжы, і ўсюды канцэрты беларускай песні праходзілі з трыумфам.

Што да асабістага жыцця кампазітара, то і пра апошнія гады даводзіцца пісаць, што былі яны нялёгкімі. Мікола Якаўлевіч цяжка захварэў, музыкай мог займацца, калі боль ненадоўга адступаў... Сям'і ў яго не было, блізкімі людзьмі былі студэнты, якія мелі з ім самыя цёплыя, прыязныя стасункі.

Сярод харыстаў быў і сённяшні вядомы ў замежжы гісторык Янка Запруднік. Прыгадваючы свайго настаўніка, ён адзначае яго самаахвярнасць, вялікую цярплівасць і добразычлівасць Міколы Равенскага, якія ён як сапраўдны інтэлігент і чалавек глыбока веруючы захоўваў да канца дзён.

Памёр Мікола Равенскі ў 1953 годзе. Пахаваны ў Лювене.

Інтэлігенты старэйшага пакалення памяталі Міколу Равенскага яшчэ з даваенных часоў. Так, дзякуючы Васілю Вітку змагла ўбачыць я «Зборнік песень з нотамі», які ён захоўваў доўгія гады, чакаў свайго часу і быў перададзены дачцэ М.Равенскага.

Сама постаць кампазітара цікавіла і Васіля Вітку, і ён пісаў пра яго: «Чамусьці ў нас, беларусаў, надзіва, нетрывалая памяць, як дзіравае рэшата. За якое адно пакаленне нават наша інтэлігенцыя можа начыста забыць, хто што добрае зрабіў для свайго народа. Прыгадваем вершы, спяваем песні, а хто іх напісаў, стварыў музыку, часцей за ўсё, не ведаем». Свой горкі роздум пісьменнік заканчвае словамі: «Нізкі паклон табе, сапраўдны надзвіннік, кампазітар, годны высокай, народнай пашаны».

Паводле "Наша Свабода".

**Ад Рэдактара...**

Гэты, пабольшаны, № нашае газэты выдаецца дзякуючы нашаму спонсару-чытачу з заходняе Эўропы. Дзякуем за шчырую ахвярнасьць і патрыятызм!.

Пры гэтым напамінаем нашым чытачам-патрыётам не забывацца пераслаць сваю ахвяру на выдавецкі Фонд "Беларускага Дайджэсту"...

# КАЛІ АБВЕСЬЦЯЦЬ АДЗІНАГА ДЭМАКРАТЫЧНАГА КАНДЫДАТА?

Ці не спазьняецца беларуская апазыцыя з вызначэньнем адзінага кандыдата? Ці мае шанцы выйграць прэзыдэнцкія выбары дэмакратычны кандыдат? Што будуць рабіць дэмакратычныя сілы ў выпадку, калі ўлада пойдзе на сілавы варыянт?

Гэтаму прысьвечаная дыскусія за круглым сталом. У ёй бяруць удзел Старшыня БНФ Вінцук Вячорка і аглядальнік часопіса "Кур'ер" Вадзім Казначэеў.

(Цыганкоў:) "Да прэзыдэнцкіх выбараў застаецца ня так шмат часу — каля паўгода. Людзі, якія прагнуць пераменаў у нашай краіне, усё часьцей задаюць пытаньне — дзе ж той агульны кандыдат, пра якога гавораць дэмакратычныя сілы.

Больш за тое, людзі, якія бачаць гэтага кандыдата, усё часьцей задаюць крытычныя пытаньні — чаму гэтага кандыдата дагэтуль няма, за каго мы павінны будзем агітаваць, як галасаваць на выбарах.

Спадар Вячорка, ці не здаецца вам, што гэтая паўза, якую зараз трымае КРДС, трошкі зацягнулася, і час бы грамадзтву нешта сказаць наконт адзінага кандыдата?"

(Вячорка:) "Я сам, сустракаючыся зь людзьмі, выяжджаючы ў рэгіёны, добра адчуваю гэты ціск — "калі нарэшце назавяце таго, дзеля каго будзем ахвяраваць"?

Бо людзі сапраўды гатовыя абыходзіць кватэры, распаўсюджваць мільёны ўлётак, рабіць усю іншую патрэбную працу, якая, дарэчы вымагае мабілізацыі дзясяткаў тысячаў людзей па ўсёй Беларусі. Але кандыдат павінен быць пэрсаніфікаваны.

Скажу, што мы ідзем у нармальным тэмпе, што звужэньне сьпісу да трох па стане на сьнежань было вельмі добрым посьпехам. Іншая рэч, што ўжо на дварэ люты, і сапраўды сьпіс з трох, які абвесьціла адзіная сёньня існая кааліцыя — КРДС — ён павінен быць звужаны.

Я з аднаго боку разумею журналістаў, якія хацелі б штодзённых падзеяў, сэнсацыяў і так далей, але з другога боку, тая ціхая кулюарная праца, зьвязаная з асэнсаваньнем прэтэндэнтамі сваіх рэальных магчымасьцяў — яна ж намарна не сыходзіць.

Я так думаю, што на працягу самага бліжэйшага часу сьпіс прэтэндэнтаў, якія будуць падтрыманыя Каардынацыйнай Радай, вельмі істотна скароціцца.

І зьвязана гэта з тым, што прэтэндэнт, які разьлічвае на падтрымку структураў Каардынацыйнай Рады (яшчэ раз падкрэсьлю, сёньня гэта адзіная кааліцыя, якая распараджаецца агульнанацыянальнымі, гатовымі да працы й дасьведчанымі структурамі) — гэты прэтэндэнт павінен выказаць сваю згоду з рашэньнямі, якія прыме Каардынацыйная рада і Кангрэс дэмакратычных сілаў. Калі не — значыць, ён ня можа быць у сьпісе".

(Цыганкоў:) "Дагэтуль ня вызначыліся і зь іншым пытаньнем. Няма згоды наконт таго фармату, у якім будуць удзельнічаць дэмакратычныя сілы на гэтых выбарах.

Іншымі словамі — ці павінен быць адзіны кандыдат, ці некалькі кандыдатаў, ці варыянт кандыдата з дублёрам.

Спадар Казначэеў, які варыянт, па-вашаму, найбольш пасаваў бы для перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах?"

(Казначэеў:) "На маю думку, імя гэтага адзінага кандыдата павінна было быць названа... ну я ня ведаю, прынамсі летась, а я думаю, яшчэ паўгода таму.

Каб з малавядомага чалавека зрабіць раскручаную фігуру, якая сапраўды б здолела сабраць большасьць галасоў... Паглядзіце на расейскі прыклад. З Пуціна змаглі зрабіць, бо на яго працавала ўся дзяржаўная машына. Уся дзяржаўная машына будзе працаваць супраць дэмакратычнага кандыдата.

Што ж да таго, ці павінен ён быць адзін — улада не дапусьціць, каб ён быў адзіны. Найбольш рэальны сцэнар — вось падрыхтавалі зараз каштарыс на 15 кандыдатаў, прыблізна столькі іх і будзе.

Верагодна, улада будзе сама падштурхоўваць — ня тое што "зарэзаць" кагосьці, яна зацікаўленая, каб было як мага больш кандыдатаў. На жаль, улада гэта сьцяміла ўжо — ёй трэба, каб разрыў між першым апазыцыйным прэтэндэнтам і Лукашэнкам быў як мага большым".

(Цыганкоў:) "Спадар Вячорка, што вы скажаце на папрокі, што дэмакратычныя сілы спазьніліся з вызначэньнем адзінага кандыдата?"

(Вячорка:) "Не, мы не спазьніліся. Калі глядзець на аналёгіі, то я прывяду сэрбскую. Імя Каштуніцы назвалі за пару месяцаў да выбараў. І нягледзячы на тое (а можа быць дзякуючы таму), што супраць яго працавала ўся машына дзяржаўнай прапаганды — такая самая, як у нас — вынікі мы ведаем.

Мяркую, што часу ў нас дастаткова, градус грамадзкага спадзеву вельмі высокі, і людзі з надзеяй чакаюць імя. Варта яго толькі назваць, як яно загучыць і загрыміць, і будзе адпаведная ступень гатоўнасьці бараніць дэмакратычную пэрспэктыву. Беларусі, калі, скажам, гэтага прэтэндэнта не зарэгіструюць.

Чаму не выпадае прысьпешваць вызначэньне адзінага кандыдата? Нельга ж ламаць сытуацыю праз калена, нельга перасварыцца пры гэтым. Трэба захаваць як мага шырэйшую кааліцыю. І гэтае пытаньне — з увагі на людзкія амбіцыі, з увагі на ранейшыя нашыя памылкі, якіх мы не хацелі бы паўтараць, яно вымагала крыху часу й гэтай самай кулюарнай узгадняльнай працы".

(Цыганкоў:) "Большасьць беларускіх сацыёлягаў і некаторыя аналітыкі лічаць, што ня можа прэзыдэнцкія выбары выйграць кандыдат, які будзе асацыявацца зь сёньняшняй апазыцыяй.

Ня можа выйграць кандыдат, што будзе вылучаны ад дэмакратычных сілаў і зацьверджаны на нейкім зьездзе. Ваша меркаваньне з гэтай нагоды?"

(Казначэеў:) "На жаль, гэта сапраўды вельмі распаўсюджанае меркаваньне.

Я б хацеў у гэтай сувязі прывесьці прыклад з нашай найноўшай гісторыі. Аляксандар Лукашэнка абсалютна не адпавядаў таму вобразу, які малявалі тады сацыялягічныя службы. Ён ня быў лагодным, талерантным, памяркоўным і гэтак далей. Але ён апынуўся ў патрэбны час у патрэбным месцы, і здолеў выціснуць максымум з гэтага — зрабіцца прэзыдэнтам.

Я ўпэўнены — пакуль не зьявіцца фігура, якая прымусіць гуляць паводле сваіх правілаў, якая будзе здольная паказаць, што менавіта яна ёсьць прэтэндэнтам № 1, посьпех малаверагодны.

А калі такая асоба зьявіцца — з дэмакратычнага асяродку ці нават сябра партыі, то ўсё прыкладзецца. І калі гэты чалавек будзе здольны зрабіцца папулярным, тады й грамадзкая думка хісьнецца й будзе называць пажаданымі тыя якасьці, якія ўласьцівыя гэтай асобе".

(Цыганкоў:) "Ці павінен кандыдат, як раяць сацыёлягі, гаварыць тое, што падабаецца народу, ці ён павінен быць проста моцным чалавекам са сваімі прынцыпамі, якія адпавядаюць прынцыпам дэмакратычных сілаў?"

(Вячорка:) "Зважаць на тое, што бачыцца нашым людзям як найбалючыя праблемы, — бясспрэчна трэба. Але разам з тым ані прэтэндэнту, ані тым сілам, якія яго падтрымліваюць, нельга адмаўляцца ад сваёй сутнасьці, сваёй самаістасьці.

Калі раптам можна было б дапусьціць, што значнай частцы нашых людзей дагэтуль хочацца ўлучыцца ў Расею — з гэтага ж не вынікае, што мы дасягнем такой ступені цынізму (разбуральнага цынізму, у тым ліку для будучыні нашага грамадзтва), што пачнем на гэтым спэкуляваць дзеля дасягненьня электаральнага посьпеху.

Па-першае, тут і Лукашэнку не пераплюнеш, а па-другое, ёсьць межы любой тэхналягічнасьці, у тым ліку перадвыбарчай.

Згаджаюся са спадаром Казначэевым, у тым, пра што ён гаварыў, выступаючы на круглым стале 9 лютага. Ня можа апанэнт Лукашэнкі выглядаць неапазыцыйна. Гэта наадварот ягоны рэсурс — кантраст з Лукашэнкам. І на гэтым кантрасьце, на чаканьні інакшасьці можна й трэба згуляць у добрым сэнсе.

І яшчэ зазначу — папулярнасьць ствараецца. Яна ствараецца ў тым ліку ўлёткамі, паходамі ад дзьвярэй да дзьвярэй, вось гэтай штодзённай мурашынай, на першы пагляд, малазаўважнай працай нашых людзей".

(Цыганкоў:) "Мы ня можам у нашай размове не закрануць яшчэ аднаго, сілавога варыянту разьвіцьця падзеяў.

Калі ўлада зрывае выбары альбо не рэгіструе асноўнага (ці адзінага) апазыцыйнага кандыдата, альбо фальшуе вынікі галасаваньня. Ці гатовыя дэмакратычныя сілы да такога разьвіцьця падзеяў?

І тут я прыгадаю 1992 год, калі скасаваньне рэфэрэндуму было цалкам нечаканым для БНФ, які нічога ня здолеў супрацьпаставіць гэтаму. І 1996 год, калі канстытуцыйны пераварот, учынены Лукашэнкам, не знайшоў аніякага супраціву з боку Вярхоўнага Савету.

Ці ёсьць зараз нейкая канкрэтная праграма дзеяньняў дэмакратычных сілаў на выпадак разьвіцьця падзеяў па сілавым варыянце?"

(Вячорка:) "Не хацелася б варушыць старое, але ў 1992 годзе ў самім БНФ якраз былі прагнозы наконт незацьверджаньня рэфэрэндуму ў Вярхоўным Савеце, і адпаведна, памкненьні выводзіць людзей на вуліцы.

На вялікі жаль, тады перамагла заспакаяльная пазыцыя.

Што да сёньняшняга прагнозу — ясна, што Лукашэнка можа пайсьці на сілавы варыянт. У зьвязку з гэтым нам, натуральна, зважаючы на сэрбскі досьвед, трэба зыходзіць з таго, што перамогу прыйдзецца бараніць не пасьля яе дасягненьня, а, магчыма, яшчэ да гэтага".

(Казначэеў:) "Я б дужа хацеў, каб я стаўся кепскім прарокам у гэтай сытуацыі, але на маю думку, прагноз несуцяшальны. Сілавы варыянт, гледзячы на ўсе дзеяньні Лукашэнкі, найбольш верагодны.

А менавіта — выбары пройдуць са страшэннымі парушэньнямі, назаўтра абвесьцяць, што Лукашэнка перамог у першым туры зь вялікай колькасьцю. І далей, разьлік апазыцыі на сэрбскі варыянт не здаецца мне вельмі рэальным у нашых умовах".

(Вячорка:) "Я толькі скажу, што ступень чаканьняў грамадзтва цяпер высокая. Нашая справа, справа нашай правільнай інфармацыйнай палітыкі, гэтаму градусу ня даць зьнізіцца, а яго падвысіць.

Шанец на перамогу як ніколі высокі, і трэба ўлічваць акрамя настрояў грамадзтва ў цэлым, настроі той ягонай часткі, якая завецца элітай. Эліта ў сваёй сьвядомасьці Лукашэнку ўжо здала". Паводле "Радыё Свабода".

## УЖО АФІЦЫЙНЫЯ КАНДЫДАТЫ...

23 лютага Павал Казлоўскі афіцыйна заявіў журналістам, што зьбіраецца браць удзел у кампаніі выбараў прэзыдэнта Беларусі. Патэнцыйны кандыдат на пасаду кіраўніка дзяржавы цягам выбарчае кампаніі плянуе абапірацца на самыя шырокія пласты грамадзтва. Павал Казлоўскі распавёў, што апошнімі днямі на яго пачаўся ціск. Экс-міністар абароны быў выкліканы ў ваенную пракуратуру, якая, праз 8 гадоў, стала вышукваць крымінал у продажы ягоным ведамствам мэталалому, атрыманага ў выніку зьдзяйсьненьня праграмы канвэрсіі.

Старшыня Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімер Ганчарык пацьвердзіў свой намер удзельнічаць у будучых прэзыдэнцкіх выбарах. Цяпер У.Ганчарык рыхтуе сваю перадвыбарчую праграму. Акцэнт у праграме будзе зроблены на перагляд падаткавай сыстэмы, стварэньне ўмоваў для разьвіцьця розных формаў гаспадараньня, на прыцягненьне інвэстыцыяў, а таксама рэфармаваньне заробатнай платы. У. Ганчарык ня выключае магчымасьці аб'яднаньня зь іншымі кандыдатамі з мэтаю перамогі на выбарах. Зь ягоных словаў, ужо існуе дамоўленасьць з С. Домашам, М. Чыгіром і П. Казлоўскім пра сумесныя дзеяньні.

# НАМ ПІШУЦЬ...

Паважаны Спадар Рэдактар!

Я часта атрымліваю лісты з Беларусі і таксама пішу ў Беларусь. У сваіх лістох я стараюся нагадаць, каб беларусы не празявалі свае шансы пры выбарах новага прэзыдэнта краіны. Мне пішуць (праўда, пераважна сяляне), што яны не спадзяюцца на лепшае, а наадварот спадзяюцца горшага, бо беларусы могуць страціць пэнсіі, а Расея можа закрыць газ і інш...

Каб беларусы мелі добрага гаспадара ў сваёй краіне, якi-б дбаў пра дабро людзей, было-б усё напэўна лепш. Я быў на Беларусі ў 1995 г. У Менску заходзіў у крамы, каб набыць сабе беларускія кружэлкі. На мяне пазлядалі неяк скоса і казалі: мы ўсё маем на рускай мове. На Беларусі поўна хлусьні і адсталасьці...

З павагай Павал Б., Вінніпэг, Канада.

* * * * * *

## КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКІХ ПРАВАСЛАЎНЫХ ПРЫХОДАЎ у МАНЧЭСТЭРЫ, АНГЛІІ.

*(Сьвяткаваньне Тройцы 18.06.00)*

Горад Манчэстар — вялікі цэнтр тэкстыльнай прамысловасьці ў паўночна-заходняй Англіі. Ёсьць тут ведамыя унівэрсытэты, палітэхнікі, вялікія бібліятэкі, тэатры, Між іншым, на пачатку XX стагодзьдзя на Манчэстарскім унівэрсытэце працаваў вучоны, першы прэзыдэнт Ізраіля, прафэсар-хімік Хаім Вэйцман, ураджэнец гарадка Моталь на Палесьсі.

Пасьля другой сусьветнай вайны многа беларусаў пасяліліся ў Манчэстэры і ваколіцах, і ўладзіліся на працу ў тэкстыльных фабрыках. Прыехалі яны сюды пры канцы 40-х гадоў, пераважна з Нямеччыны ды польскага войска (Італіі, Англіі, Нямеччыны).

У тым самым часе пасяліўся і заложыў праваслаўную парафію ў Манчэстэры сьвятар Усевалод Яськоў з юрыздыкцыі Польскай Праваслаўнай царквы. Айцец У. Яськоў — расеец па паходжаньні і да вайны жыў на Віленшчыне. У Англію прыехаў з польскім войскам з Італіі дзе быў вайсковым капэлянам у чыне капітана. Новапаўсталая парафія была адзінай, за вынятка грэцкай, праваслаўнай парафіяй у Манчэстэры. На Божую літургію прыходзілі беларусы, расейцы, украінцы і сэрбы. Літургіі адбываліся на стараславянскай мове і гэта надавала парафіі "ўсеславянскае" аблічча. Аднак, дзеля розных прычынаў, часткова з нацыянальна-патрыятычных пачуцьцяў, часткова з палітычных перакананьняў, а часткова із-за палянафільскага настаўленьня самога айца Усевалода, — ад парафіі адышлі расейцы, украінцы і частка беларусаў, каб арганізаваць свае нацыянальныя парафіі са сваімі сьвятарамі.

Беларусы заложылі сваю парафію, якую ачоліў а. А. Крыт. Юрыдычна яна належала да Беларускай Аўтакафальнай Праваслаўнай царквы. Пасьля ад'езду а. Аляксандра ў ЗША, парафію пераняў а. Янка Абабурка, які зьяўляецца настаяцелем гэтага прыходу па сёньняшні дзень. Царква называецца "Жыровіцкае Божае Маці". Юрыдычна належыць да мітр. Ізяслава ў ЗША.

У канцы 50-х гадоў адыйшло яшчэ больш беларусаў ад парафіі а. Ўсевалода і прылучыліся да новапаўсталай беларускай праваслаўнай парафіі а. А. Міраноўіча, які падлягаў Грэцкай Праваслаўнай царкве.

На пачатку 60-х гадоў а.а. Усевалад і Алег выехалі ў ЗША. Парафія а. Ўсевалада зьліквідавалася, а беларускую парафію а. Алега абняў а. Арсені Кажэнеўскі, украінскага паходжаньня, які даязджаў у Манчэстэр з г. Лідс. Гэта было нявыгадна ані а. Арсеню, ані Манчэстэрскай парафіі. Сытуацыю выратаваў а. М. Шабунька (беларус), які пачаў памагаць а. Арсеню ў Багаслужбах, а потым стаў служыць самастойна. а. М. Шабунька доўга не служыў.

Пасьля сьмерці а. Шабунькі, парафія засталася ізноў без настаяцеля. Але ня доўга. Пачаліся перамовы з а. М. Іскрыцкім, які пагадзіўся перайсьці пад юрыдыкцыю Грэцкай царквы. І так паўстала паяднаньне парафіі а. М. Іскрыцкага з былой парафіяй а. А. Міраноўіча.

У аб'яднанай парафіі ёсьць свая, вельмі прыгожая царква, якая носіць імя Сьвятога Мікалая. У царкву прыходзяць пераважна беларусы, хоць апошнім часам пачалі прыходзіць і ангельцы (праваслаўныя).

Цяпер у Манчэстэры ёсьць дзьве беларускія праваслаўныя парафіі. У адной з іх — настаяцелем а. М. Іскрыцкі, а ў другой а. Я. Абабурка. У парафіях людзі пераважна старыя. Колькасьць прыхажанаў у кожнай парафіі з кожным годам зьмяншаецца. Сьвятары Міхась і Янка таксама не маладыя. Дзеля гэтага некаторыя парафіяне думаюць, што добра было-б гэтыя дзьве парафіі аб'яднаць і гэтым самым прадоўжыць існаваньне беларускага праваслаўнага прыходу ў Манчэстэры.

Дзеля гэтага, каб зрабіць нейкі пачатак, 18-га чэрвеня, 2000, у дзень Сьвятой Тройцы, у царкву Сьв. Мікалая ў Манчэстэры сабралася многа людзей з Манчэстэра, Лёндана і іншых мясьцінаў. Прыехаў таксама а. Я. Абабурка з часткаю сваіх парафіянаў. Прыехаў і а. А. Сідаровіч, які належыць да Грэцкай царквы.

Сьвятую літургію служылі супольна ўсе тры сьвятары. Мясцовы хор, дапоўнены харыстамі з Лёндану, сьпяваў прыгожа. Усё адбывалася ўрачыста і выклікала добры настрой. а. Міхась прамовіў адпаведную казань. Божая літургія закончылася адсьпяваньнем "Магутны Божа..."

Пасьля літургіі выступіў Д. Фіцпатрык-Томпсон (ангелец) і прывітаў усіх гасьцей. Сказаў ён, што мэтай сустрэчы ёсьць супольнае ўдзельнічаньне ў Божай літургіі, і што ён сам ды іншыя ангельцы, парафіяне гэтай царквы, прынялі праваслаўе і бяруць удзел у царкоўным жыцьці прыходу. Таксама ён падзякаваў беларусам, што прынялі іх — ангельцаў у сваю парафію. Трэба адзначыць, што сп. Фіцпатрык-Томпсон чытае часы і апостала на царкоўна-славянскай мове, ды сьпявае ў царкоўным хоры.

Затым прамаўляў па беларуску сп. Міхась Швэдзюк. Ад імя а. Міхася, Царкоўнай Рады і парафіянаў Сьв. Мікалая, прывітаў а.а. Янку і Аляксандра ды ўсіх гасьцей. Паводле слоў сп. М. Швэдзюка, гэтая супольная Богаслужба трыма сьвятарамі ёсьць падзеяй амаль-што гістарычнай у жыцьці беларускіх парафіяў у Манчэстэры. Гэта вельмі добры пачатак, а як будзе далей пакажа прышласьць. Спадар М. Швэдзюк таксама падзякаваў усім тым, хто прычыніўся да прыгатаваньня абеду-прыняцця.

Было цёплае, сонечнае надвор'е. У агародзе ля царквы расставілі сталы за якія заселі ўсе прысутныя. Усё было арганізавана добра, прыгожа, дасканала.

Але час не стаіць на месцы. З сумам трэба было разьвітвацца з блізкімі і далёкімі сябрамі і сяброўкамі... але ёсьць добрая надзея, што такія спатканьні будуць адбывацца часьцей...

Міхась Швэдзюк, Англія.

## Бездань невуцтва, цемрашальства і нянавісці

На Беларускім тэлебачанні нядаўна прайшоў фільм «Душехваты» з серыі фільмаў Ю.Азаронка. Аўтар узяўся за тэму пра дзейнасць Каталіцкага Касцёла ў свеце і на Беларусі, не ведаючы ні гісторыі Касцёла, ні яго душпастырскай дзейнасці. Гледачам адразу кідаецца ў вочы непрафесійнасць мантажу фільма і поўная адсутнасць логікі сюжэту.

Фільм уяўляе сабою мазаіку асобных эпізодаў з розных гістарычных кінастужак, калі за некалькі секунд змяняюцца кадры з фільмаў пра падзеі XIII, XVI і XX стагоддзяў. Напрыклад, аповед пра езуітаў (Ордэн створаны ў XVI ст.) ілюструецца кадрамі з фільма «Александр Невский» (паказвае падзеі XIII ст.). Прымітыўныя ўстаўкі пра Рымскага Папу і каралёў, што паводле пададзенага тэксту цалуюць туфлюк, прымушаюць задумацца: ці ведае аўтар фільма, што калісьці, вельмі даўно, цалавалі крыж на туфлі, а не саму туфлю.

У фільм пра Каталіцкі Касцёл уведзены кадры пра Я. Гайдара, Б. Ельцына, М. Гарбачова, якія да Каталіцкага Касцёла не маюць ніякага дачынення. Далей чамусьці сцвярджаецца, што згаданыя асобы, а таксама кароль Ягайла знаходзіліся пад моцным уплывам сваіх жонак, таму выконвалі волю Захаду. Зусім недарэчы раптам пачынаецца гаворка пра NATO (без якога, відаць, фільм не меў бы сваёй паўнаты), а затым магутнасць нашых Узброеных сіл ілюструецца вайсковым парадам.

Пагардлівае стаўленне не толькі да Каталіцкага Касцёла, але і да яго іерархаў — Рымскага Папы, кардыналаў, біскупаў — прымушае нас выступіць з пратэстам супраць безгустоўнага, антыгістарычнага фільма, які прыніжае і зневажае наш народ, частка якога з'яўляецца католікамі, і вядзе да распальвання міжканфесійнай варожасці. Шкадуем, што беларускае тэлебачанне паказвае такога кшталту нізкапробныя прапагандысцкія фільмы, якія штурхаюць гледачоў у бездань невуцтва, цемрашальства, сляпой агрэсіі і нянавісці. Лічым недапушчальным паказ на БТ фільмаў, якія носяць антыдзяржаўны, антыграмадскі, антыбеларускі, антычалавечы характар.

Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, Уладзімір КОНАН, Адам МАЛЬДЗІС, Генадзь САГАНОВІЧ, Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК

Дарагія сябры! Дасылаю вам падборку вершаў.
Тамара Храпавіцкая з места Паставы, Беларусь.

* * *

Я была сярод тых, што ляжаць у Курапатах,
І ад стрэлу ў сэрца ня раз памірала.
Як другія сядзелі спалохана ў хатах,
Я душу за Радзіму сваю ўкрыжавала.
Я была сярод тых, хто ад ганьбы і стомы
Паміраў у далёкай халоднай Сібіры.
Нашы мары і думкі засталіся дома,
А над намі няма ні крыжа, ні магілы.
Не была сярод тых, каго звалі рабамі,
Не была сярод тых, што жылі пад прымусам,
Не была сярод тых, каго клічуць панамі,
І мой сын не манкурт, ён расьце беларусам!

* * *

Блакітнае неба і водар ігрушы,
Зялёны мурог паабапал шашы.
Бязвольныя сэрцы і сьмецьце ў душах,
Маўчанье рабоў у магільнай цішы.
Жытнёвае поле, духмянае сена,
Вясёлага коніка жнівеньскі звон...
Сагнуўся народ і паўзе на каленах,
Брыдзе на усход у маскоўскі палон.
Навошта зямлі маёй рабская доля?
Навошта ярмо табе, родны народ?
Няўжо Беларусь мая трапіць ў няволю
І стане слугою маскоўскіх гаспод?

* * *

Ня буду жыць, як мыш у норцы,
Па хвалях лёсу марна плыць.
А буду я падобна зорцы
Гарэць і ярка ўсім сьвяціць!
Няхай мільгну як зьнічка ў небе,
Няхай згару хутчэй за ўсіх,
Ды прарастуць у роднай глебе
Зярняты мар і дум маіх!
І зазьвініць калосьсем звонкім
Гаворка родная мая.
Шчасьлівай будзь, мая старонка!
І вольнай будзь, без маскаля!

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ.

Мы атрымалі наступныя выданьні:

1. **Czasopis.** Беларускі грамадзка-культурны месячнік у Польшчы. № 1 і № 2. 2001, Беласток, 51 бач. і 40 бач.
2. **Камунікат.** Бюлетэнь Рэдакцыі Радыё Паленія, № 3 і № 4, 2000, Варшава, 32 і 36 бач.
3. **Год Беларускі 2001**, кніга № 2, Villa Sokrates. Крынкі, Беласточчына, 2001, 245 бач.
4. **Bialoruskie Zeszyty Historyczne**, Беларускі гістарычны зборнік. Беларускае гістарычнае таварыства ў Польшчы, кніга № 14, 2000, Беласток, 245 бач.
5. **BELARUS: Stalled at the Crossroads.** Commission on Security and Cooperation in Europe, Washington, USA., 2000, 80 s.
6. **Царкоўны Пасланец.** Паведамленьні Парахвіяльнае Рады Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, Нью Джэрзі, ЗША., № 2/50, 2000, 16 бач.
7. **Belarusian News Bulletin,** Published by the Anglo-Belarusian Society in English language, London, England, No. 1(11), 2001, 10 s.
8. **Хто ёсць Хто сярод беларусаў свету.** Энцыклапедычны даведнік. Частка І. Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах. Мінск, 2000, 321 бач.



Шэсьць замежных грамадзянаў -- адзін зь Вялікабрытаніі й пяцёра з ЗША -- арыштаваў 21 лютага ў памежнай зоне патруль Лідзкага памежнага атраду. Замежнікі патлумачылі, што хацелі наведаць могілкі ў мястэчку Радунь Воранаўскага раёну. Разам зь імі быў затрыманы й грамадзянін Беларусі, які даставіў іх у памежную зону на верталёце. Пасьля разьбіральніцтва замежных грамадзянаў вывезлі з памежнай зоны.